# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕВЯТАЯ*



МІНСК — 1939

# ПРАМОВА ПА РАДЫЁ СТАРШЫНІ СОВЕТА НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ САЮЗА ССР тав. В. М. МОЛАТАВА

## *17 верасня 1939 г.*

Таварышы! Грамадзяне і грамадзянкі нашай вялікай краіны!

Падзеі, выкліканыя польска-германскай вайной, паказалі ўнутраную несастаяцельнасць і яўную нядзеездольнасць польскай дзяржавы. Польскія правячыя кругі абанкроціліся. Усё гэта адбылося за самы кароткі тэрмін.

Прайшло якіх-небудзь два тыдні, а Польшча ўжо страціла ўсе свае прамысловыя ачагі, страціла большую частку буйных гарадоў і культурных цэнтраў. Няма больш і Варшавы, як сталіцы польскай дзяржавы. Ніхто не ведае аб месцапрабыванні польскага ўрада. Насельніцтва Польшчы кінута яго незадачлівымі кіраўнікамі на волю лёсу. Польская дзяржава і яе ўрад фактычна перасталі існаваць. У сілу такога становішча заключаныя паміж Совецкім Саюзам і Польшчай дагаворы спынілі сваё дзеянне.

У Польшчы стварылася становішча, якое патрабуе з боку Совецкага ўрада асобых клопатаў у адносінах безапаснасці сваёй дзяржавы. Польшча стала зручным полем для ўсякіх выпадковасцей і нечаканасцей, якія могуць стварыць пагрозу для СССР. Совецкі ўрад да апошняга часу аставаўся нейтральным. Але ён у сілу ўказаных акалічнасцей не можа больш нейтральна адносіцца да стварыўшагася становішча.

Ад Совецкага ўрада нельга таксама патрабаваць абыякавых адносін да лёсу адзінакроўных украінцаў і беларусаў, якія пражываюць у Польшчы і раней знаходзіліся на становішчы бяспраўных нацый, а цяпер і зусім кінуты на волю выпадку. Совецкі ўрад лічыць сваім свяшчэнным абавязкам падаць руку дапамогі сваім братам-украінцам і братам-беларусам, якія насяляюць Польшчу.

З прычыны ўсяго гэтага ўрад СССР перадаў сёння раніцою ноту польскаму паслу ў Маскве, у якой заявіў, што Совецкі ўрад аддаў распараджэнне Галоўнаму Камандаванню Чырвонай Арміі даць загад войскам перайсці граніцу і ўзяць пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Совецкі ўрад заявіў таксама ў гэтай ноце, што адначасова ён мае намер прыняць усе меры к таму, каб вызваліць польскі народ са злопалучнай вайны, куды ён быў увергнут яго неразумнымі кіраўнікамі і даць яму магчымасць зажыць мірным жыццём.

У першых чыслах верасня, калі праводзіўся частковы прызыў

запасных у Чырвоную Армію на Украіне, у Беларусі і яшчэ ў чатырох ваенных акругах, становішча ў Польшчы было няясным, і гэты прызыў праводзіўся, як мера перасцярогі. Ніхто не мог думаць, што польская дзяржава выявіць такое бяссілле і такі быстры развал, які цяпер ужо мае месца ва ўсёй Польшчы. Паколькі, аднак, гэты развал у наяўнасці, а польскія дзеячы поўнасцю абанкроціліся і няздольны змяніць становішча ў Польшчы, наша Чырвоная Армія, атрымаўшы буйнае папаўненне па апошняму прызыву запасных, павінна з чэсцю выканаць пастаўленую перад ёю пачотную задачу.

Урад выражае цвёрдую ўпэўненасць, што наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія пакажа і на гэты раз сваю баявую магутнасць, свядомасць і дысцыпліну, што выкананне сваёй вялікай вызваленчай задачы яна пакрые новымі подвігамі, гераізмам і славай.

Разам з тым, Совецкі ўрад прэправаДзіў копію сваёй ноты на імя польскага пасла ўсім урадам, з якімі СССР мае дыпламатычныя адносіны, і пры гэтым заявіў, што Совецкі Саюз будзе праводзіць палітыку нейтралітэта ў адносінах усіх гэтых краін.

Гэтым вызначаюцца нашы апошнія мерапрыемствы па лініі знешняй палітыкі.

Урад звяртаецца таксама да грамадзян Совецкага Саюза з наступным раз'ясненнем. У сувязі з прызывам запасных сярод нашых грамадзян заўважылася імкненне накапіць пабольш харчоў і іншых тавараў з-за баязні, што будзе ўведзена картачная сістэма ў галіне снабжэння. Урад лічыць неабходным заявіць, што ён не мае намеру ўводзіць картачнай сістэмы на прадукты і промтавары, нават, калі выкліканыя знешнімі падзеямі дзяржаўныя меры зацягнуцца на некаторы час. Баюся, што ад празмерных закупак харчоў і тавараў пацерпяць толькі тыя, хто будзе гэтым займацца і накапляць непатрэбныя запасы, падвяргаючы іх небяспецы псавання. Наша краіна забяспечана ўсім неабходным і можа абыйсціся без картачнай сістэмы ў снабжэнні.

Наша задача цяпер, задача кожнага рабочага і селяніна, задача кожнага служачага і інтэлігента, заключаецца ў тым, каб чэсна і самаадданна працаваць на сваім пасту і тым аказваць дапамогу Чырвонай Арміі.

Што датычыць байцоў нашай слаўнай Чырвонай Арміі, то я не сумняваюся, што яны выканаюць свой абавязак перад радзімай з чэсцю і славай.

Народы Совецкага Саюза, усе грамадзяне і грамадзянкі нашай краіны, байцы Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота згуртаваны, як ніколі, вакол Совецкага ўрада, вакол нашай большэвіцкай партыі, вакол свайго вялікага правадыра, вакол мудрага таварыша Сталіна, для новых і яшчэ нябачаных поспехаў працы ў прамысловасці і ў калгасах, для новых слаўных перамог Чырвонай Арміі на баявых франтах.

*Пятрусь Броўка*

## ЗАХОДНІМ БЕЛАРУСАМ

Палілі вас агнём, знішчалі вас мячом,
Не смелі гаварыць вы моваю сваёй.
Вы плакалі крывёй пад панскім бізуном,
За вас хварэлі мы і сэрцам і душой.

Даволі слухаць больш пакутны спеў бароў.
За волю вы пашлі для любых ніў і сёл...
І беламу арлу, што падае на дол,
Ніколі не ўзняць драпежных кіпцюроў.

Даволі мучыў вас пракляты польскі кат,
Руку братэрскую прымі, таварыш, родны брат!
Хай згіне польскі пан! Прабіў рашучы час!
Чырвоны, вольны сцяг навек з'еднае нас!

Заходні беларус! Ты вышаў грамадой,
Каб з намі паеднаць любімыя палі,
Бо мы адной сям'і, бо мы адной зямлі,
Нам з нашай маткай жыць—чырвонаю Масквой!

*Якуб Колас*

## СВАЙМУ НАРОДУ

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою:
Сотні новых і ясных дарог
Рассцілае жыццё прад табою.

Новай долі ўзыходзіць зара.
Будзеш жыць ты без панскай апекі:
Адышла, адцвіла іх пара.
І панам не вярнуцца на векі.

Паглядзі, як прасторна вакруг,
Як прыціхлі палацы, касцёлы!
Тваё ўсё: гэта поле і луг,
А ў палацах будуй сабе школы.

Ідзі-ж смела і чэсна ўпярод
Разам з намі дарогай адзінай:
Мудры Сталін вядзе свой народ
Самай вернай і простай пуцінай.

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою:
Многа новых, шчаслівых дарог
Рассцілае жыццё прад табою.

*Янка Купала*

# НА ЗАХОДНЕ-БЕЛАРУСКІЯ МАТЫВЫ

## ПРАМІНУЛІ ДЗЯНЬКІ...

Прамінулі дзянькі
Роскашы вясёлай,—
Уцякалі панкі
З нашых ніваў, сёлаў.

Годзе піць, балявацъ
На чужым прыселлі,
Наш народ частаваць
Атручаным зеллем!

Як чуму, ясным днём
Выгналі прыблудаў,
Свой ачысцілі дом
Ад варшаўскіх брудаў.

Нішчыць ворага ўшчэнт
Савецкім законам
Варашылаў Клімент
З Арміяй Чырвонай.

Воля йдзе па зямлі,
А ўсё далей, далей.
Сталін родны ў Крэмлі
Перамогу хваліць.

## З НОВАЙ ДУМКАЙ

З новай думкай, з новай песняй
Выйдзеш ты на нівы,
Беларусе, на прадвесні
Браце мой цярплівы.

Засяваці будзеш зернем,
Як бурштын, адборным,
І ніхто цябе не зверне
Са шляхоў прасторных.

Думкі пабягуць іначай
Цераз долы, горы,
Ты сягоння тое ўбачыш,
Што не бачыў учора.

Будзе свет табе вясёлым,
Весялей з днём кожным,
Не пабачыш навакола
Злыбяды астрожнай.

Будзеш важна пагдядаці
Як у цябе дома
На куце сядзіць багацце,
Нібы госць вядомы.

Пра дзень заўтрашні пакінеш
Думаць думкі ў горы,
Дабром поўны будуць скрыні,
Жывёлай—аборы.

Біць не будзе пан вяльможны
З твайго-ж лесу палкай,
Што ты быў неасцярожны,
Зняць забыўся шапку.

Знаць не будзеш ты век-векам
Нядолі абрыдлай,
Звацца будзеш чалавекам,
А не панскім быдлам.

Ў добрай долі і прыгодзе,
Радасны, шчаслівы,
Жыць ты будзеш у свабодзе
Браце мой цярплівы.

## СОНЦА СВЯЦІЛА НАМ АДНАЛЬКОВА

Сонца свяціла нам аднролькова
Гэтак нядаўна—ўчора заўчора,—
Толькі-ж была нам радасць асновай,
Вам ткаць прышлося слёзы і гора.

Нашы палеткі буйным абшарам
Нас гадавалі хлебам пшанічным,
Вашы палоскі голым папарам
Голад дарылі вам безгранічны.

Сталінец-трактар нам без прынукаў
Поле араў і сеяў зярняты,
Вы над сахою гнуліся крукам
І праклінаді свой лёс праклятыі.

Мы сабе самі збожжа збіралі
І частавалі мёдам суседзяў.
Вас бізуном паны частавалі,
Ад бед схавацца вам было недзе.

Зноў аднолькова свеціць нам сонца,
Толькі ў вас з намі межаў не будзе,—
Жыці шчаслівай доляй бясконца
Будзеце з намі, з Захаду людзі.

## ТЫ З ЗАХОДНЯЙ, Я З УСХОДНЯЙ...

Ты з Заходняй, я з Усходняй
Нашай Беларусі.
Больш з табою ўжо ніколі
Я не разлучуся.

Тваё коні, мае коні,
Пасля дзён трывожных,
Будуць пасвіціся разам
На лугу мурожным.

Разам будзем араць поле
Трактарам сталёвым,
Сеяць жыта і пшаніцу
На загонах новых.

Частавацца будзем разам,
З кожным новым годам,
Верашчакаю калгаснай
І калгасным мёдам.

Складаць будзем думкі-песні
Не на панскай службе,—
Песні будуць аб свабодзе,
Аб Сталінскай дружбе.

## СЛАВА ТАБЕ, АРМІЯ!..

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя
Слава табе армія,
Армія Чырвоная!

З-пад няволі панскае
Беларусь Заходнюю
Вывела, ты, армія,
На шляхі свабодныя.

Свята з намі святкуюць
З ласкаю жычліваю
Браты нашы з Захаду,
Вольныя, шчаслівыя.

З думкай пераможнаю,
Урачыста важная
Ў госці да нас сходзіцца
Грамада сярмяжная.

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя
Слава табе, армія,
Армія Чырвоная!

Ерэван—Мінск.
Верасень 1939 г.

---

*П. Глебка*

## РОДНЫМ БРАТАМ

Родны брат мой, таварыш гаротны,
Сонца праўды і волю вітай.
Станавіся ў шарэнгі свабодных
Будаваць свой разбураны край!

Нас адна нарадзіла краіна,
Ды няроўнае шчасце дала:
Мы квітнелі, раслі безупынна,—
Ваша доля пакутнай была.

У каляным ад поту шарачку,
Зруйнаваны пакінуўшы дом,
Ваша маці стаяла жабрачкай
На марозе пад панскім акном:

Сёстры мерлі на вуліцах брудных:
Ад цямна да цямна праз вякі
За сахою хадзілі пакутнай,
Парабкамі служылі бацькі.

Край Заходняй зямлі Беларускай,
Край, растоптаны панскай нагой,
Колькі слёз на палях тваіх вузкіх,
Колькі здзекаў, аблітых крывёй!

Годзе гэтых пакут і знямогі,
Вызваляйся з няволі і з крат!
Па-братэрску руку дапамогі
Падаем мы табе, родны брат.

Кроч у новыя, светлыя далі,
Разарваўшы прымусу ланцуг!
За цябе непакоіцца Сталін—
Усіх прыгнечаных бацька і друг.

*Аркадзь Куляшоў*

## ВІНТОЎКА

Мы знішчылі праклятую мяжу—
Не трэба ёй ні слоў, ні лішніх згадак.
Быў бой за вёску. Пра адзін выпадак
Я самым простым словам раскажу.

У снайпера ад кулі разрыўной
Рука дранцвела. Гул і страляніна
У вёсцы не змаўкала. Селяніна
Убачыў ранены хвілінай той.

Бег земляроб пад праліўным агнём
На блеск чырвонай зоркі, пра якую
Сны бачыў радасныя ў ноч глухую...
І тая радасць больш не будзе сном,

А будзе сном—
Гнілая ў хаце столь,
Мох на страсе, без хлеба ў курнай хаце...
І снайперу ён шэпча:
«Родны браце»...
Вінтоўку просіць у яго:
— Дазволь.

Баец чырвоны ведае наказ—
Вінтоўку-зброю не даваць нікому.
Цяпер ён ранены: Які-ж адказ
Даць земляробу—дзядзьку дарагому.

У вочы глянуў і сказаў:
— Бяры.
— Кладзіся побач!—загадаў сурова.
І браў вінтоўку ў снайпера стары,
І побач лёг, і не сказаў ні слова.

І грымнуў стрэл па Рэчы Паспалітай,
Па беламу драпежнаму арлу,
Па здзеках панскіх, крыўдзе не забытай,
Па ўсіх панах, што кануць у імглу.

А ўсе палі, а ўсе лясы і ўзгоркі,
Дзе кроў паны з сялянскіх жыл пілі,
Асветлены святлом чырвонай зоркі
На маладой адноўленай зямлі.

Няхай-жа тут красуецца навечна
Вялікай дружбы нашай сцяг жывы,
Трымай-жа селянін з-пад Маладэчна,
Сцяг вызвалення
Ясны сцяг Масквы.

*М. Паслядовіч*

# ПРАЎДА НІЧЫПАРА СІРОТКІ

Начальнік павятовай паліцыі пан Гаецкі ашалела бегаў па свайму кабінету з кута ў кут. Час ад часу ён спыняўся супроць дзвярэй, дзе ў здрантвелай нерухомасці замер Вацлаў Дымза, войт гміны.

— Вы мне адкажаце сваёю галавою, пане войт!—люта крычаў начальнік паліцыі.—Мне здаецца, што ў вашай галаве, пане войт, не мазгі, а курынае дзярмо. Чуеце, вам не мінуць Бярозы Картузскай... Выдаць казённую зброю васьмі галаварэзам!..

— Зброю гэтым хлопам выдалі па загаду пана начальніка,— раптам спакойна і дзёрзка прамовіў войт.—Я прасіў-бы пана начальніка не гаварыць, што вінаваты толькі я... Мне загадалі падрыхтаваць спісы і я гэта зрабіў. З выгляду яны былі спакойныя людзі, акуратна выконвалі абавязкі перад дзяржавай...

— Хацеў-бы я паглядзець, як-бы яны адважыліся іх не выконваць,—перабіў войта пан начальнік паліцыі.—Гэтага яшчэ не ставала!..

— ... але я не мог ведаць, што ў гэтых хлопаў у галаве. Я не мог ведаць іх думак. І за гэта я не адказваю,—закончыў войт і паправіў на плячы дарагую паляўнічую дубальтоўку.

Гэты пракляты хам быў тонкім дыпламатам. Пан Гаецкі [illegible]набэрыста аглядзеў яго пышныя, рыжыя вусы, усю даўгую, за[illegible]нутую ў чорную бекешу постаць. З'едзены воспаю доўганосы твар войта быў непранікальным. У гэтую хвіліну пану Гаецкаму вельмі хацелася схапіць што-небудзь цяжкае і біць з асалодай, біць бязлітасна па хітрай мужыцкай мордзе, якая стала такой нахабнай у кабінеце, адкуль самых заядлых бунтароў «усходніх крэсаў» жандармы выцягвалі толькі напоўжывых. Але ў войта быў надзвычай высокі заступнік і апякун—князь Радзівіл. Пан начальнік павятовай паліцыі добра ведаў, што войт папраўляў дарагую дубальтоўку на плячы не для таго, што гэта вельмі было патрэбным, а для таго, каб напомніць пра падарунак за верную і адданую службу па ахове нязлічоных княжавых уладанняў. У дадатак войт праявіў вельмі вялікую актыўнасць пры ліквідацыі адной з масавых арганізацый, якая імкнулася далучыць Заходнюю Беларусь да совецкай дзяржавы. Тонка падрабіўшыся пад нездаволенага дзяржаўным ладам Польшчы, дастаўшы нават для рэвалюцыйнага гуртка чатыры старых вінтоўкі, ён выведаў усё, што было патрэбна паліцыі. Сляды правакатарскай дзейнасці Вацлаў Дымза замёў не менш тонка

і хітра. Ён папрасіў, каб яго арыштавалі разам з сапраўднымі рэвалюцыянерамі і пасадзілі ў турму. Нават больш таго,—фатографам дэфензівы былі зроблены здымкі, на якіх Вацлаў Дымза паказваўся то з абвязанай галавой, то з чорнымі пісягамі на спіне—крывавыя знакі паліцэйскай дзейнасці. Гэтыя здымкі нібы таемна падносіліся сялянам. Пры іх дапамозе было выяўлена яшчэ дзесяткі два спачуваючых «комуністычнай дзейнасці». І валасць, дзе Вацлаў Дымза служыў за войта, была, здавалася, навекі ачышчана ад нездаволеных дзяржаўным ладам Польшчы.

Але ў апошнія дні здарылася тое, чаго не чакаў ні пан начальнік павятовай паліцыі, ні войт. Восем чалавек з толькі што створанай па загаду прэзідэнта грамадзянскай варты, атрымаўшы ад паліцыі зброю ўцяклі ў лес і распачалі з панамі партызанскую барацьбу. Замест таго, каб ахоўваць памешчыцкія маёнткі, яны пайшлі на іх вайною! А ў адну цёмную ноч гэтыя бальшэвіцкія агенты адважыліся зрабіць напад нават на павятовае паліцэйскае кіраўніцтва. Пяць жандараў было забіта і дзесяць чалавек цяжка ранены. Пры гэтым загінуў адзін з лепшых агентаў дэфензівы, якога насельніцтва празвала «лягавым».

— Асаднік Болесь Шыманскі бачыў учора, калі яны перапраўляліся праз Нёман,—пачаў войт пасля некаторай паузы.—Іх было ўжо чалавек сорак... Баюся, каб яны не наляцелі на маёнтак пана начальніка...

Пан начальнік падскочыў, нібы яго ўкусіла змяя. Схапіўшы тэлефонную трубку, ён выклікаў у кабінет капітана Скажынскага і, калі той з'явіўся, загадаў:

— Неадкладна пашліце ў раён Засвятое атрад Зільберга. Гадзіны праз дзве я выеду туды сам. Рабіце.

Капітан знік і пан начальнік паліцыі і войт зноў засталіся адны. Ужо надыходзіў вечар. Наперадзе была ноч, глухая верасьнёвая цемра. Войт пераступіў з нагі на нагу і кашлянуў.

— Я папрасіў-бы пана начальніка дазволу ісці,—пачаў ён, перакідваючы стрэльбу на другое плячо.—Я дрэнна бачу, калі на дварэ цёмна...

— Хвілiначку. Проша сядаць.

Войт здзіўлена зірнуў на пана начальніка. Раптоўны пераход ад самай грубай лаянкі да незвычайнай лагоднасці сведчыў пра нейкія намеры. З глыбока задуманым тварам пан начальнік асеў у мяккае крэсла каля стала. Войт таксама сеў, але толькі на край крэсла і так далікатна, што каб гэта крэсла хто з пад войта выхапіў, ён-бы не перакуліўся. Гонар гонарам, але трэба ведаць меру. Вольна сядзець у прысутнасці пана начальніка мог толькі роўны яму альбо па чыну альбо па багаццю.

Нарэшце начальнік загаварыў. Голас яго быў ціхі, але ўрачысты і суровы.

— Мы павінны ў бліжэйшыя два-тры дні знішчыць гэтых бальшэвіцкіх агентаў. Здарылася ўпершыню памылка, у якой вінаваты і вы і я. Спярша іх было толькі восем, сёння, вы кажаце, ужо сорак. Праз дзень, праз тыдзень іх будзе ў два, у тры разы больш. Яны пастараюцца выкарыстаць гэту нашу вайну з немцамі для паў-

стання. Вы, пане войт, павінны памятаць, што ніколі народныя паўстанні не бываюць такімі небяспечнымі, як у час вайны. А тут, ва ўсходніх крэсах, мы сядзім нібы на парахавым пограбе. Варта толькі заваліцца сюды якой іскры і мы ўзляцім у паветра. Тады, пане войт, не жыць і вам! Яны ніколі не даруюць, што іх прагналі з лепшай зямлі і аддалі вам. Іх жонкі, іх дзеці ніколі не даруюць вам за тое, што вы дапамагалі паліцыі засадзіць іх мужыкоў, іх бацькоў у турму, а многіх павесіць... Яны заўсёды думаюць аб гэтым...

— Каб я толькі мог ведаць, хто што думае, пане начальнік.

Твар пана начальніка праяснеў. Уступная прамова была зроблена. Усхапіўшыся з крэсла і нахіліўшыся да войта, пан начальнік зашаптаў:

— Мы павінны ведаць хто што думае. Чуеце, пане войт! І мы будзем ведаць. Ёсць у нас такія магчымасці. У паліцыі ёсць апарат, прылада такая, якая запісвае чужыя думкі. Нешта падобнае да радыёпрыёмніка... Гэты апарат вынайшлі віднейшыя вучоныя Варшавы...

Цяпер ужо ўсхапіўся з крэсла пан войт. Вочы яго былі вытрашчаны, пышныя вусы абвялі, а ніжняя губа задрыжэла, як у ліхаманцы.

— Апарат, пане начальнік?!. Машынка?..

— Так, пане войт. Самы надзейны спосаб для знішчэння нават кволых зародкаў бунтарства. Пусціўшы яго ў ход, мы будзем ведаць дакладна не толькі, дзе знаходзяцца бунтары, але вылавім і тых, хто ім спачувае, нават тых, хто звонку лаяльна ставіцца да нашай улады, а ў душы спапяліў-бы яе нашчэнт.

Пан войт ледзь не выпусціў з рук дарагой стрэльбы. Паведамленне пана начальніка ўдарыла па ім, нібы перуном. Вядома, гэты апарат недзе запісаў ужо і яго думкі, якія былі ў галаве адносна пана начальніка: «певень дурны, смаркач няшчасны. Каб не твой чын, дык бы я так цябе адпачасаваў за знявагу, што ты да хаты і сцежкі не знайшоў-бы, шчанюк!»

І ўся войтава душа напоўнілася вялікім страхам.

А пан начальнік, адступіўшыся на крок, наглядаў, якое ўражанне зрабілі яго словы на гэтага прайдзісвета. Гэтае ўражанне сведчыла, што поспех справы будзе забяспечан. Цяпер не толькі паўстанцы, але і тыя, хто іх карміў, хто ім спачуваў—былі ў панскіх руках.

Чуткі пра цудоўную машыну, якая запісвае чужыя думкі, на другі-ж дзень разляцеліся па вёсках і засценках павету. Мінуў яшчэ дзень і паліцыяй было паведамлена ў спецыяльным бюлетэню, што апарат толькі за дзень чатырнаццатага верасня выкрыў два бальшэвіцкіх гурткі і адну падпольную радыёстанцыю. У вёсцы Паддуб'е злоўлены нейкі Дзямян Рашчынскі, які збіраўся падпаліць адзін з маёнткаў вельможнага князя Радзівіла. Апарат дакладна замацаваў усе пякельныя намеры гэтага з выгляду спакойнага і мірнага чалавека. Далей ішла заўвага: калі хто што ведае ці пра сваіх суседзяў, ці сам думаў нядобра—няхай лепш добраахвотна, не чакаючы пакуль на яго будзе наведзена надзвычайная машына, з'явіцца ў паліцыю і раскажа ўсю праўду. За праўду, якая-б яна ні была, ніхто не зробіць

ніякага пакарання. Наадварот, яшчэ дадуць узнагароду! Калі-ж хто што ўтоіць, а машына выявіць, вінаватыя атрымаюць самае суровае пакаранне.

Перш, як гэта ні дзіўна, з'явілася ў паліцыю буйная памешчыца Ратынская-Більгер, тоўстая і высозная дама з чорнай валасатай бародаўкай на носе, з шырокім і нізкім ілбом.

— Я хачу з вамі гаварыць канфідэнцыяльна, пане Гаецкі,—пачало гэта далікатнае стварэнне басам.—Я чула, што вы маеце такі апарат, які разгадвае чужыя думкі...

Пан начальнік тонка ўсміхнуўся і адказаў:

— Дапусцім, што ёсць. Але прашу пані сесці...

Пані Ратынская-Більгер адразу прыступіла да справы.

— Я скажу вам, пане Гаецкі, па сакрэту: за апошні год паводзіны майго мужа Антэка сталі для мяне надзвычай падазронымі. Чатыры разы я падлавіла яго на самай бязбожнай хлусні. Цяпер мне навек не будзе спакою, калі вы не акажаце мне дапамогі.

— Я ўвесь да паслуг пані.

— Месяц таму назад,—прадаўжала Ратынская-Більгер, падносячы да вачэй напарфумаваную хустачку,—ён сказаў, што едзе ў Зелянцы рабіць вобыск у сялян, якія пасеклі наш лес. Але я даведалася, што ён там быў толькі адзін дзень, а пяць астатніх правёў у фальварку Крыніца з гэтай распуснай сукай Зайончкоўскай...

— Прашу прабачэння ў пані, але гэта не мае ніякіх адносін да паліцыі. Мы не можам ўмешвацца ў прыватнае жыццё грамадзян Жэчы Паспалітай.

— Як? Чалавек разбэшчваецца, падрывае асновы сям'і, а разам з тым і дзяржавы, а вы не ўмешваецеся?!—абурылася Ратынская-Більгер.—Матка боска, хто-ж тады абароніць такую няшчасную, як я? Нічога я цяпер не хачу ведаць так, як думкі майго мужа! Уявіце сабе, што ён цалуе маю ручку, а ў галаве ў яго стаіць вобраз другой жанчыны? Не, пане Гаецкі, вазьміце з мяне што хочаце, толькі дайце мне магчымасць даведацца пра ўсіх яго распусных сяброўак!

— Не магу, пані. Апарат прызначан для больш важнай мэты. Жэчы Паспалітай пагражае вялікая небяспека...

— Пан жартуе. Небяспека! Хіба ў вас няма храбрых афіцэраў?.. Мне здаецца, пан проста не хоча аказаць паслугу, якой просіць няшчасная жанчына... Я так спадзявалася, так спадзявалася...

Пан начальнік устаў, паказваючы, што гаворка скончана. Гэтая паліцэйская нясхільнасць без меры ўзлавала Ратынскую-Більгер.

— Вы страшэнна грубы і недалікатны, пане Гаецкі! Я іншага ад вас не чакала... Хоць што: усе вы, мужчыны, добрыя цацы! Што-ж, здзекуйцеся на гэтым свеце з нас, такіх кволых і няшчасных. Але прыдзе час, калі вам давядзецца за вашы нягодныя ўчынкі адказваць на судзе самаго пана бога! І адкажаце, холера ценжка!..

Ратынская-Більгер ганарліва падняла галаву і цяжкім грэнадзерскім крокам накіравалася да выхаду. Дзверы за ёю грукнулі так, нібы іх штурхнула ўраганам.

Больш у гэты дзень ніхто не з'явіўся. Але за тое ўжо назаўтра ўвесь пакой перад кабінетам пана начальніка быў яшчэ зранку за-

поўнен людзьмі, якія добраахвотна прышлі сказаць пра свае самыя патаемныя думкі. Усіх узрушыла навіна пра незвычайны апарат. Былі тут валасатыя, з конскім гноем на ботах, але з панскім гонарам у вачах, асаднікі—надзейная апора польскай дзяржаўнасці на Крэсах Усходніх. Прыехалі сюды на аблезлых лінейках далёкія фальваркоўцы, у рыжых гетрах і зялёных паляўнічых капялюшах. Шчупленькі маленькі поп, з шпаркім хітрым позіркам вачэй, стаяў насупроць поўнага, з агромністым пузам ксяндза. Ксёндз важна і павольна нешта расказваў, а з боку попа толькі і чулася:

— Так, так, так. Ая-яй. Ну, што вы кажаце? Ах, ах! Падумаць толькі!.. Так, так, так...

З калідора часта заглядваў праз поўадкрытыя дзверы рабін Іцхок, у вельмі патрапанай ярмолцы, але з мудрым позіркам прарока Майсея ў вачах. Рабін таксама чакаў пана начальніка.

Прышлі дзве кволыя, з нездаровай чырванню на шчоках, гімназісткі і, пацалаваўшы ксяндза ў руку, аціхлі ў самым дальнім кутку пакоя.

Ніколі канцылярыя пана начальніка не бачыла столькі наведвальнікаў за адзін раз! Вінаваты ў гэтым быў цудоўны апарат, незвычайная машына, якая каварна прытаілася дзесьці ў адным з шматлікіх пакояў дэфензівы!

З асаднікамі, з папом і ксяндзом пан начальнік доўга не размаўляў. На якое ліха яму былі патрэбны ў гэтую цяжкую хвіліну іх абывацельскія меркаванні адносна таго, дзе ў гэтую хвіліну маглі хавацца паўстанцы. За дваццаць год існавання польскай дзяржавы пан начальнік без дапамогі штучных прыстасаванняў навучыўся чытаць чужыя думкі па аднаму толькі адзенню. Нічога новага апрача таго, што ведае паліцыя, гэтыя абывацелі не маглі сказаць. З усёй групы наведвальнікаў пан выбраў толькі двух надзвычай абшарпаных, з босымі нагамі сялян.

— Астатніх ганіце ў шыю,—загадаў пан начальнік свайму памочніку.—А гэтых валасатых марадзёраў—асаднікаў не падпускайце сюды і на пушачны выстрал.

Справа ў тым, што пан начальнік з некаторага часу стаў крыху недалюбліваць былых легіянераў за іх надзвычайную сквапнасць. Атрымаўшы па дваццаць пяць, па трыццаць дзесяцін зямлі, многія пачалі марыць і пагаварваць нават аб дадатковых прырэзках з буйных памешчыцкіх маёнткаў, бо ад сялян ужо не было чаго адразаць. Адзін з гэтых галаварэзаў нават выступіў з такой разбойніцкай прапановай у самым сейме. Былое неадукаванае хам'ё хацела зраўняцца з самымі радавітымі шляхцічамі Польшчы!

— Што вы думалі? Гаварыце праўду,—крыкнуў пан начальнік, калі двое сялян увайшлі ў яго кабінет і спыніліся каля дзвярэй.— Вы самі сюды з'явіліся, ці вас хто прыслаў?

— Прыслалі, панечка. Як-жа: нам загадаў з'явіцца ў вашу канцыляру пан войт,—шпарка адказаў нізенькі селянін, у той час, калі яго высокі сябра з панурай цікавасцю разглядаў убранне панскага кабінета: мяккія крэслы, шырокую, пакрытую белым чахлом канапу, агромністы з моранага дуба стол, пушысты на ўсю падлогу зялёны дыван.

— Пан войт расказаў нам цікавую штучку,—прадаўжаў нізкі, зірнуўшы на высокага сябра, нібы для таго, каб упэўніцца ці правільна ён апавядае.—Ён сказаў, што вы паставілі тут такую машынку, якая выпісвае на паперы што ў каго ў галаве.

— Еўропа!—прамовіў высокі ў захапленні ні то ад нябачанай машынкі, ні то ад абстаноўкі панскага кабінета.

— Цяпер гавары ты!—шапнуў высокаму нізкі і адступіўся бліжэй да дзвярэй.

Пануры крыху ажывіўся. Слізнуўшы позіркам блакітных вачэй па нецярпліва настарожанай постаці пана начальніка, пачаў:

— Увесь час, пане начальнік, мы думалі, як падзякаваць уладзе за вялікія да нас клопаты. Еўрапейскія клопаты. Сказаць праўду, мы крыху саромеліся: навошта адбіраць у вас (начальнік насцярогся яшчэ больш ад слова «адбіраць», шпарка пхнуў руку у адну з скрынак пісьмовага стала) такі дарагі час дробяззю? (начальнік выцягнуў руку са скрынкі.) Мы думалі: дай бог добрага здароўя панам за земляўпарадкаванне. Гэтулькі ў нас было зямлі, гэтулькі клопатаў. Дыхнуць не было калі ад работы. А цяпер мы нібы птушачкі божыя... Гуляем сабе і гуляем. Любата адна, а не жыццё...

— Чорта два ты думаў так!—не стрымаўся начальнік і зноў усадзіў руку ў шуфляду.

— Можаце праверыць на апараце,—спакойна адказаў селянін.—Цяпер пра падаткі, пра школы, пра сабачыя штрафы, пра штрафы за непабеленыя платы, пра шараваркі. У нас такая падзяка, такая падзяка, што па ўсёй Еўропе нідзе не знойдзеш такое...

Нізенькі наведвальнік раптам захваляваўся і пацягнуў свайго высокага аднадумца за рукаў латанага кажушка. Відаць, што апошнія яго словы не ўваходзілі ў праграму споведзі.

— Эй, хто там?—усхапіўшыся з крэсла, крыкнуў пан начальнік у калідор, і калі на парозе вырасла постаць жандарма, загадаў:—Узяць гэтых дэмакратаў. Дапытаць, ці не сябры яны тых, што сёння ўначы зрабілі налёт на маёнтак Ратынскага-Більгер.

— У нас паперка ад солтыса Дымзы,—пачаў апраўдвацца нізкі, шукаючы нечага за пазухай, але два здаравенныя жандармы схапілі яго за каўнер і выцягнулі ў калідор. Тое-ж зрабілі і з яго высокім аднадумцам.

А солтыс Дымза тым часам не драмаў. Не ведаючы яшчэ, што выйшла са споведзі двух першых жыхароў гміны, ён падрыхтоўваў для адпраўкі ў павет цэлую групу сялян. Асабліва яго цікавіў Нічыпар Сіротка, у якога год дваццаць таму назад было восем дзесяцін зямлі, дзве каровы, конь, а цяпер не засталося і дзесяціны. Калі другія сяляне выступалі супроць панскага «земляўпарадкавання» з каламі і сякерамі—Нічыпар Сіротка і слова не пікнуў. Усёроўна, нібы яму не было шкада зямлі, на якой звекаваў яго прадзед, дзед, бацька. Ціхенька і спакойна перанёс ён сваю хату на пустыя пяскі, нібы нічога асаблівага не здарылася. Нічога не сказаў Нічыпар Сіротка, калі забіралі за падаткі яго апошняга каня, яго апошнюю карову. У ніякія бальшэвіцкія арганізацыі Сіротка не ўваходзіў. Ці то чалавек баяўся, ці быў вельмі лаяльна настроен да панскай улады, але ён нават блізка не падыходзіў да

групак сваіх суседзяў, якія часамі збіраліся на вуліцы. Пра яго нават пачалі хадзіць чуткі, што ён стаў не так гаварыць, як гаварыў дваццаць год таму назад.

— Схадзі ў паліцыю,—ужо ў трэці раз тлуміў яго галаву солтыс.—Скажы пану начальніку, што ты думаеш, а не то сам пан начальнік да цябе прыдзе. Тады, браце, ўжо не кайся.

І Нічыпар Сіротка пайшоў. З'явіўся ў кабінет пана начальніка тады, калі пан начальнік стаў траціць усялякую надзею на ўсемагутнасць цудоўнай варшаўскай машынкі, калі пан начальнік застаўся амаль адзін у вялізным доме, бо ўсе паліцэйскія былі накіраваны на барацьбу з паўстаннем, якое, нібы пажар, шырылася ў павеце.

Агромністы стол пана начальніка чамусьці быў прысунут да акна і на ім непарушна стаяў цяжкі кулямёт. Неўгаміднае куртатае рыла выглядала на вуліцу праз апушчаную штору. Холадна паблісквала ў змроку вечара медзь даўгой істужкі патронаў.

— Мне наш солтыс... падзякаваць... панская ласка,—нібы напалоханы грозным выглядам кабінета пачаў заікаючыся Нічыпар Сіротка.—Бог... небе, пан на зямлі... Госпадзі сусе...

— Эге, сябра,—прашаптаў з'едліва пан начальнік і дакрануўся да кабуры браўнінга.—Ты альбо п'яны, альбо прыкідваешся ангелам... Клянуся маткай боскай чэнстахоўскай, што за гэтую камедыю атрымаеш не толькі ты, але і твой войт!..

Недзе далёка на ўскраіне горадка грымнуў стрэл, а праз некаторы час пачуўся роўны стальны грукат.

У гэты момант дзынкнула шыба ў акне і на падлогу пырснулі звонкія асколкі шкла. На вуліцы, ужо зусім блізка, грымнула некалькі стрэлаў і следам за гэтым увесь дом задрыжаў нібы ад землятрасення. Штосьці зялёнае імкліва прамільгнула на вуліцы. За першым праімчалася другое, трэцяе... Пан начальнік рынуўся да акна, каб у наступную хвіліну сарваць штору і ўзяцца за ручкі кулямёта.

Але выстраліць не давялося. Нічыпар Сіротка скамячыў кулак і з усёй сілы стукнуў пана начальніка па вуху і ў кабінеце ўсталявалася цішыня, і ў кабінеце ўсталявалася непарушнасць.

Калі праз хвілін дзесяць у пакой увайшлі салдаты ў светлашэрых шынелях і з чырвонымі зоркамі на зялёных касках, яны засталі наступную карціну:

Чалавек у паліцэйскай афіцэрскай форме сядзеў, гойдаючыся на крэсле, а супроць яго, трымаючы браўнінг за куртатае дула, стаяў Нічыпар Сіротка. Весела азірнуўшыся на чырвонаармейцаў, ён, заканчваў гутарку:

— ... цяпер я, пане начальнік, скажу табе ўсю праўду. Як на споведзі скажу. Скажу так: ад першага і да астатняга дня вашага панавання я сніў і думаў толькі пра тое, калі надыйдзе час цягнуць вас у штаб Духоніна! Дваццаць год думаў... За збэшчаную панствам нашу зямлю, за голад, за прымусовую панскую навуку нашых дзяцей. Цяпер вам ужо не памогуць цудоўныя варшаўскія апараты! Не памогуць ні асаднікі, ні войты, ні ксяндзы. Няхай жыве вызвалены народ Заходняй Беларусі! Няхай жыве Чырвоная

Армія, якая дала нам шчасце гаварыць усё, што чалавек думае. Гаварыць чыстую праўду.

Весела агледзеўшы чырвонаармейцаў, якія запоўнілі панскі кабінет, Нічыпар Сіротка дадаў:

— Аказваецца ніякай цудоўнай машынкі тут і зроду не было. Былі хітрыкі і спадзяванне на цемру. Гэта пан мне сам прызнаўся, калі я смальнуў яму па вуху.

28/IX—39 г.

*Акад. І. Орбелі*

# ВЯЛІКІ ЭПАС АРМЯНСКАГА НАРОДА

Народны эпас аб сасунскіх багатырах, які склаўся ў цяжкую для Арменіі эпоху арабскага нашэсця, налічвае тысячу год свайго невянучага існавання. Ідэя барацьбы за нацыянальную незалежнасць, за шчасце народа, за яго свабоднае і радаснае жыццё натхняла невядомых стваральнікаў эпаса і тых шматлікіх казачнікаў, якія данеслі гэты твор да нашых дзён. У адрозненне ад рада эпічных твораў іншых народаў, армянскі эпас—цэльны твор, аб'яднаны адной ідэяй, адной сюжэтнай лініяй, хоць ён і носіць у армянскім народным паданні, у вуснах казачнікаў некалькі назваў.

Цяпер, калі совецкімі вучонымі і пісьменнікамі праведзена вялікая і складаная праца па складанню зводнага тэкста эпаса на падставе дзесяткаў варыянтаў, запісаных са слоў казачнікаў, вырашана азаглавіць увесь эпас імем аднаго з герояў—Давіда Сасунскага, які бясспрэчна з'яўляецца найбольш яркім і жыццёдзейсным. Зводны тэкст, які змяшчае звыш 12 тысяч вершаў, устаноўлен брыгадай Інстытута літаратуры і мовы армянскага філіяла Акадэміі навук СССР у складзе праф. Манука Абегяна—старэйшага даследчыка і лепшага знаўца эпаса, праф. Георга Абова і старшага навуковага супрацоўніка Арама Ганаланяна.

Эпас з'яўляецца сапраўды народным. І не толькі таму, што ён жыве ў народных тоўшчах, таму, што да нашых дзён ён беражліва захаван у вуснай народнай перадачы і мова яго ва ўсіх варыянтах—мова народная, чуждая ладу і слоўніку літаратурнай армянскай старажытнай і новай мовы. Эпас народны перш за ўсё таму, што героі і іх светапогляд непарыўна звязаны з народнымі масамі.

Уся сіла, доблесць і подвігі сасунскіх герояў накіраваны заўсёды на шчасце народа. Ні адзін з герояў не імкнецца скарыстаць сваіх магчымасцей для сябе, для набыцця якіх-небудзь асаблівых правоў ці прывілегій. Ніякі тытул і ніякая ганаровая годнасць не ўскладніла ў народнай памяці імён асноўных чатырох сасунскіх герояў—Санасара, Мгера старэйшага, Давіда, Мгера малодшага.

Па паходжанню, зверхчалавечай сіле і па сваіх дзеяннях героі эпаса звязаны былі ў народным уяўленні з сіламі прыроды, якія адчуваліся старажытным чалавекам непамерна больш войстра, чым чалавекам, які навучыўся падпарадкоўваць сабе хоць-бы частку гэтых сіл. І ўсё-ж героі эпаса глыбока чалавечныя. Гэта—жывыя людзі, якія адароны доблесцямі і высокімі маральнымі якасцямі, але нясуць у сабе і чалавечыя слабасці. Не толькі подвігі, але і

пачуцці іх знайшлі яркае выражэнне ў паданнях аб іх земным жыцці.

Санасар—першы з герояў вялікага эпаса, цудоўна зачаты дзевай ад глытка крынічнай вады, не толькі па цудоўнасці нараджэння, але і па дзеяннях сваіх яшчэ звязан сотнямі ніцей з старажытнейшымі міфамі. Ён увасабляе ў сабе шмат рысаў касмічнай істоты. І свайго дзіўнага каня Джалалі ён атрымлівае ад вады. І конь гэты надзелен дарам прадбачання і чалавечай мовы, здольны імчацца шпарчэй за вецер, вырваўшыся з глыбінь марскіх, узлятаць да пякучага сонца.

Кожнае наступнае пакаленне герояў усё бліжэй да зямлі, усё бліжэй да сапраўднага аблічча чалавека. Не выпадкова, што іменна асноўны раздзел эпаса звязан з галоўным героем усяго эпічнага круга, трэцім па старшынству ў раду чатырох пакаленняў герояў, Давідам, найбольш земным і народным, найбольш блізкім народнай памяці, найбольш ёю любімым.

Мгер старэйшы, народжаны ад Санасара прыгожай чараўніцай, дачкой цара Каджэй, яшчэ наследуе ад бацькі не толькі дзіўныя доспехі і вешчага каня, але і здольнасць чэрпаць звыш натуральную сілу ў дзіўнай крыніцы жыватворчай вады. Несакрушальны ў сваёй сіле, але памеры асядання свайго на зямлі ўжо ўспрыняўшы чалавечыя слабасці, Мгер поўны таго агня, дзеля якога Праметэй парушыў волю багоў, поўны той любові да чалавека, якая зрабіла Геракла з паўбога верным служыцелем чалавечага рода, які робіць свае подвігі не ў імя славы, у імя чалавечага дабрабыта.

Мгер,—волат з душой і наіўнасцю дзіцяці,—усе сілы свае ён гатовы аддаць на карысць чалавеку. Пачуўшы, што ў краіне настаў голад, таму што страшэнны леў залёг на дарозе і загарадзіў дарогу, па якой вязуць хлеб для народа, ён накіроўваецца на ворага. Ён рэўніва адхіляе цэлае войска, якое вышла на бой з жудасным зверам, і адзін сваімі магутнымі рукамі раздзірае ільва на часткі.

> Царь Хлата—Белый Дэв, узнав,
> Что слава Мгерова гремит
> Во всех концах земли,
> Сказал: „не нынче—завтра Мгер
> Придет и нанесет мне вред.
> Хлат у меня возьмет.

Грозны дэў кідае выклік Мгеру і каварна адразае краіну ад вады. Мгер пачынае з ім бой, забівае яго, звяртае жыватворчую ваду краіне, а прыгожую царэўну Армаган, якая была заняволена дэвам, бярэ сабе за жонку.

Перакана́ўшы ў баю ўладарніка Масула, цара арабаў Мсра-Меліка ў сваёй доблесці і несакрушальнай сіле, Мгер наіўна ўступае з гэтым ворагам у пабрацімства, якое звязвае людзей узамі больш моцнымі, чым узы братэрства кроўнага. Мгер імкнецца быць верным сваім абавязацельствам. Ён хоча быць верным і сваёй жонцы Армаган, але хвілінная слабасць—згода выпіць віна, якое прапаноўвала каварная ўдава пабраціма Ісміл-ханум, сакрушае яго волю: ап'янёны, ён губляе яснасць розума, выконвае волю Ісміл-ханум, падзяліўшы з ёю ложак і даўшы ёй сына Мсра-Меліка малодшага. З паяўленнем гэтага сына ў душы Ісміл-ханум нараджаецца

надзея, што «ныне воссияет звезда Мсыра (Мосула) и, померкнет звезда Сасуна». Аднойчы Мгер пачуў, як маці намаўляе сыну гэтыя надзеі. Гэта адразу вылечвае Мгера ад дурмана, і ён імчыцца з Масула ў родны Сасун.

З якой тонкай народнай іроніяй паказана ў эпасе дагодлівасць папоў пры парушэнні клятвы жонкай Мгера—Армаган, якая дала завет не прымаць свайго мужа пасля яго здрады. І з якой павагай малююцца вобразы Мгера і Армаган, якія парушылі клятву ў імя таго, каб нарадзілася новае жыццё—жыццё Давіда.

Нарадзіўся Давід, і сышоў у магілу Мгер.

Давід астаўся на руках у старэйшых братоў бацькі, вобразы якіх філігранна вырысаваны ў народнай паэме. Адзін з іх—Дзеноў Ован, «Ован-Гарлан», унаследаваў ад свайго бацькі толькі звыш натуральны голас, здольны пакрываць прасторы палёў і адгукацца за хрыбтамі гор. У другога, Цран-Верго, не засталося адзнакаў паходжання ад тытана Санасара, адзнакаў кроўнага братэрства з вялікім Мгерам. Ён—увасабленне чалавечай слабасці, гэта—тэрміт, баязлівы, подлы, зайздросны. І імя дано яму казачнікамі—«Трус-Верго!»

Дзіця Давід не бярэ чужой грудзі і выратаваць яго ад галоднай смерці можа толькі тая, што ў Масуле, няхай зманам, але падзяляла ложак бацькі. Цудоўны дзядоўскі конь, як вецер, імчыць спавітага Давіда да Ісміл-ханум, і Давід п'е малако маці Мсра-Меліка. Давід расце, як яго бацька Мгер. Гадзінамі, не годамі вымерваецца яго рост. Але чыстата душы, па-дзіцячаму беззаганнай, захоўваецца ў ім надоўга.

Яшчэ юнаком Давід пачынае барацьбу з прыгнятальнікамі-арабамі. Яшчэ не стаўшы волатам, але ўсё-ж адароны нечалавечай сілай і ўсёй той мерай самаахвярнай любові да народа, якой быў поўны яго бацька, юны герой упершыню намагае свае сілы, каб прагнаць з краіны пасланых Мсра-Мелікам гвалтаўнікоў—зборшчыкаў падаткаў.

Толькі нямногіх ён адпускае каб было каму паведаміць Мсра-Меліку аб разгроме атрада, які зрабіў налёт на пакутваўшы пад чужаземным ярмом Сасун.

У Мсра-Меліка з першага года жыцця Давіда расла супроць яго злосць, ён адчуваў, што ад Давіда «воссияет звезда Сасуна и померкнет звезда Мсыра». Разгром Давідам пасланага ў Сасун войска, і жалкі выгляд военачальніка Казбадзіна, пакалечанага Давідам, перапоўнілі чашу. Мсра-Мелік ідзе вайной на Сасун. З ім войска Масула, з ім войска падуладных яму сямі цароў. Воінаў так многа, што выпіўшы па глытку вады, яны асушваюць на сваёй дарозе рэкі. Не справіцца жменьцы сасунцаў з гэтай грознай арміяй!

Але валадаючы даспехамі бацькі і цудоўным канём—Джалалі, Давід п'е ваду з малочнай крыніцы і робіцца падобным па росту і сіле свайму бацьку. Ён уздымае сваім крыкам спячы стан арабаў, сячэ і рубіць мячом, капыты Джалалі топчуць ворагаў.

Лютая бітва не заглушае слыху гэтага сапраўды народнага героя. Ён прыслухоўваецца да мудрых слоў старца-араба, што выяваць

трэба з царамі і забіваць трэба цароў, што народу не патрэбна вайна,—вайна патрэбна царам:

Это войско несчастное ты пожалей,
Все они—обездоленный, бедный люд...
Мелик насильно нас привел,
Мы не враги тебе! Твой враг—
Мелик, иди и с ним воюй!..
Коль ты убьешь его, Давид,
Молиться будут за тебя бойцы.
Они домой уйдут, где ждут их дети и отцы.

Давід імчыцца да шатра Мсра-Меліка і ў паядынку забівае яго. Пакончыўшы з тым, каму патрэбна вайна, Давід благародна і вялікадушна адпускае безлічнае войска, якое акружала Сасун.

Сасун свабодны. Давід можа цяпер слухаць песні песняроў, якія ўсхваляюць прыгажосць далёкай царэўны Хандут-хатун, можа імчацца да яе, зачараваць яе сваёй доблесцю і прыгажосцю.

Сын Давід і Хандут-хатун—Мгер малодшы ад нараджэння свайго да сямі год не бачыў паехаўшага ў далёкія краіны бацькі. Сямігадовым віцязем, сустрэўшыся выпадкова з бацькам, ён пачынае з ім бой, і толькі нашыты на руку амулет маці выратоўвае яго ад смерці, а Давіда—ад сыназабойства. Давід канчае жыццё ад рукі сваёй маленькай дачкі, народжанай каварнаю Чымшкік-Султан.

Апошні з герояў, Мгер малодшы, паказан у эпасе як чалавек, які аўладаў вопытам, накопленым народам. Ён бачыць несправядлівасці, што напаўняюць свет, ён поўны пратэста супроць цяжкай долі чалавека. Ён гатовы выклікаць на бой нябесныя сілы, каб пакончыць ударам мяча з несправядлівасцю, прыгнётам, голадам—доляй народа. Але перад боем ён правярае сваю праваату, сам сабе намячаючы мярыла сваёй праваты. Ён уздымае меч супроць магутнай скалы: не рассячэцца—правы ён, рассячэцца—дык няма яму месца на зямлі да таго часу, пакуль стары свет не будзе разбуран і не будзе створан новы свет,—свет справядлівасці, свет, у якім «зерно пшеницы будет с лесной орех, а зерно ячменя с ягоду шиповника».

Скала рассеклася ад удару магутнага дзядоўскага мяча, і апошні з герояў эпаса, Мгер малодшы, уходзіць у скалу на сваім дзядоўскім кані і ў дзядоўскіх даспехах. Ён, паводле паданняў народа, будзе ў нетрах скалы, покуль не настане час для перабудовы свету. Толькі зрэдку на некалькі імгненняў ён наведваецца ў падсонечны свет, каб даведацца—настаў час ці не.

Споўнілася тысяча год ад тых дзён, калі армянскі народ, згуртаваўшы свае сілы, скінуў з сябе ярмо чужаземнага арабскага панавання. Споўнілася тысяча год ад тых дзён, калі быў аформлен эпас аб Давідзе Сасунскім, які ўвасобіў у сваім вобразе лепшыя мары і імкненні народа.

Настаў, нарэшце, у нашыя дні час Мгера, час армянскага народа, як настаў ён і для ўсіх іншых уваходзячых у наш вялікі саюз народаў, якім Кастрычніцкая рэволюцыя прынесла вызваленне.

Стары свет ужо разбуран на шостай частцы свету. На шостай частцы зямлі рукамі народа, прывычнымі да працы, ствараецца новы свет, дзе няма месца несправядлівасці. Умацавалася глеба,

зямля ніколі больш не будзе правальвацца пад Мгерам, пад капытамі яго магутнага каня, і цвёрдай хадой конь выносіць свайго гаспадара на ярка асветленую сонцам, залітую цяплом новага жыцця зямлю.

Вышаўшы са свайго затачэння, ён можа пазіраць на тое, як на месцы разбуранага, ненавіснага яму старога свету ствараецца свет новы, як подступы да вялікай радзімы працоўных усяго свету, да аплота ўсяго чалавецтва ахоўваюцца мільёнамі верных сыноў працоўнага народа.

---

## САНАСАР І БАГДАСАР

*(Канец першай часткі армянскага эпаса „Давід Сасунскі“)*

Што-ж іхняй звычкаю было?
Удзень па долах, па гарах,
Браты хадзілі звера біць.
І толькі вечарам яны
Да-дому з палявання йшлі.
Аднойчы Санасар сказаў:
— «На бераг мора пойдзем, брат,
Там знойдзем добрага каня
І прывядзем яго сюды.»

Браты народжаны былі,
Як цуд вялікі на зямлі—
Ад чыстай морскае вады,
І зналі ёсць у моры конь.
Да краю мора падышлі
І там уселіся браты.
Сказаў да брата Санасар:
— У мора спусцімся, браток,
Ці дна дасягнем мы з табой?
І адазваўся Багдасар:
— Салодка дыхаць на зямлі!
Не кінуся у мора я.
Сказаў тут брату Санасар:
— Што-ж, заставайся, я пайду.
Не пайду на дно—ты за мной ступай,
А пайду на дно—не ідзі за мной,—
Заставайся тут, і жыві, браток.

Набраўся духу Санасар,
Імя ён бога памянуў,
У мора кінуўся. Сам бог
Даў мору сіняму загад—
Ён па сухой зямлі пайшоў.
Ля мора Багдасар стаяў
І горка плакаў, сумаваў.
— Ой, у моры брат, ён пайшоў на дно,
Брат у мора ўпаў,—затануў ён—знік.
Калі ўжо брата след прапаў,—
Ад гора ён без сіл упаў.

Хоць Санасар у моры быў,
А там, як па зямлі хадзіў.
Убачыў ён падводны сад,
Цудоўны замак і палац,
Пад вежаю высокай там
Звініць сярэбраны фантан,
Струмень празрысты ўвысь ляціць.
Там конь прывязаны стаіць
Пад перламутравым сядлом,
На ім маланка—меч вісіць.
І колькі ў садзе тым ізноў
Падводных цудаў ён знайшоў!
Убачыў скрыню Санасар,
Не скрыня, а дзівосны дар.
Каптан ляжыць у скрыні той
І боты, што бяруць у бой,
Там пояс панцырны і шлем.
Маланка-меч у скрыні той,—
Ён побач з Погларан—трубой.
У скрыні паліца ляжыць,
І лук з адточанай стралой,
І знойдзеш ты кінжал у ёй.
Ён да фантана падышоў,
Напіў крынічнае вады,
Памыўся чыста і заснуў.
Ледзь толькі Санасар устаў,—
Па божай міласці ён стаў
Адважным, дужым і ўзмужаў,
Узрос, як дзіва-багатыр,
Даспехі слаўныя надзеў.
Надзеў ён панцырны каптан
І пояс павязаў на стан,
Прышоўся шлем яму, як раз,
І боты кутыя, як раз.
І меч-маланка ўпору стаў,
Усе ён з скрыні той дастаў.
Ён сем паклонаў аддаваў.
Малітвы ўголас прачытаў.
І ангелы прышлі тады,
Крыж налажылі баявы
Яму на правую руку.
Пайшоў ён смела да каня,
І запытаў конь-Джалалі:
— Зямлі стварэнне, што табе?
— Хачу я сесці на цябе.
— Цябе аб сонца я спалю!
— Я мора сын, і пад тваім
Схаваюся я жыватом.
— Я хлопну вобземлю цябе.
— Табе я сяду на спіну.

І сеў ён мігам у сядло.
Калі да сонца конь ляцеў,—
Ён скокнуў пад жывот каня.
Конь скінуць вобземлю хацеў,
То на спіну каня ён сеў.
Не раз яшчэ скакаў увысь,
Імчаўся конь ва ўсе бакі,
Ляцеў, на дыбы ўставаў,
Вуздэчку пенай пакрываў,—
Не змог ён Санасара зняць.
Спыніўся, пакарыўся ён:
— Ты гаспадар, а я твой конь!
Імчыцца садам Санасар,
Ізноў убачыў хвалі ён,
Убачыў мора сінь вакол.
Да брата роднага імчыць.
Сядзіць на камні, плача брат,—
Убачыў: на гару гара
Узлезла, да яго ідзе.
Усклікнуў ён: страшыдла-звер!
Мяне ён праглыне цяпер.
Ён Санасара зацягнуў,
Цяпер прышоў і па мяне.
Бяжыць ад мора Багдасар,
Услед памчаўся Санасар,
І здагнаў яго: што-ж ты плачаш, брат?
Ён сказаў: Каму-ж, як не мне рыдаць?
У мяне-ж адзін брат на свеце быў,
Ён у моры тут затануў-прапаў,
І застаўся от на самоце я.
Ну, каму-ж, скажы, як не мне рыдаць?
Санасар тады крыкнуў: Я-ж твой брат!
— Не, асілкам брат мой такім не быў,
Мо' на локаць больш за мяне ён быў.
Ды і дзе-б каня ён такога ўзяў,
І даспехі скуль ён сабе дастаў?
Тут скочыў Санасар з каня,
Ён брата ў лоб пацалаваў.
— Глянь, Багдасар! То я-ж твой брат.
Тут Багдасар вясёлым стаў,
І брат ў лоб пацалаваў,
Сказаў: Пакуль ты відным быў,—
Я не спускаў з цябе вачэй.
Калі-ж ты знік,—заплакаў я.
Пацалаваліся яны,
І ў горад свой пайшлі яны.

Жылі ў Сасуне два браты.
Аднойчы ўбачыў Багдасар.
Як ноччу ў вобразе казла

Старэйшы ідал падышоў,
Над галавой ягонай стаў,
І да світання ўсё бляяў.
Так цэлы месяц ён рабіў
Як месяц скончыўся,—тады
Змяніўся з твару Багдасар,
Увесь пажоўкнуў, пахудаў
У брата Санасар спытаў:
— Чаму ты раптам хворым стаў?
За працай ты-ж вясёлы быў.
І Багдасар загаварыў:
— Начамі, братка, я не сплю
Старэйшы ідал кожны раз
Заснуць мне ноччу не дае,
Казлом прыходзіць да мяне,
І над маею галавой
Крычыць у цемрадзі начной.
Адпраўлюся ў Багдад, мой брат.
Альбо Халіф аддасць мяне
Ў афяру ідалу, ці я
Яго ў афяру прынясу.
Мне не да твару аднаму
Ісці ў далёкі гэты шлях.
Дай разам, Санасар, хадзем,
Халіфа мы з табой заб'ем,
Як маці знойдзем там сваю,—
Ёй прывітанне прынясем.
І ўстаў за Багдасарам брат,
Пашлі з сябрамі у Багдад.
Вось горад бачны: перад ім
Браты раскінулі шацёр.
— Да маці пойдзем, Багдасар,
Узрадуем яе, мой брат!

К Халіфу людзі падышлі,
Сказалі: Будзь вясёлым, цар,—
Твае вярнуліся хлапцы.
Халіф узрадваўся тут:
Магутны Старшы ідал наш!
Свае афяры ён прывеў.
Навокал горда глянуў цар:
— Вы папракалі,
а цяпер
Вы ідалаў спазналі моц?
Магутны старшы ідал наш,
Свае афяры ён прывёў.
Паслаў людзей ён да дзяцей,
Сказалі людзі: наш Халіф
Сказаў: вы ў добры час прышлі.
Вы зналі, пэўна, заўтра дзень—

Дзень свята ідалаў усіх,
І вас ён возьме удваіх.
Тады адказвалі браты:
— Мы ідалаў спазналі моц,
Прышлі, каб у афяру ім
Абодвух нас прынёс Халіф.
Назаўтра раніцой браты
Пашлі, прадсталі прад царом,
Глядзяць: ажно на плоскі дах
Палаца узышоў Халіф,
У бокі ўзяўся, закрычаў:
— Сабакі-вырадкі! Куды
Пашлі вы, дзе блукалі вы?
Хіба не ведалі вы, псы,
Што старшы ідал верне вас?
Браты сказалі:—Бацька наш,
З тых пор, як мы на свет прышлі
Не зналі, мілы, свету мы.
Забылі ўсё, спазнаўшы свет.
Хоць мы ўцяклі на усход,
На захад кідаліся мы,—
Але ад ідалаў тваіх
Нідзе ратунку не знайшлі
Магутны Старшы ідал твой
З'яўляўся ў цемнаце начной
І наш парушыў ён спакой.
Цар кажа: ў капішча! А там
Вас я ўсім ідалам аддам!
Браты сказалі: гаспадар,
Нас ў афяру панясеш,
Мы дзеці царскія і нас
Цішком нялоўка закалоць.
Цябе мы просім, ты збяры
Да заўтра ўсіх сваіх людзей,
Каб славу ідалам аддаць.
Сказаў Халіф: О, добра так,
Зраблю, як пажадалі вы.
На свята гэтае—усіх
Паклічу я і прыганю.
Хлапцы вярнуліся ў шацёр,
Пасля да Цавінар пашлі.
І вось аддаў загад Халіф:
— Павінен я дзяцей дваіх
Магутным ідалам аддаць.
Прыходзьце ўсе у гэты дзень
На свята ідалаў маіх.
Прышлі і сёлы й гарады.
На полі не злічыць людзей,
Не ўпасці яблыку між іх.
Прышоў Халіф, прышоў і жрэц,

За імі следам і візір.
А Цавінар аж да зары
Па дзецях плакала сваіх.

Прачнуўся рана Санасар:
— Брат, за вузду каня трымай,
А я пайду. Як крыкну я,—
Каня адразу падавай.
І да Халіфа ен пайшоў.
Убачыў Санасара цар,
Пазнаў, узрадаваўся ён:
— О, Старшы ідал мой, глядзі,
Сваю афяру ты прывёў,
а хутка і другую ты
Прымусіш да сябе прысці.
І Санасару ён сказаў:
— Сынок, а дзе-ж і твой браток?
Адказ трымае Санасар:
— Мой брат малы і ён адстаў,
Спачатку закалі мяне,
А потым падаспее брат.
Сказаў Халіф: нагніся, ну,
Давай я закалю цябе!
А Санасар яму ў адказ:
— Чаму вось тут? Скажы мне,—дзе
афяру б'юць, ці на палях,
Ці ля святых варот? Хадзем,
Мяне ты ў капішчы калі,
Каб ідалам там дагадзіць!
Сказаў Халіф: Бадай ты праў!
У руку шаблю ўзяў Халіф,
Паклікаў: Пойдзем, мой сынок!
Ты ідалу паклон аддай,
А потым закалю цябе.
У капішча яны ўвайшлі,
Сынок Халіфу тут сказаў:
— Малымі з дому мы пайшлі,
Пра сілу ідала твайго
Раней мы ведаць не маглі,
Не зналі, як паклоны біць,
Каб ідалу прыемным быць?
Спачатку пакланіся ты,
Каб я убачыў твой паклон,
Каб гэтак мог схіліцца я.
І нізка пакланіўся цар,
Сказаў: Вось так, сынок, рабі!
Свой стан схіляе Санасар
І нож свой уздымае цар,
Каб Санасара закалоць.
Тады гаворыць Санасар:

Г а р л а х в а ц к і. Чарнавус мне сам прызнаўся, што ён прафан у гэтай галіне. А Левановіч тым больш: ён-жа тарфавік.

Т у л я г а. Вось якраз таму, што яны з палеанталогіяй мала знаёмы, ім і будуць здавацца дзіўнымі некаторыя рэчы.

Г а р л а х в а ц к і. Не страшна, мы ім растлумачым. Вы выступіце ў спрэчках і рассееце ўсе іх сумненні. А што да даклада, дык ад яго якасці залежыць ваш лёс у першую чаргу.

Т у л я г а. Мне напамінаць аб гэтым няма патрэбы, Аляксандр Пятровіч.

Г а р л а х в а ц к і. Тым лепш. Хутчэй канчайце, некалькі дзён засталося. *(Выходзіць)*.

Т у л я г а *(адзін)*. Некалькі дзён да тваёй пагібелі.

*Канец карціны.*

## КАРЦІНА 2-я.

Габінет Гарлахвацкага. За сталом Г а р л а х в а ц к і, Л е в а н о в і ч, З ё л к і н а (піша пратакол), Ч а р н а в у с, Т у л я г а, З ё л к і н.

Г а р л а х в а ц к і *(працягвае даклад)*. Зямныя нетры нямала хаваюць у сабе такіх астаткаў ранейшай флоры і фауны. Гэта жывая кніга прыроды. Прыведзеныя ў сістэму гэтыя астаткі абазначаюць сабою тую цудоўную, ні з чым не параўнальную лесвіцу Дарвіна, па якой на працягу соцень мільёнаў год зямное жыццё ўзбіралася крок за крокам усё вышэй і вышэй, аж пакуль не дасягнула вянца тварэння, якім з'яўляецца сучасны чалавек. Праўда, лесніца гэта не такая стройная, як уяўляюць сабе людзі, не дасведчаныя ў гэтай галіне. Часамі ў гэтай лесніцы не хапае цэлай ступенькі альбо, нават, двух-трох адразу. Калі якому-небудзь вучонаму ўдаецца знайсці і цвёрда ўстанавіць такую ступеньку, дык гэта з'яўляецца цэлай падзеяй у палеанталогіі. Мне, скромнаму работніку ў гэтай галіне, таксама пашчаслівілася, калі не ўстанавіць, дык па крайняй меры замацаваць адну з такіх ступенек. Справа ў тым, што ў Нью-Ёркскім музеі прыродазнаўства знаходзіцца сківіца невядомага выкапня. Паводле велізарных памераў гэтай сківіцы, і паводле клыкоў, падобных на біўні маманта, гэту жывёліну можна было-б аднесці да сям'і слановых, але гэтаму перашкаджае дасканала развітая поўная сістэма зубоў, чаго сярод слановых не сустракаецца. Вучоныя заспрачаліся. Адны з іх адносяць жывёліну да слановых, а другія, грунтуючыся на сістэме зубоў, залічаюць яе ў разрад няжвачных парнакапытных. Але пазіцыя апошніх была досыць хісткай, бо нікому да гэтага часу не ўдавалася знайсці другія часткі шкілета і перш за ўсё косці канечнасцей, якія-б пацвердзілі іх вывады. І вось, таварышы, гэта скромная костка, якую вы тут бачыце, канчаткова вырашае спрэчку вучоных палеантолагаў. Костку гэту даставіў нам адзін знаёмы натураліст, а адначасова з ёй і апісанне тых костак, якія былі знойдзены разам з гэтай.

Нічыпар (*прасунуўшы ў дзверы галаву*). Можна паслухаць?
Левановіч. Можна.

(Нічыпар і цёця Каця ўваходзяць, садзяцца ля дзвярэй.)

Гарлахвацкі (*працягвае*). Нам удалося ўстанавіць, што гэта костка з'яўляецца адным суставам пальца сярэдняй канечнасці тае жывёліны, аб якой спрачаюцца вучоныя. Будова нагі гэтага выкапня вельмі падобна да тае, якую мы бачым у нашай свінні. Толькі апіралася гэтая жывёліна пры хадзе не на два пальцы, а на ўсе чатыры, з якіх два крайнія былі крыху меншыя за два сярэднія. Такой моцнай апоры вымагала вялікая вага масіўнага тулава. З часам, калі пад уплывам неспрыяючых кліматычных умоў корму станавілася ўсё менш і менш, буйнейшыя экземпляры пачалі выміраць ад бяскорміцы, выжывалі толькі самыя дробныя, якім менш трэба было яды. Вага тулава з пакалення ў пакаленне змяншалася і, нарэшце, яно страціла столькі ў вазе, што для яго падтрымання досыць было толькі двух пярэдніх пальцаў на кожнай назе: два крайнія сталі пастунова атрафіравацца. Так утварыліся канечнасці нашай сучаснай свінні, у якіх два пальцы недаразвітыя. Велізарная гэта жывёліна была ўсяеднай, як аб тым сведчаць яе зубы. Яна харчавалася травою, карэннямі, пладамі, якія ёй няцяжка было даставаць з дрэў, дзякуючы свайму велізарнаму росту. А калі ёй траплялiся жывыя істоты, яна ахвотна ласавалася і імі.
Цёця Каця. Можа яна і людзей ела?
Гарлахвацкі. Калі яны былі не досыць пільнымі...
Левановіч. Тады яна абыходзілася з імі па-свінску.
Гарлахвацкі. Зусім правільна.
Левановіч. Так робяць, між іншым, не толькі дапатопныя свінні, але і некаторыя жывёліны пазнейшага перыяда.
Гарлахвацкі. Гэта тэма для спецыяльных доследаў.
Левановіч. Такія доследы дзе-ні-дзе вядуцца, наколькі мне вядома.
Гарлахвацкі. Магчыма. Я не ў курсе справы... Такім чынам, гэта костка (*падымае костку і зноў кладзе на стол. Чарнавус бярэ яе і разглядае*) і іншыя матэрыялы даюць нам падставу меркаваць, што гэта велізарная жывёліна часткова падобна была на нашу свінню, а часткова на маманта, з якім відавочна была ў блізкім сваяцтве.
Левановіч (*насмешліва*). Дваюраднай сястрой яму даводзілася.
Гарлахвацкі (*яму ў тон*). Магчыма... Дзякуючы гэтаму, яе з поўным правам можна назваць іспалінскай, альбо мамантавай свіннёй.
Чарнавус. Як, як вы сказалі?
Гарлахвацкі. Мамантавай свіннёй.
Чарнавус. Цікава, цікава. (*Кладзе костку на стол*).
Гарлахвацкі (*насцярожана*). Што цікава?
Чарнавус. Усё цікава ад пачатку да канца.
Гарлахвацкі. На тое і палеанталогія... Дык вось, таварышы,

да якога выводу я прышоў, пасля ўсебаковага і дакладнага вывучэння гэтай косткі. *(Пауза. Да Левановіча)*. Вядзі сход, мне самому нязручна.

Левановіч. У каго будуць запытанні дакладчыку?

(Маўчанне).

Нічыпар. Можна мне глянуць на гэту костку?

Левановіч. Калі ласка. *(Падае костку Нічыпару)*.

Зёлкін. Скажыце, Аляксандр Пятровіч, дзе вы такі каштоўны матэрыял знайшлі для сваёй працы?

Гарлахвацкі. Я ўжо казаў, костку гэту даставіў мне адзін знаёмы натураліст.

Левановіч. Яшчэ хто мае запытанні?

(Маўчанне).

Чарнавус. Скажыце, Аляксандр Пятровіч, да якога перыяду вы адносіце сваю знаходку?

Гарлахвацкі *(гіпнатызуе вачыма Тулягу, чакаючы ад яго паратунку)*. Да гэтага... як яго... вось выляцела з галавы. Горад яшчэ такі ёсць... Да пензенскага.

Чарнавус. Выбачайце, да якога?

Гарлахвацкі. Да пензенскага.

Чарнавус. Такога перыяду ў геалогіі я не ведаю. Вы, мабыць, хацелі сказаць да пермскага.

Гарлахвацкі *(крыху сканфужаны)*. Бачыце, я лічу, што пензенскі, ці пермскі—гэта ўсёроўна.

Левановіч *(іранічна)*. Вядома. Пермь ад Пензы не так ужо і далёка.

Зёлкін *(не зразумеўшы іроніі)*. Гэта проста прыдзірка к слову.

Чарнавус. У такім выпадку дакладчыку вельмі пашанцавала.

Гарлахвацкі. Сапраўды, мне трапілася вельмі каштоўная знаходка.

Чарнавус. Я ў тым сэнсе, што да гэтага часу ніводнай свінні ў пермскі перыяд пранікаць не ўдавалася.

Гарлахвацкі. Гэта сведчыць толькі аб тым, што даследваная мною жывёліна вельмі старадаўняга паходжання.

Чарнавус. Для пермскага перыяда, калі я не памыляюся, характэрны амфібіі—жывёліны, якія маглі жыць на сушы і ў вадзе, часта мелі жабры і размнажаліся яйцамі.

Гарлахвацкі. Вы, напэўна, самі не раз наглядалі, як нашы свінні ахвотна валяюцца ў брудных лужах. Гэта ні што іншае, як цяга да тае самай стыхіі, у якой жылі іх даўнейшыя продкі. Я цалкам дапускаю, што ў гэтых продкаў маглі быць і жабры, і што яны маглі...

Левановіч *(іранічна)*. Несці яйца.

Гарлахвацкі. А табе смешна? Адразу відаць, што тарфавік, які глыбей як на два метры, ніколі ў нетры зямлі не заглядваў.

Левановіч *(з усмешкай)*. Ты памыляешся. Я часамі так глыбока заглядваю, што магу дакапацца аж да мамантавых свіней.

Чарнавус. Вы яшчэ сказалі, што ваша свіння харчавалася людзьмі.

Гарлахвацкі. Я сказаў, магчыма, што і ласавалася.

Чарнавус. У тым-жа і справа, што немагчыма, паважаны Аляксандр Пятровіч. Немагчыма па той простай прычыне, што чалавек з'явіўся значна пазней. Сляды яго мы знаходзім толькі ў пачатку чэцвярцічнага перыяда, гэта на многа мільёнаў год пазней, чым жыла ваша свіння.

Гарлахвацкі. На гэта запытанне я адкажу вам у заключным слове... Наогул я бачу, што Аляксандр Пятровіч адносіцца да маіх вывадаў з недавер'ем. Ён знаходзіцца яшчэ ў палоне ўстарэлых тэорый у галіне палеанталогіі. Але ёсць заслужаныя людзі навукі, хоць і старыя вучоныя, але з маладой душой, якія не ўсміхаюцца іранічна, гледзячы на нашы поспехі, а радасна ім апладыруюць. Вось я маю водзыў аб сваёй працы ўсім вядомага прафесара Анікеева. Прашу азнаёміцца. *(Вымае з партфеля паперку і кладзе на стол. Левановіч прачытвае яе ўважліва пару разоў, пакручвае ў руках і кладзе на стол. Паперку бярэ Зёлкін).*

Зёлкін *(чытае)*. Паважаны Аляксандр Пятровіч! Папярэдняе азнаямленне з вашай працай дае нам падставу заявіць, што яна мае не толькі навуковае, але і глыбокае практычнае значэнне. У нас саміх былі падобныя меркаванні, але мы не распалагалі неабходнымі фактычнымі данымі, тым больш прыемна канстатаваць, што гэтыя нашы меркаванні апраўдаліся вашай выдатнай працай. Ёсць, праўда, некаторыя прабелы, якія, відавочна, тлумачацца тым, што яшчэ не ўвесь патрэбны матэрыял вамі сабраны. Пасля дэтальнага азнаямлення і супастаўлення вашых даных з нашымі мы прышлем вам падрабязную рэцэнзію на вашу працу.

З павагай да вас праф. Анікееў.»

Чарнавус. Пакажыце, калі ласка. *(Прачытвае сам сабе)*. Практычнае значэнне. Не разумею. Нічога не разумею.

Зёлкін. Тым горш для вас.

Левановіч *(іранічна)*. Можа прафесар мае на ўвазе ў калгасах разводзіць такіх свіней?

Гарлахвацкі. Ну, што ты!

Левановіч. А што, хіба нельга?

Гарлахвацкі. Яны-ж даўно вымерлі?

Левановіч *(іранічна)*. Вымерлі? Ах, чорт вазьмі, гэта шкада! А можа, іх можна як-небудзь зноў адрадзіць?

Гарлахвацкі. Не думаю.

Левановіч. Ты ў Кіеве не спрабаваў гэтым заняцца?

Гарлахвацкі *(збянтэжыўся)*. У Кіеве?.. Не... Я там у другім разрэзе...

Чарнавус. Дзіўная праблема...

Левановіч. Ды падумайце-ж, свіння якая! Большая за слана, з жабрамі, яйца нясе.

Цёця Каця. І людзей есць.

Левановіч. Людзей есці то мы ёй не дазволім...

Чарнавус. Тут альбо я вар'ят, альбо хто-небудзь іншы?

Зёлкін. У такіх выпадках трэба быць самакрытычным. *(Да Левановіча)*. Дазвольце мне слова.

Лeвановіч. Калі ласка.

Зёлкін. Павінен проста сказаць, таварышы, што ад даклада паважанага Аляксандра Пятровіча я ў вялікім захапленні. Які палёт думкі! Якое смелае пранікненне ў глыбіню сівых вякоў праз алювії, дылювії, пліацэны, міацэны і ўсялякія іншыя напластаванні. Якая сіла канструкцыйнага розуму ў Аляксандра Пятровіча, што дала яму магчымасць толькі на падставе аднае невялікае косткі намаляваць нам яркі вобраз дапатопнай жывёліны. Праўда, асталося яшчэ не высветленым, размнажалася яна яйцамі, ці чым-небудзь іншым. Але-ж хіба гэта самае важнае? Самае важнае тое, што чым бы там ні было, але яна ўсётакі размнажалася і жыла, і дажыла да нашага часу і сягоння мы яе бачым, як жывую, у вобразе Аляксандра... выбачайце, вобраз яе мы бачым у Аляксандры... выбачайце, у дакладзе Аляксандра Пятровіча. А што датычыцца пазіцыі, якую намерваецца заняць прафесар Чарнавус, дык яна нам зусім зразумелая. Мы ведаем карэнні гэтых настрояў і гэтыя выпады для нас не з'яўляюцца нечаканымі. Я лічу, што даклад Аляксандра Пятровіча—гэта вялікі ўклад у нашу навуку. Да даклада ў мяне ёсць толькі адна невялікая заўвага: мне думаецца, паколькі гэта жывёліна сваім выглядам знаходзіцца пасярэдзіне паміж мамантам і свіннёй, а ростам усё-ж набліжаецца да маманта, дык яе лепш было-б назваць не мамантавай свіннёй, а свінячым мамантам.

Гарлахвацкі. Гэта пытанне спрэчнае.

Зёлкін. У заключэнне я хачу ад душы падзякаваць—і думаю, што да мяне далучацца ўсе прысутныя—падзякаваць Аляксандру Пятровічу за тую вялікую прыемнасць, якую ён даставіў нам сваім дакладам. *(Пляскае ў далоні)*.

Лeвановіч. Хто яшчэ хоча выказацца?

(Маўчанне).

Нічыпар. Можа мне можна, таварышы?

Гарлахвацкі *(недаверліва)*. Хіба ты тут што-небудзь разумееш?

Нічыпар. Чаму, я сёе-тое магу сказаць.

Лeвановіч. Няхай гаворыць. *(Да Нічыпара)*. Гаварыце.

Нічыпар. Слухаў я, таварышы, дый думаю—якую галаву мае наш дырэктар! Я-ж, каб сто год думаў, дык бы гэтак не выдумаў, мая-б галава не знесла. Гэта-ж узяць тую звычайную костку, што пад нагамі валяецца, паглядзець на яе і ўгадаць, якія свінні былі мільёны год назад! На гэта сапраўды трэба розум. Я-ж, калі мне за абедам костка трапіцца, дык абгрызу яе, як мае быць, ды ў памыйніцу. Мне і не ў галаве, што, пасядзеўшы над гэтай косткай, можна вялікім вучоным стаць.

Зёлкін *(навучальна)*. Не ўсякая-ж костка для гэтага падыходзіць.

Нічыпар. Я гэта разумею: і костку трэба выбраць з розумам.

Вось гэту-ж костку *(паказвае пальцам)* я таксама бачыў і хацеў у смецце выкінуць.

Лявановіч. Дзе вы яе маглі бачыць?

Зёлкін. Глупства вярзе.

Нічыпар. Не глупства, таварыш Зёлкін, а сапраўды бачыў. Тут таварыш Гарлахвацкі сказаў, што гэту костку даставіў яму адзін знаёмы. Але гэтага знаёмага і я знаю добра. Гэта Цюлік яе прывалок у карыдор.

Галасы:— Што?!
— Цюлік?!
— Які Цюлік?
— Што ён такое гаворыць?

Нічыпар. Сабака так завецца...

Гарлахвацкі. Ды ён п'яны, таварышы. Хіба вы не бачыце? Ідзі, лепш выспіся, Нічыпар.

Зёлкін. Безабразіе! Ледзь на нагах трымаецца!

Нічыпар *(страшна пакрыўджаны)*. Хто, я п'яны?

Гарлахвацкі. Вядома-ж, не я.

Нічыпар. Таварыш дырэктар! Каб я так заўтра вас бачыў, як бачыў сягоння поўлітра. Эх! Ладна! *(Ідзе на месца)*.

Лявановіч. Што-ж вы... Больш не хочаце гаварыць?

Нічыпар. А... *(махнуў рукою)*. Не з маім розумам лезці ў гэту навуку. І так ужо аблаялі...

Лявановіч. Хто наступны?

(Маўчанне).

Гарлахвацкі. А вы, таварыш Туляга, хіба не жадаеце выказаць сваю думку?

Туляга *(нямёка ўстае)*. Я... не... я... уласна кажучы... Можа, Аляксандр Пятровіч раней?

Лявановіч. А вы незалежна ад Аляксандра Пятровіча.

Туляга. Што-ж, калі так... Я павінен сказаць, што даклад Аляксандра Пятровіча я выслухаў з вялікай цікавасцю. Вельмі, вельмі арыгінальны даклад. І метад даследавання зусім новы, нікім дагэтуль не ўжываны, і смеласць. Вось што самае галоўнае тут... смеласць. Гэтай заслугі ў Аляксандра Пятровіча ніхто не адбярэ. А што да назвы, дык я лічу, што спрэчкі тут зусім лішнія. На маю думку лепш за ўсё карыстацца агульна-прынятымі латынскімі тэрмінамі. Паколькі вучоныя, як паведаміў нам дакладчык, ужо спрачаліся аб гэтай жывёліне, дык адпаведны тэрмін, напэўна, існуе.

Гарлахвацкі. Па латыні яе таксама называюць—іспалінская свіння.

Лявановіч *(насмешліва)*. Гэта яшчэ не зусім па латыні.

Гарлахвацкі. У перакладзе.

Лявановіч. Не, ты дай нам сапраўдную латынь. Цікава, як гэта гучыць.

Гарлахвацкі *(адгортвае старонку даклада і чытае)*. Свінтус грандзіозус.

(Чарнавус рагоча. Схаваўшыся за яго плечы, рагоча і Туляга)

Гарлахвацкі. Што за смех! Я вас не разумею, Аляксандр Пятровіч!

Чарнавус. А я вас, Аляксандр Пятровіч, цяпер ужо зусім разумею. Да гэтага дня я думаў, што маю справу, калі не з салідным вучоным, дык, па крайняй меры, з сумленным чалавекам.

Гарлахвацкі. Што вы хочаце гэтым сказаць?

Чарнавус. Я хачу сказаць, што вы—прайдзісвет!

Гарлахвацкі. Хто? Я?

Чарнавус. Так, вы.

Гарлахвацкі. Я, дырэктар навуковай установы—прайдзісвет?

Чарнавус. Гэта непаразуменне, што вы дырэктар установы. Вы—прайдзісвет і авантурыст!

Гарлахвацкі (*стукае кулаком па стале*). Я не дазволю!

Лявановіч (*бярэ яго за руку і садзіць на крэсла*). Супакойся, дазволіш. А вы, прафесар, спакайней гаварыце. Вашых доказаў мы яшчэ не чулі.

Чарнавус. Выбачайце, я не магу спакойна гаварыць. Тут хіба доказы патрэбны, таварыш Левановіч? Гляньце-ж вы на гэту костку! Гэта-ж костка самай звычайнай свінні, зарэзанай месяц таму назад. Раскопкі нашым шаноўным дакладчыкам рабіліся не далей, як на заднім двары рэстарана «Еўропа». Асістэнтам пры гэтым быў ні хто іншы, як той самы Цюлік, пра якога тут гаварыў Нічыпар.

Гарлахвацкі. Гэта вы і падвучылі Нічыпара, яшчэ і напаілі для смеласці. Таварышы, я прашу звярнуць увагу на гэту акалічнасць! Так дзейнічае вораг.

Чарнавус. Як-бы вы мяне ні абзывалі, я вам не дазволю апашляць савецкую навуку.

Гарлахвацкі. Ого, які тон!

Чарнавус. Так, не дазволю. Я ёй лепшыя годы свайго жыцця аддаў... і ніякія шарлатаны мяне не запужаюць.

Гарлахвацкі (*да Левановіча*). Ну, не гаварыў я табе, што вораг не вытрымае, прарвецца? Скажы, гаварыў?

Левановіч. Гаварыў.

Гарлахвацкі. Дык што ты цяпер скажаш?

Левановіч. А мы яго зараз за вушка ды на сонейка.

Гарлахвацкі. Вось вам, таварышы, наглядны ўрок. Так дзейнічае вораг. Увесь горад ведае, што ён вораг. Адусюль яго прагналі, апошні прытулак яго быў тут... дзякуючы маёй слабасці, прызнаюся. Але цяпер мы пакончым з ім адным ударам, бязлітасна скрышым яго ядавітыя зубы, каб яны нас больш ніколі не кусалі! (*Стукае кулаком па стале*). Даволі цацкаліся!

(Уваходзіць Вера).

Вера. Што такое? Тут нейкі скандал?

Левановіч. Гэта спрэчкі па дакладу таварыша Гарлахвацкага.

Вера. Нішто сабе спрэчкі, калі да зубоў дайшло!
Левановіч. Прафесар Чарнавус... не згодзен з дакладчыкам.
Вера. Дык за гэта ў зубы?
Гарлахвацкі *(Веры)*. Вы не ў курсе справы, дык і не ўмешвайцеся.
Левановіч. А прафесар Анікееў вельмі добра адзываецца аб гэтай працы. *(Падае Веры паперку)*.
Вера *(глянуўшы на паперку)*. Таварышы! Гэта-ж падлог, жульніцтва!
Левановіч. Што? Пісьмо фальшывае?
Вера. Не, але гэта пісьмо паслана было прафесару Чарнавусу. Я прывезла копію. Вось, калі ласка.
Гарлахвацкі. А, змова супроць мяне! Ну, тут справа, можна сказаць, сямейная: як-жа ёй не заступіцца за мілага дружка? Таварыш Зёлкін гэта ведае.

(Зёлкін замяўся і нешта прамармытаў).

Вера *(Гарлахвацкаму)*. Вы лгун і падлец!
Гарлахвацкі. Не, гэтага больш нельга цярпець! Я пазваню, каб іх зараз-жа прыбралі. *(Працягвае руку да трубкі)*.
Левановіч *(кладзе руку на трубку)*. Не турбуйцеся, пазвонена ўжо.
Гарлахвацкі. Ты дагадаўся зрабіць гэта раней? Тым лепш.
Левановіч *(рашуча ўстае)*. Я лічу, што гэту камедыю пара скончыць.
Гарлахвацкі. І скончыць так, каб яна для некаторых стала трагедыяй.
Левановіч. Так яно і будзе. *(Да іншых)*. Прашу прабачэння, таварышы, што заключнае слова замест дакладчыка прыдзецца зрабіць мне. Мы толькі што заслухалі найцікавейшы даклад падобнага якому не слухала, напэўна, ні адна навуковая аўдыторыя. У выніку гэтага даклада перад намі ва ўсёй прыгожасці ўстаў вобраз свінячага маманта. Гэта дапатопная жывёліна аказалася вельмі жывучай і некаторыя яе экземпляры дажылі аж да нашага часу. Жывёліна гэта хаця і рэдкая ў нас, але надзвычай шкодная. Калі яе не ўзяць за жабры—добра, што якраз жабры ёсць у яе—калі не ўзяць за гэтыя жабры, дык такі свінтус грандзіозус можа шмат шкоды нарабіць. Добра, калі ён адзін, а можа за яго спіною стаяць яшчэ больш клыкастыя. Баяцца іх аднак-жа не трэба. Свінячыя маманты могуць жыць толькі там, дзе ім спрыяе клімат—у атмасферы баязлівасці, разгубленасці, падхалімства, палітычнай слепаты, а там, дзе пануе мужнасць, чэснасць і бальшэвіцкая пільнасць—яны жыць не могуць і хутка выдыхаюць. Няхай жа ведаюць усе свінні і свінячыя маманты: калі каторы з іх паспрабуе пакасціць у нашай савецкай навуцы, будзем біць проста па хобату.

(Гарлахвацкі раптам пачынае рагатаць. Усе глядзяць на яго са здзіўленнем).

Зіна. Які жах! Ён звар'яцеў!

Гарлахвацкі. Ха-ха-ха... Здорава-ж я вас разыграў!

Туляга *(да Чарнавуса)*. Як гэта разыграў! Што ён такое гаворыць?

Гарлахвацкі. Даклад-жа я чытаў не свой, а вось гэтага дзянікінца *(паказвае на Тулягу)*. Цяпер вы пераканаліся, што гэта за вучоны!

Чарнавус. Што такое?

Зёлкін. Я так і думаў! Не можа быць, каб вы, Аляксандр Пятровіч, такую бязглуздзіцу напісалі.

Туляга. Таварыш Левановіч, гэта-ж выходзіць зусім наадварот. Выходзіць, што я...

Левановіч. Не хвалюйцеся, таварышы. Я ведаю, што гэта не яго даклад. *(Паказвае на Гарлахвацкага)*.

Гарлахвацкі *(асекся і звяў)*. Ах, ты гэта ведаеш...

Левановіч. Я яшчэ не гэта ведаю. Я ведаю, як вы спрабавалі разлажыць на Украіне адзін наркамат і перабіць чэсных работнікаў. Вам гэта не ўдалося. І тады вашы прыяцелі перакінулі вас сюды з фальшывым пасведчаннем. Тут, працягваючы сваю подлую работу, вы ашэльмавалі прафесара Чарнавуса, тэрарызавалі таварыша Тулягу...

Гарлахвацкі *(гаворыць, каб прыкрыць сваю разгубленасць)*. Гэта паклёп. Я не дазволю, гэта паклёп.

Левановіч. Цяпер, таварышы, вам ясна, што гэта за чалавек! Аб ім прыдзецца пагаварыць заўтра больш грунтоўна. *(Позірк у бок Зёлкіна)*. А таксама і пра некаторых яго памочнікаў...

(Гарлахвацкі збірае паперы, кладзе ў партфель даклад).

Туляга. А даклад дайце сюды. Дайце, дайце! Я дапішу пра спосаб размнажэння свінячых мамантаў.

(Гарлахвацкі кідае даклад на стол. Туляга бярэ яго і выходзіць. Усе разыходзяцца, выражаючы жэстамі і асобнымі выкрыкамі сваё абурэнне. Гарлахвацкі стаіць, абапёршыся рукамі аб стол і ўтаропіўшыся ў злашчасную костку).

Нічыпар *(падыходзіць да стала, паказвае пальцам на костку)*. Можна прыбраць?

Гарлахвацкі *(ачнуўшыся)*. Га?

Нічыпар. Я пытаюся, костка вам ужо не патрэбна?

Гарлахвацкі. К чорту!

Нічыпар *(бярэ костку двума пальцамі і адчыняе фортку)*. Цюлік! фью, фью, фью!.. На табе тваё дабро назад! *(Кідае костку за акно)*. Прывалок, воўчае мяса! Праз цябе толькі непрыемнасць чалавеку! *(Хітра падміргвае цёці Каці і абое выходзяць)*.

*Канец.*

*Усевалад Краўчанка*

# ДРЭННАЯ ПАМЯЦЬ

*(Апавяданне)*

## I

Жарабок бег прысадамі так лёгка, як быццам і не чуў за сабой вазка з чатырма седакамі. Конюх Піліп яшчэ на самой станцыі быў павярнуўся да сваіх пасажыраў—брыгады Акадэміі навук па выяўленню і збіранню фальклора ў іхнім калгасе—з падкрэсленай урачыстасцю павольна палажыў у воз пугу, як рэч, зусім лішнюю і непатрэбную і ўзяўся за лейцы. Даволі было яму толькі цмокнуць языком, ледзь крануць правай лейчынай—і гладкі жарабок з месца рвануў буйнай размашыстай рыссю. Піліп разлічваў на эфект, думаў пачуць пахвалу за спраўны догляд коней, але госці не прыкмецілі ні таго, як ён адкладваў пугу, ні рысі жарабка. Яны пачалі распытваць Піліпа пра калгас, пра пагранічча, пачалі пытацца, якія песні вечарамі спявае моладзь у іхнім сяле, ці ёсць у калгасе такія старыкі, што могуць добра расказваць казкі.

«Не ў здзіў ім наш калгасны жарабок, прывыклі там, у гарадах, на аўтамабілях сабе катацца»,—з крыўдай падумаў Піліп і адказваў на пытанні коратка і з неахвотай. Пад'язджаючы да бяроз, што пусцілі цераз усю дарогу вузлаватыя карэнні, Піліп знарок шмаргануў лейцы:—«Няхай хоць патрусіць іх затое»...

І калі воз на карэннях пачало трусіць, як хворага ў ліхаманцы, Піліп, сагнуўшыся сабе ў перадку, задаволены смяяўся ў вусы.

Адпомсціўшы такім своеасаблівым чынам, Піліп адразу памякчэў, уся злосць на няўцямных пасажыраў, якія пасмелі не прыкмеціць красу і гордасць ягонай канюшні, расстаяла, прапала. Ён апусціў лейцы, падкруціў адзін за адным па чарзе кожны свой вус, якія хоць і не былі занадта пышнымі, але затое-ж выглядалі даволі зухавата, такімі стройнымі стрэлачкамі ўгару. Такі фасон пераняў Піліп яшчэ да рэвалюцыі ў свайго армейскага фельдфебеля. І хоць гэта было не досыць упапад, Піліп праз некаторы час парашыў умяшацца ў гутарку.

— Гэта ўсё нашага калгаса палеткі,—з гордасцю паказаў Піліп рукою на буйныя ў коласе жыты, што стаялі сцяною каля дарогі.

— Добрае жыта,—падтрымаў яго малады, худы па твару, гладка выбрыты чалавек, з цёмнымі глыбокімі вачамі, у шырокаполай фетравай шляпе і прасторным дарожным плашчы, вольна накінутым на

плечы.—Абяцае вялікі ўраджай. А ваш калгас знаходзіцца далёка ад граніцы?

— Зусім недалечка. Летам, скажу я вам, спасу няма, куры, гусі граніцу пераходзяць. Ву-унь, бачыце лясок, то...

Пілiп павярнуўся да пасажыра ў фетравай шляпе і... раптам замоўк. Ён увесь ажно страпянуўся, ні то ад здзіўлення, ні то ад спалаху—перад ім сядзеў амаль-што знаёмы, але забыты чалавек.

«Што за прывід? Гэта-ж чужак... Дзе ён бачыў гэтага чалавека?.. Сон гэта ці ява? У каго я бачыў такія чорныя вочы?

Не адводзячы погляду, Пілiп пільна ўглядаўся на худога гладка выбрытага пасажыра, з цёмнымі нібы бяздоннымі вачамі, углядаўся, забыўшыся на ўсё на свеце. Напружаная думка з кожным ударам сэрца стукала ў мозг: «Хто ён такі? Дзе я бачыў яго?»

— Выбачайце, што вы так углядаецеся на мяне?—адчуўшы сябе нялоўка пад поглядам Піліпа, паварухнуўся пасажыр.

— Нічога, нічога,—ачнуўся раптам Пілiп і, павярнуўшыся да жарабка, голасна закрычаў:—Но-но, пайшоў, каб цябе воўк не з'еў!..

А жарабок, між тым, і без яго вокліча бег спорнай рыссю, пабліскваючы на сонцы шырокім крыху ўспацелым крупам.

— Дык вы, значыць, каля самай граніцы жывеце?—не супакойваўся пасажыр у фетравай шляпе. Пілiп нават не азірнуўся назад і хацеў было зусім прамаўчаць на цікаўнасць незнаёмца, але праз некаторы час усё-ж буркнуў:

— І што вам так тая граніца далася ў знакі. Вы-ж да нас, у калгас, едзеце.

Пасажыр збянтэжана замоўк, замоўк і Пілiп і ўжо за ўсю дарогу да вёскі ён не прамовіў ніводнага слова. «Дзе я бачыў такія вочы,—думаў ён сабе праз усю дарогу.—Чужак...»

Да праўлення калгаса Пілiп падкаціў і развярнуўся па ўсіх правілах майстэрства, на поўным ходу. На ганку праўлення стаяла многа па святочнаму апранутых калгаснікаў, моладзі, жанчын, мужчын, а сярод іх у цэнтры старшыня калгаса Раманюк і начальнік пагранзаставы.

— Заждаліся мы вас, думалі, што ўжо не прыедзеце,—радушна ўсміхаючыся першым накіраваўся да воза Раманюк, малады невысокага росту хлапец, толькі нядаўна дэмабілізаваны з Чырвонай Арміі, і пачаў па чарзе вітацца з прыехаўшымі гасцямі. За ім падышоў начальнік заставы. Ён таксама ветліва прывітаўшыся, папрасіў іх паказаць дакументы.

Пілiп быў ажно прыўзняўся на возе, калі начальнік правяраў дакументы таго, худога, гладка выбрытага, у шляпе. Але дакументы ва ўсіх аказаліся ў парадку. І Пілiп разачаравана павярнуў жарабка да канюшні.

— Добра, што вы якраз у нядзелю прыехалі,—пачаў гутарку Раманюк.—Сёння ў нас выхадны дзень, то ўвечары ў клубе і моладзі і старыкоў поўна будзе. Наспяваюць яны вам столькі песень...

— А мы за гэтым і прыехалі да вас,—прыпадымаючы прывітальна сваю шырокаполую шляпу, сказаў той з прыехаўшых, які выклікаў падазрэнне ў Піліпа і па чарзе прадставіўся сустракаючым:—Іваненка... Пятро Паўлавіч Іваненка.

А тым часам Піліпа не пакідалі назойлівыя думкі. Павадзіўшы жарабка па двары, пакуль той астыў, Піліп паставіў яго ў стойла і залажыў у кармушку сена. А ідучы дадому, Піліп разважаў: «Мала што—дакументы. Вораг ёсць вораг. Трэба не спускаць з яго вачэй, праверыць...»

II

Увечары ў клубе сабралася ледзь не ўсё сяло. Прасторны зал быў напоўнены звонкімі галасамі дзяўчат, хлапцоў, размовамі, жартамі, песнямі. У клубе кожны знаходзіў сабе забаўку па густу. За доўгім сталом каля сцяны, аматары палітыкі чыталі газеты, журналы, «даміністы» рэзаліся ў костачкі, калгасны чэмпіён па шашках дзед Нічыпар іграў з Раманюком у шашкі. Забыўшыся ў гульні на ўсё на свеце, ён адно толькі паўтараў:—А я так,—і перасуне шашку:—А я так,—зноў зробіць ход:—А-а-а, ты так? Хітры ход працўніка і хутка зноў:—Калі ты так, то я так,—і паўтарае гэтае «так» аж да канца гульні.

Група паджылых мужчын з люлькамі ў зубах вяла бесканечную размову пра дажджлівую пагоду, пра надзвычайна разумнага калгаснага бугая, які ледзь не запароў пастуха Федзьку, толькі за тое, што той па сваёй дзіцячай неўцямлівасці паказаў бугаю дулю, пра агранома, які не змог адказаць на запытанне хітрага дзеда Язэпа, колькі спіц у пярэднім калясе—ды мала аб чым могуць гутарыць паміж сабой мужчыны ў вольны час.

У другім месцы дзяўчаты, акружыўшы калгаснага гарманіста, комсамольца Пятрака, весела спявалі частушкі. Палажыўшы бараду на свой «многацэнны», як ён яго называў, баян, Пятрак выпільваў такія «конікі», што здавалася ў яго не дзве, а проста чатыры рукі. Не адставалі ад гарманіста і дзяўчаты—іх звонкім пераліўчатым галасам было цесна ў клубе, і песня, вырываючыся з насцеж раскрытых вокан, разносілася па ўсёй вёсцы.

Каля гэтай групы дзяўчат і стаяў з блок-нотам у руках адзін з членаў фальклорнай брыгады Іваненка. Цяпер Іваненка быў без шляпы, у дарагім, фасонна пашытым, касцюме. Гладка прычэсаныя назад валасы прыемна падкрэслівалі худобу яго разумнага і выразнага твару. Чорныя глыбокія вочы пры святле лямп ярка блішчэлі. Ён штораз спыняў дзяўчат, прасіў праспяваць зацікавіўшую яго прыпеўку і дакладна запісваў тыя з частушак, якія ўяўлялі для яго які-небудзь інтарэс.

Два другія члены брыгады атачылі старога Язэпа, і той, раз по раз падымаючы ўгару ўказальны палец, як быццам тое, што ён расказваў уяўляла сабой нейкую неацанімую каштоўнасць, апавядаў даўжэзную, як пуга ў калгаснага пастуха, байку пра турэцкую вайну.

Конюх Піліп, якога неспакой не пакідаў ні на адну хвіліну, сядзеў за сталом і рабіў выгляд, што чытаў газету. Але ён цішком, не адрываючы вачэй, сачыў за Іваненкам. І хаця нічога падазронага ў паводзінах таго Піліп не прыкмячаў, ён усё-ж такі падумаў сам сабе: «Што вы мне ні гаварыце, а гэты чалавек не той, за каго

сябе выдае». А пакольні Піліп жыў пры граніцы не першы год і ўжо не раз затрымліваў і парушальнікаў граніцы і розных шпіёнаў, і кантрабандыстаў, ён меў рацыю прыслухоўвацца да сваіх падазрэнняў.

Пасядзеўшы яшчэ колькі часу за сталом, Піліп парашыў дзейнічаць больш актыўна, каб унесці яснасць у гэтую справу. Хто ён такі гэты чалавек, што яго так выразна памятае Піліп, як нейкага ворага. Ды і што там мудрыць, Піліп проста думаў, што яго пасажыр ніхто іншы, як звычайны шпіён, прыехаўшы ў пагранічны калгас з намерам перайсці граніцу.

«Не ўдасца!»—рашуча падумаў Піліп і, пакруціўшы свае стрэлачкамі ўгару вусы, накіраваўся да гарманіста Пятрака, які быў вышаў ў карыдор клуба пакурыць. Акрамя Пятрака ў карыдоры стаяла яшчэ некалькі комсамольцаў і старшыня калгаса Раманюк.

Адазваўшы ў канец карыдора хлопцаў і Раманюка, Піліп ціха і таямніча сказаў:

— Таварышы, так што, вунь той, каторы худы, прычэсаны, ці не шпіён гэта... у мяне такая думка, што...

Спачатку Піліпу ніхто і блізка верыць не хацеў,—сам начальнік заставы правяраў дакументы ў гэтага чалавека, гаварыў з ім, а ўжо ў каго-каго, а ў начальніка вока спрактыкаванае і насцярожанае, ён наскрозь бачыць людзей. Дык якія-ж мае падставы Піліп, каб гаварыць на Іваненка, што ён чужак. І нават Пятрак, на падтрымку якога моцна спадзяваўся Піліп, прыняў за жарт Піліпаву думку:— Ну, дзядзька Піліп, і загнулі-ж вы!..

Але, калі Піліп у адказ на гэтае нявер'е не гаворачы ні слова, злосна чмякнуў аб падлогу сваю шапку і стукнуў кулаком сябе ў грудзі, многія захісталіся.

— Быць не можа, каб я памыляўся,—прыглушана дабавіў Піліп да сваіх красамоўных жэстаў...—Я бачыў яго недзе... чорт яго ведае дзе я яго бачыў. Вочы яго зладзейскія мне ў памяці стаяць—гадзюка.

Комсамольцы адразу-ж загарачыліся, пачалі спрачацца паміж сабой, ці праў Піліп у сваіх падазрэннях ці не, у карыдоры падняўся шум. Уражаны рашучасцю Піліпа, Пятрак хутка паверыў яму і цяпер з уласцівай яму гарачнасцю пачаў настойліва патрабаваць адразу-ж затрымаць падазронага. Але супакоіў усіх Раманюк.

— Ціха, вы... расхадзіліся. Ці правы Піліп, ці не, але калі на тое пайшло, наш абавязак зараз-жа праверыць, што гэта за чалавек,—мы-ж на граніцы жывём. Тым больш, што і я недзе сустракаў яго... сам не ведаю дзе, але вочы яго, такія чорныя, памятаю бачыў...

Калі так сказаў Раманюк, усе, што дасюль сумняваліся, зараз шчыра паверылі Піліпу.

— Пятрак,—распарадзіўся Раманюк,—пакліч яго ў гэты пакой.— Толькі ветліва...

Раманюк адамкнуў дзверы бліжэйшага пакоя і зайшоў туды разам з Піліпам і некаторымі комсамольцамі. І Пятрак, задаволены адказным даручэннем, хутка пайшоў у зал.

У зале не сціхалі гутаркі і гоман. Іваненка сядзеў, акружаны весялухамі-дзяўчатамі, і нешта горача ім рассказваў. Мяркуючы па таму, што дзяўчаты раз-по раз агалашалі клуб узрывамі рогату, ён расказваў нешта смешнае.

Пятрак падышоў да гэтай групы, незаметна праціснуўся ў сярэдзіну кружка і з таямнічым выглядам крануў Іваненка за рукаў. Той, здзіўлена падняў глыбокія, праніклівыя вочы на гарманіста.

— На адну хвілінку... на адну хвілінку...

Іваненка паціснуў плячамі, папрасіў выбачэння ў дзяўчат і пайшоў услед за Пятраком.

— Вы мелі мне што-небудзь сказаць?—спытаў Іваненка Пятрака ў карыдоры. Але той моўчкі адкрыў дзверы пакоя, дзе сядзелі Раманюк, Піліп і комсамольцы і жэстам папрасіў увайсці туды госця. Насустрач Іваненку падняўся Раманюк. Піліп у гэты час колькі можна было падкруціў уверх кнот закопчанага дванаццацерыка.

— У нас к вам невялікая справа,—спакойна сказаў Раманюк.— Мы хацелі праверыць вашы дакументы.

— Але-ж у мяне іх правяралі ўжо некалькі разоў,—усміхнуўся Іваненка, акінуўшы комсамольцаў цёмнымі вачамі,—у дзень іх прывас-жа, здаецца, правяраў начальнік вашай заставы.

— На граніцы, ведаеце, не перашкаджае лішні раз праверыць чалавека.

— Калі ласка,—працягваў усміхацца Іваненка і палез у кішэню па дакументы.

А між тым Піліп, як упяў зірк у гэтага чалавека, калі толькі той увайшоў у пакой, так і не спускаў яго і да гэтых пор. Іваненка, як і ў дзень, зноў адчуў нялоўкасць пад Піліпавым паглядам, павярнуўся да яго, але цяпер Піліп не апускаў вачэй, а глядзеў нарочыта ва ўпор. «Успомню хто ты такі, быць не можа, каб не ўспомніў»,— злосна думаў сам сабе Піліп.

... — Усё ў парадку,—праверыўшы дакументы сказаў Раманюк і недавольны тым, што папаў пад уплыў Піліпа і патурбаваў нявіннага чалавека, аддаў Іваненку дакументы.

Але той, раптам задумаўшыся нечага, не выходзіў з пакоя.

— Выбачайце,—сказаў ён,—тут мусібыць вышла нейкая недарэчнасць. Вы, таварыш,—звярнуўся ён да Піліпа,—так углядаліся ў мяне ўдзень і зараз... Можа вы зблыталі мяне з кім-небудзь.

Раптам ён замоўк, зноў нечага задумаўшыся. Праз кароткі час Іваненка ўвесь аж заззяў ад смеху. Ён радасна шагнуў уперад і ўзяў Піліпа за плячо.

— Чакайце, чакайце! Здагадаўся! Можа вы бачылі мяне ў кардіне?.. У фільме «Пагранічная ноч». Я па прафесіі—кіноактор. Я там сапраўды іграў незавідную ролю—ролю...

— Шпіёна!—падхапіў нечакана на ўвесь голас Піліп і з надзвычайным аблягчэннем смачна сплюнуў сабе пад ногі.—Цьфу, каб ты згарэла такая памяць! Вось ведаю, што бачыў вочы твае, а дзе бачыў—не ўспомню. А то-ж як я ў сына ў гасцях у Мінску быў, ён

мяне вадзіў у кіно. І ты-ж скажы, каб яно згарэла, пакуль не сказаў, не ўспомніў.

І такім смешным выглядаў Пілiп у сваёй радасці ад раптоўнага прасвятлення памяці, што ўсе, хто быў на гэты час у пакоі, грымнулі несутрымным рогатам.

— Пільнасць ваша пахвалы дастойна, і памяць, нічога не скажу, цэпкая,—ад душы смеючыся разам з усімі, развёў рукамі Іваненка.

— Дрэнная памяць,—рашуча заявіў збянтэжаны Піліп і пакрыўджана махнуў рукой.

*Ю. Віцьбіч*

# РЭКРУТ ІМПЕРАТАРА ПАЎЛА

З вакна жоўтага каменнага будынка выскачыў голы дзяцюк. Прыкрываючы далоняй ніжнюю частку жывата, сціснуўшы ў кулак другую далонь, ён адразу-ж хутка пабег удоўж бязлюднай вуліцы. Па яго ілбу буйнымі кроплямі каціўся халодны пот, у вачах застыў жах, рот скрывіла сударгай. Здавалася—альбо дзяцюк звар'яцеў, альбо ўцякае ад вар'ятаў.

— Не пушчай!!! Міхе-ей!! Будачнік!! Інвалід!! Хапай!!—загарлалі выбегшы з будынка паліцэйскія салдаты і рынуліся наўздагон з вяроўкамі ў руках. За паліцэйскімі спяшаўся пажылы селянін, з перакінутай цераз плячо вопраткай і яшчэ гучней за іх крычаў:

— Уцякай, сынок!! Хутчэй, Арцём!

Арцём, нават не азірнуўшыся, устрасянуў абрытай над ілбом галавой і пабег хутчэй. Рослы, моцны, зграбны, ён нагадваў у сваім руху лася, якога праследваюць нацкаваныя гайдукамі панскія хорты. Дзяцюку засталося цяпер толькі прабегчы праз Магілеўскую плошчу. Адтуль ужо відаць недалёкі хваёвы бор. А за тым, знаёмым з маленства падгалістым борам, б'юць з-пад зямлі сцюдзёныя крыніцы, цурчаць паміж гонямі празрыстыя рэчкі, шумяць лісцем бярозавыя гаі. Там кінула сёлета ў Купальскую ноч каханая васількавы вянок у Дзвіну і той адразу затануў. Там шукала яна, засмучоная, пасля шчаслівую папарацьь-кветку і нічога не знайшла. Там радзіма.

На Магілеўскай плошчы, можа яшчэ тады, калі праз Беларусь ішоў босы швед, а можа і пазней, паставілі паласатую будку. Каля гэтай будкі, заціснуўшы паміж ног алебарду, сядзеў сёння, здавалася, крыху толькі маладзейшы за будку дзед з нязграбнай трохвуголкай на галаве, з касой, перавязанай чорнай істужкай, і з войлачнымі буклямі. Перад ім стаялі два хлапчукі—Самусь і Габрусь. Абодва аднагодкі, абодва белакурыя, яны адрозніваліся адзін ад аднаго хіба толькі тым, што Самусь трымаў у руках смажаную рэдзьку, а Габрусь мачоную грушу. Бацька іх, лайбовы рулявы Гардзей Слiж, загінуў пазалетась разам са сваёй лайбай у парогах пад Чортавай Рубай, а матка, вядомая ўсяму Віцебску цётка Сяміжоніха, гандлявала з таго часу на Рынкавай рознымі капеечнымі ласункамі. Таму і хлапчукоў звычайна звалі: хто—Сліжыкамі, а хто—блізнятамі цёткі Сяміжоніхі. Відаць чымсьці вельмі зацікаўленыя, браты Сліжы падышлі цяпер да будачніка не дарэмна, але той, хітра зірнуўшы на іх, спачатку панюхаў табакі, тройчы на ўсю плошчу чыхнуў, ад чаго на яго грудзях звякнулі медалі, сказаў сам сабе «Будзь здароў,

павытчык Наздроў,» потым абцёр анучкай вялікі ружовы нос і толькі тады загаварыў:

— І сядзіць гэнта ён, браткі мае, Абдул-Гамідушка, генерал янычараўскі, на дзіравым барабане вярхом, а сам гаручымі слязамі ўмываецца, проста сыходзіць слязою. Загінула, кажа, мая галовушка хвацкая. І зачым гэнта радзімая матухна на свет ясны мяне спарадзіла, каб цяпер мне гэнткае гора горкае на сябе прыняць. Накладу я, кажа, на сябе свае белыя ручанькі ці рынуся я калатыр-каменю ў Дунай шырокі, бо дзень белы мне цяпер горшы за чорную ноч. А наш генералісімус Расейскіх сухапутных і марскіх войскаў, граф Расейскай і Рымскай імперыі Александр Васільіч Сувораў-Рымнікоўскі сядзіць насупроціў яго, як вось я, салдат беларускага губернскага інваліднага батальёна Міхей Грамыка, насупроціў вас, шыцікаў, цюцюнок-дзярун панюхвае і яго дзяруном частуе, а сам па плячу дзядзька гэнтак ласкава пагладжвае ды гэнтак жаласна прыгаварвае—уцяшае значыцца: «Не плач, кажа, Абдул Гамідушка, не сумуй. Салдацкая галава—што пад дожджыкам трава. Абжывешся ў нас у Расеі пакрысе за лепшую душу. Спярша прымеш наш хрысціянскі праваслаўны закон, потым акапіроўку адразу атрымаеш—замест чалмы шапку з крыжыкам,—замест халата шынялішка які з убіеннага, адначасова кошт табе пойдзе, рацыён, правіянт, фураж і прыварак розны. І вось як, кажа, зажывеш, Абдул-Гамідушка. Зноў-жа жонку сваю расейскую салдатку махначыху, з Турцыі выпішы. Каму з маіх цуда-багатыроў панчохі зацыруе, каму порткі памые, каму гузік да мундзеру прышые. Глядзіш—і старая твая якую шчарбатую капейку падзаробіць на чарку сівухі. Аб дзецях сваіх кроўных, кажа, не клапаціся, галавой не хварэй. Мы іх у кантаністы прызначым. Пад старасць, калі толькі зажывуцца, добрыя будачнікі выйдуць. Будзе каму, кажа, царскія загады пільнаваць і Рабейп'ераў знішчаць. Каб ніхто з абываталяў не насіў бакенбардаў, штапаваных шапак і не хадзіў босым, каб ніхто не забараняў чыноўнікам насіць лакіраваныя боты і косы, каб ніхто не насіў французскіх капялюшоў модных і каб ніхто на вуліцы не крыўдзіў пакаёвых сабачкаў, абалоначак беспадобных. Н-да... Сядзяць гэнта яны, значыцца, браткі мае, побач бацюхна Сувораў з Абдул-Гамідушкай.

— Стой!! Стой!!—раптам закрычаў будачнік так гучна, што ў Самуся з Габрусём ад нечаканасці выпалі з рук рэдзька і груша.

Схапіўшы алебарду, дзед рынуўся да голага дзяцюка. Толькі на момант разгубіўся той, як адразу наваліліся на яго ззаду паліцэйскія і звязалі рукі вяроўкамі.

— Бунтава-аць?! Га?!—прахрыпеў, падбягаючы да Арцёма, капітан і з усёй сілы ўдарыў яго кулаком.—Ад царскай службы ўцякаць?! Як толькі прыйдзеш, сабака, у рэкруцкае дэпо, адразу пяцьдзесят фухтэляў атрымаеш! А ты што, стары хрэн, спіш?—звярнуўся афіцэр да будачніка.—Байкі цябе тут паставілі расказваць? Га? У-у-у, пацёмкінская закваска! Голакаленцы! Вольтэр'янцы!

Міхей Грамыка кракнуў і схапіўся рукой за шчаку. Медалі на яго грудзях падскочылі і зваліліся ў вулічную гразь.

— Дзед Міхей з туркамі змагаўся. Разам з грапам Суворавым Ізмаіл браў,—палахліва заўважыў Самусь, падымаючы медалі, але афіцэр, які ўсё сваё жыццё змагаўся на казарменных пляцах Гатчыны з рускімі салдатамі, не звярнуў на хлопчыка ніякай увагі.

Звязанага Арцёма паліцэйскія павялі назад да будынка. Яму дазволілі толькі з дапамогай селяніна надзець порткі. І нібы апраўдваючыся, ён сказаў селяніну:

— Мура лобам не разаб'еш, тата. Давядзецца служыць. Э-эх,— што міру, то і бабінаму сыну.

З роту Арцёма тонкай бруйкай бегла кроў, якую ён, схіляючы на бок галаву, абціраў голым плячом. Замест ранейшага жаху, дзяцюка цяпер ахапіла поўная абыякавасць да ўсяго, што толькі там унерадзе яго чакае, і неўзабаве ён знікнуў за дзвярыма будынка, праз вакно якога нядаўна выскачыў. Перад самымі дзвярыма, працягваючы рукі, рынулася яму насустрач з плачам шчуплая кабета, але паліцэйскі яе груба адштурхнуў. Селянін падымаючы кабету пачаў суцяшаць:

— Не плач, старая. Можа яшчэ, дасць бог, дачакаемся нашага сына. Ніхто, як бог. На яго ўся надзея.

Недалёка ад ганку, дзе стаялі Арцёмавы бацькі, ляжаў пад возам, раскінуўшы ногі, п'яны рэкрут. Абмацваючы толькі што брытую патыліцу, на якой цяпер паблісквала тарановая луска, ён, нібы полацкі святы Андрэй Баболя, не зводзіў з неба найшчаснейшага пазірку і бубніў сваё пад нос:

Цыц, некруце, не журыся
Ты, шчарбаты, не згадзішся.

— Што, сват Світка, добра спявае мой Гараська?—запытаўся ў Арцёмавага бацькі калматы селянін, які сядзеў на возе і час ад часу пяшчотна глядзеў пад воз.—Дзякаваць богу, аслабанілі майго сына. Чатырох зубоў пярэдніх у яго няма. Дактары зірнулі яму ў рот і гавораць: «Ну, куды-ж такі бяззубы? Ён-жа кулю скусіць не зможа». А зубы гэтыя яшчэ залетась павыбіваў Гараську пан за тое, што ён вавёрку ў панскім лесе палкай забіў, і сёлета за гэтую вавёрку захацеў, гад, яго шчарбатага яшчэ ў салдаты здаць. Не-е, тут дурных няма, але ўсё-ж, сват Якуш, чаму твайму Арцёму лоб забрылі? У цябе-ж акрамя яго ні сыноў, ні дачок?

Якуш Світка махнуў рукой:

— І не кажы, сват Вінцэсь. За дзяўчыну здаў дзяцюка пан, хай яго пярун спаліць. Ды ты толькі паслухай.

Сваты селі побач на вазу і калі запалілі люлькі, Якуш запытаўся:

— Ці не ведаеш ты часам, сват Вінцэсь, Нічыпара Бульбу з Малых Лемяшоў? Нізенькі такі, хата наводшыбе са шкляным вакном, бацька яго яшчэ першым пачаў у нас бульбу саджаць. Не ведаеш? Ну, той самы, што пазалетась купіў у Бешанковічах на кірмашы ў бачэйкаўскага папа лысага каня. Калі аглядаў жывёліну, поп і гаворыць:—Што, я табе цыган які? Гэта-ж не конь, а проста вярнігара. Толькі цару Давыду на ім ездзіць. Выпілі яны магарыча, каехаў Нічыпар да сваіх Лемяшоў і акурат на трэцяй вярсце ад

Бешанковічаў царскі вярнігара здырдзіўся, а поп і цяпер жыве. Вось, вось гэты самы Нічыпар Бульба. Ну дык вельмі спадабалася, сват, майму Арцёму гэтага самага Нічыпара Бульбы малодшая дачка Юстына. Ледзь вечар, а ўжо Арцём у залётах. Усю ноч чуваць у нас у Грэдзяках, як яны ў Лемяшах спяваюць. А да Лемяшоў ад нас тры вярсты з гакам. Раніцой толькі сын дамоў прыходзіць. Вядома, што ў каханні смаляныя лаўкі. Што і казаць—добрая дзяўчына Юстына—працавітая і з сябе прыгожая. Мне з бабай яна спадабалася, а Нічыпару з Нічыпарыхай спадабаўся мой Арцём. Пра яго-ж па ўсёй ваколіцы ні ад каго дрэннага слова не пачуеш. Хто першы на вечарынках? Арцём Світка. Хто першы на полі ці ў лесе? Арцём Світка. Вось і рашылі мы, бацькі, у асенні мясаед вяселле згуляць, але наш ваўкалака, пан Бітны-Шляхта меркаваў інакш.

Якуш выбіў з люлькі попел, зірнуў, зморшчыўшыся, на шчуплую кабету, якая моўчкі сядзела на прыступках ганку, падпершы рукой шчаку, і сказаў:

— Можа бачыў, сват, на ростані, як зварачвацъ з лепельскага шляху на Астроўну, акурат насупроціў Карлавых курганоў, асіну, а пад ёю магілу? Там пахавалі мы год пяць таму, а мо' шэсць Мікіту Шаптуна. Што чуў пра Мікіту? А хто пра яго не чуў. Аж з Вяліжу ды з Парэчча прыходзілі параіцца з ім. Іншыя чароўнікі часам сапсуюць хлеба на корані, ці заломяць жыта, ці пашлюць якую хваробу на людзей і скаціну, а Мікіта нічога варожага людзям не рабіў. Лячыў ён больш травамі і скажы, сват, добра як ведаў, дзе якая трава расце, як называецца і ад чаго дапамагае. У лесе з ваўкамі, нібы са сваякамі жыў, кожнага мядзведзя ці лася ведаў, кожную птушку, ці казюльку. Відаць была ў яго недзе захавана чорная кніга. Ходзіць па ваколіцы і ўсё нешта шэпча, шэпча, нібы пацеры. І скажы, якую моц меў. Аднойчы пашаптаў на беразе рэчкі, кінуў у яе дзіковы клык і яна тры дні ў гару цякла. Я, праўда, гэтага не бачыў, а жанкі нашы бачылі. Нічога дрэннага мы ад Мікіты не мелі, але як памёр ён, дык папы забаранілі хаваць яго на вясковых могілках і паставіць на магіле крыж. «Няхай, кажуць, ваўкі адпяваюць». Пахавалі мы тады яго на ростані і пасадзілі над магілай асіну. Цяпер тая асіна вырасла і ўсё шэпча, шэпча, нібы нябожчык Мікіта Шаптун.

Пасля Мікіты засталася дачка Зося. Ці то бацька дачку ў якіх травах мыў, але-ж, сват, такой прыгажуняй дзеўка вырасла,—проста каралева. А хіба-ж можна дачцы прыгонніка быць прыгожай, як каралева? Заўважыў яе пан і ўзяў у маёнтак за пакаёўку. Цяжка ёй там прышлося, зацяжарыла яна, як гавораць, ад паніча, згвалціў ён яе гаротную. Дык вось пан, каўтун яму з трасцай, загадаў майму Арцёму, каб ён узяў за сябе дачку Мікіты Шаптуна Зосю і прыкрыў значыцца яе сорам. Абяцаў у пасаг аслабаніць зусім ад рэкрутчыны, паставіць новую хату, прырэзаць зямлі. Некуды Арцёму падацца—ці вілы ў бок, ці сена клок—але ён усё-ж адразу адмовіўся. Тады пан загадаў гайдукам даць яму ў стайні трыццаць бізуноў і пасля кажа: «А цяпер ідзі, даражэнькі,

да сваёй Юстыны, падумай там тры дні ды тры начы і прыходзь да мяне зноў». Можа ты думаеш, сват Вінцэсь, што за Юстынай Арцём меўся атрымаць вялікі пасаг? Ды не, Нічыпар Бульба, дарма што яго нябожчык-бацька Парфен Бульба, няхай яму пухам зямля, першым пачаў саджаць бульбу, насілу наскроб дзесяць мерак. Вось і ўвесь пасаг. Ці можа думаеш, што Юстына прыгажэй за Зосю? і Юстына прыгожая, толькі Зося куды прыгажэй за яе, але-ж хто кахае, той іншай прыгажосці не мае.

Не спазнаць Арцёма пасля панскіх слоў, куды падзелася яго звычайная вясялосць. Насупіўся, нічога не есць, не п'е. У нас, у бацькоў, за яго душа хварэе. Не спазнаць і Юстыну. Тае дзяўчына, як свечка. Не чуваць больш па начах песень. І вось, на другі дзень пайшоў Арцём у маёнтак, але не да пана, а да Зосі. Знайшоў яе там і кажа: «Я табе, дзяўчына, не любы, ты мне не люба, дзіцянё не мае, якое-ж пасля гэтага ў нас жыццё пойдзе? Падумай толькі?» І Зося, добрая дзяўчына, жаль нам яе, падумала і гаворыць: «Праўда твая, дзяцюк. Лепш сорам на сябе ўзяць, ці ў лунку галавой рынуцца, чым усё жыццё пакутваць». І рашылі яны абодва ашукаць пана.

Пайшоў на другі дзень пасля хрышчэння Арцём проста да пана і гаворыць:

— Добрая, пане, дзяўчына Зося і пасаг за ёй добры, але-ж кумой яна мне даводзіцца.

— Што ты брэшаш, пся крэў!—закрычаў пан пачырванеўшы, як печаны рак.—Калі вы гэта пакуміліся?

Тут-жа загадаў ён аканому аслабаніць чарговага некрута, а замест яго здаць у жаўнеры майго адзінага сына. І тут-жа панскія сабакі-гайдукі схапілі аслупянелага Арцёма, закулі ў кайданы і кінулі ў склеп.

Нібы пярун ударыў у хату. Ды добра, калі-б пярун. Некрутчына, яна-ж страшней за пяруна. Пабег я з бабай да маёнтка. Прыбеглі і паваліліся пану ў ногі. Чырвоная шапка, яна-ж страшней за чырвонага пеўня. Чаго я толькі адрабіць за сына не абяцаў, жонка просіць пана, як Хрыста, на каленках перад ім поўзае, боты яму цалуе. Толькі-ж, сват Вінцэсь, у мужыка ў портках больш сумлення, чым у пана ў грудзях.

На заўтра, ледзь золак, звязалі гайдукі закутага Арцёма яшчэ вяроўкамі, паклалі на голыя калёсы і павезлі ў горад, нібы бычка да разніцы. Ззаду за калёсамі дваццаць вёрст беглі мы, бацькі. Спадзяваліся яшчэ, што дактары знойдуць у сына якую загану. Але дзе там! Кроў з малаком дзяцюк. Рукамі падкоўкі разгінае, зубамі дрот перакусвае.

Світка зірнуў на шчуплую кабету і ціха дадаў:—Гэта-ж я толькі бабу сваю суцяшаю, што мы Арцёма дачакаемся. Не, сват Вінцэсь. Усё ўжо. Як з нябожчыкам з сынам развітаемся, а каханка пэўна ўжо лявоніху танцуе. Дзеўчыны-ж слёзы, як раса, узыйдзе сонца— іх і няма.

Да ганку хутка прайшлі свяшчэннік з дзяканам. Неўзабаве з будынка пачулася пяянне. Яно ледзь чулася, але бацькі на вуліцы

ўважліва прыслухоўваліся да яго, скінуўшы шапкі. А калі дыякан асабліва моцна гаркнуў:

— пабеды благавернаму імператару нашаму Паўлу Пятровічу на сапраціўныя даруя

— тады стракаты сялянскі натоўп, як адзін чалавек, апусціўся на калены і пачаў маліцца ўголас:

— Святы Іван Воін! Святая Барбара! Матка Марэя Казанская! Ёзафат пакутнік! Правялікі пан, баравы Сцяпан! Бараніце нашых сыноў ад куляў, ад бонбаў, ад пораху-сялітры!

Ёсць у мяне, сват Вінцэсь, сусед Курыла Банкетнік. Добры мужык, калі-б не адна загана. Сёлета папрасілі яго віцебскія манашкі марэявіткі пачыніць анёлы ў батлейцы. І смех і грэх у іх з гэтай батлейкай быў. Толькі манашкі запяюць ды крутануць сваё кола і Матка Марэя з Хрыстом збаўцам пачнуць уцякаць ад цара Ірада, як анёл круць-верць ды, даруй божа, хапае матку Марэю за грудкі. Узяўся Курыла чыніць, спярша адмаўляўся, бо, кажа, я вельмі грэшны, каб за такую работу ўзяцца, а потым узяўся, і што ты, сват, думаеш,—прапіў спярша анёла, а потым ужо заадно і батлейку. Прышлося бедалагам марэявіткам усе карчмы аббегаць, пакуль батлейку знайшлі. Вось у гэтага самага Курылы Банкетніка нарадзіўся за тыдзень да таго, як пан Бітны-Шляхта ў сваты падаўся, сын. Ну, раз нарадзіўся, дык трэба, вядома, хрысціць. Узялі яго Арцём з Зосяй і паехалі да царквы. І як абвёў іх адзін поп тройчы вакол купелі дык ніякі другі поп цяпер кума з кумой не возьмецца абвянчаць. За гэтую-ж справу біскуп з яго адразу расу здзярэ. Абрадаваліся мы ўсе—і я і Якушыха мая, Нічыпар, і Нічыпарыха ягоная, а больш за ўсіх Арцём з Юстынай. Курылу напаілі, што ён нават заставаўся ў маёй хаце начаваць, бо кажа: «Да Грэдзякаў ад цябе, Якуш, вёрст трыццаць, калі не больш. Не ўпраўлюся я да цямна».

Людзі на адной мове зварачваліся да праваслаўных, уніяцкіх, каталіцкіх, язычаскіх святых і нехта ўспамінаў імя свайго мужыцкага вясковага святога Мікіты Шаптуна. Плакалі кабеты, смаркаліся дзядзькі. І людзі ўсё яшчэ маліліся на каленах, калі паліцэйскія пачалі разганяць іх:

— Асадзі! Аслабані дарогу! Куды прэш? Бі яго ў морду!

З будынка вышлі апырсканыя святой вадой рэкруты. Бацькам вельмі хацелася ў апошні раз абняць, пацалаваць сваіх дзяцей, але канваіры ім не дазволілі.

— Станавіся па чатыры ў рад!—загадаў рэкрутам унтэрафіцэр.—За два тыдні дойдзем да Вязьмы, а там з дэпо пакрысе накіруем каго куды, у розныя гарады. Вось цябе не інакш, як у лейб-гусары,—паказаў ён на Арцёма Світку.—Туды пасылаюць рослых, зграбных і прыгожых хлапцоў, але раней чым накінуць даламан ды нацягнуць чыкчыры, усё-ж свае фухтэлі цалкам атрымаеш. Ну, з богам!

Каманда рушыла ў напрамку процілеглым той вуліцы, па якой нядаўна ўцякаў голы дзяцюк. Ззаду за ёй цягнулася некалькі падвод з хатылямі. А па баках яе бег з плачам натоўп.

— Чаму яны вас жывымі хаваюць?—заўважыў унтэр.—Сал-

датню ды дзятву сам бог беражэ. Хто ведае якую зухаватую песню? Запявай, гусар!

І Арцём, які і цяпер ішоў закутым, запяяў:

Як ішлі-прайшлі някруты маладыя,
А за імі бягуць матулькі старыя,
Ва слязах сцежкі-дарожкі не бачаць.

Дзяцюк не зводзіў вачэй з бацькоў, што спяшаліся побач з ім. Пачуўшы сына, Якуш зморшчыўся, Якушыха заплакала, але песня, падхопленая ўсімі рэкрутамі, заглушыла плач:

Як загавораць тут някруты маладыя:
„Эх, вы матулькі, сівыя да старыя,
Не напоўніць вам сіняга мора слязамі,
Не абыйсці сырой зямлі за намі.

І нечакана ўперадзе пачулася іншая песня. Ішоў з губернскага цэйхгауза насустрач рэкруцкай камандзе інвалідны батальён. Запяваў Міхей Грамыка і да яго адразу-ж далучаліся з гікам і свістам дзве сотні дужых галасоў:

Піша сам султан турэцкі,
Піша рускаму цару,—
Я Расею заваюю
І ў Расею жыць прыду.

Ішлі ахутаныя неўмірушчай славай старыя рускія салдаты. Іх грудзі пакрыты медалямі і крыжамі, пад іхнымі мундзірамі хаваюцца шрамы ад незлічоных ран і здавалася наогул дзіўным, што яны дажылі да старасці. Адны бралі з Паніным Бендэры, другія штурмавалі з Пацёмкіным Очакаў, трэція зруйнавалі з Румянцавым Кагул. І гэта іменна ім нязломным, нібы крэмлёўскі мур, калі яны пад Рымнікам, стрымліваючы неўтрапёных янычараў, дрыгнулі, крычаў нізенькі, хударлявы, крыху згорблены дзед у славутым сваім бацькоўскім дзіравым шынялю:

— Малайцы, рэбяты, заманьвай іх у Расею, арлы, заманьвай, сакалы! Дзякуй, што самі здагадаліся!

І тады салдаты рынуліся назад і нечаканым ураганам абваліліся на ворага, чуючы побач з сабой дзядоўскі голас:

— І-ух! Рукой махні, галавой трасяні, прыкладам бі, штыком калі!

А пасля перамогі дзед, якога яны паміж сабой называлі—наш бацюхна Сувораў—абдымаў іх, частаваў з сваіх рук гарэлкай, узнагароджваў медалямі.

Імператар Павел саслаў Суворава ў глухую вёску, а сувораўскіх цуда-багатыроў, якія штыкамі і прыкладамі білі туркаў і персаў, шведаў і французаў, прусакоў і палякаў, пачалі біць фухтэлямі і шпіцрутэнамі гатчынаўскія дэгенераты, стараючыся выбіць з іх усё рускае і прышчапіць усё нямецкае.

— Аць-два! Наскі, ідалы!! Наскі, румянцаўская труха!! Ігра каб у іх чулася! Аць-два!—гарлаў на ўвесь горад капітан, махаючы эспантонам, нібы балетмейстар.

Салдаты выцягваліся, выпячвалі грудзі, левай рукой моцна прыціскаючы ружжо, а правую непарушна трымалі ўдоўж цела.

Яны высока падымалі ногі, адцягвалі наскі, а потым разам апускалі іх з грукатам на зямлю. І ад кожнага кроку падскаквалі ненавісныя прусацкія касіцы і буклі, апырсканыя квасам і абсыпаныя мукой.

— Аць-два! Левай-правай! Левай-правай! Штых раўняй, штых раўняй! Аць-два! Аць-два!

Калі батальён, уперадзе якога беглі Сліжыкі, параўняўся з камандай, запявалы адразу пазналі адзін аднаго. І малады салдат Арцём Світка, зірнуўшы спачувальна на старога салдата Міхея Грамыку, не адчуў да яго ніякай варожасці.

Каля рагаткі конныя паліцэйскія затрымалі натоўп. Дарэмна прасілі маткі прапусціць іх—яны ўсюды сустракалі раздзіраемыя цуглямі морды, а над імі такія-ж тупыя твары. Каманда пайшла далей па шляху адна. Арцём азірнуўся назад, каб яшчэ раз убачыць сваіх, але унтэр заўважыў:

— Уперад, уперад глядзі, гусар! Там уперадзе ментык і шпоры, а ззаду толькі кашуля ды лапці.

Якушыха ўвесь час стрымлівалася. Не хацелася старой непакоіць сынава сэрца. Яна доўга моўчкі глядзела Арцёму ўслед. Слёзы беглі адна за адной, перашкаджалі глядзець. Маці хутка змахвала іх рукой, але яны ўпарта беглі ізноў, засцілаючы ад яе сонца. А калі сын знікнуў, яна больш не вытрымала і паваліласяя пад капыты коней:

А, даражэнькі-ж ты мой.
А куды-ж ты ад нас упрочкі пайшоў?
Ці туды, дзе сонейка заходзіць,
Ці туды, адкуль сонейка ўзыходзіць?
А не ведаем мы, бацькі нічога,
А пра што, за што на нас такое гора!

Арцём уздрыгануў, пачуўшы матчыны прычытанні. Яму вельмі хацелася падзяліцца з кім-небудзь сваім горам, але побач з ім крочылі такія-ж прыціснутыя горам Арцёмы. Ён зірнуў спадылба наўкола і раптам усміхнуўся. Паміж бярозамі каля шляху стаяла Юстына.

Усю ноч бегла ад Лемяшоў да Віцебска дзяўчына. Бацькі забаранілі ёй адлучацца ад хаты, прыганяты наказаў назаўтра выйсці палоць панскія гароды, але дарэмна. Хто загадае дзяўчынаму сэрцу не кахаць? Як толькі вышла ў змроках з вёскі, захапіўшы апошні свой падарунак каханаму, паліў дождж і прамачыў да апошняй ніткі. На глухой ростані, дзе пахаваны Мікіта Шаптун, яна трапіла не на тую дарогу і потым да світання блукала па лясах і пожнях. Цемра, дождж, канавы, агарожы, купінкі, пні перашкаджалі ісці. Толькі раніцой прышла дзяўчына ў горад. Да жоўтага будынка яна не пайшла—вельмі баялася, каб не ўпікнулі яе людзі, што яна ўсяму прычынай. Даведалася ад будачніка, па якому шляху пагонюць рэкрутаў і пільнавала іх за горадам. Чакала ўвесь дзень, пакуль пачула зводаль песню. Адразу пазнала па голасу свайго каханага і нарэшце ўбачыла яго.

Дзяўчына махала хустачкай, паспрабавала ўсміхнуцца, але нічога ў яе не атрымалася, крыкнула:

— Бывай, Арцём, успамінай часам пра сваю Юстыну!

Арцём падняў над галавой рукі, закутыя накрыж у кайданы, і памахаў імі.

— Уперад, гусар!—зноў крыкнуў унтэр.—Чаго, чаго, а гэтага дабра ты на кожным біваку знойдзеш. Дзе салдаты, там і дзяўчаты.

Недарэка гэты унтэр. Уперадзе на шматлікіх біваках, раскіданых па ўсіх краінах Еўропы, сапраўды сустрэне прыгожы лейб-гусар шмат прыгожых дзяўчат, але куды яны варты ў параўнанні з Юстынай, якую можна сустрэць толькі аднойчы ў жыцці.

Дзяўчына бегла ўздоўж шляху і нарэшце спынілася. Яна глядзела каханаму ўслед, пакуль ён не знікнуў за паваротам. Прагна цягнулася да яго ўсім гнуткім целам, як цягнецца да сонца бяроза, а калі тое сонца знікла, захісталася як падсечаная бяроза і павалілася на пагорак. І як тая падсечаная бяроза дрыжыць кожным лістком, так дрыжалі плечы Юстыны. Побач з дзяўчынай ляжаў на зямлі забыты ёю ў час развітання і цяпер загублены капшук. На капшуку вышыла яна надысь зялёную папарацы з невядомай вяскоўцам цудоўнай чырвона-вогненнай кветкай.

З таго боку, куды пайшла рэкруцкая каманда, не чулася ні аднаго гуку. Толькі ад горада данеслася да пагорка адрывістая, нібы крык крумкача, каманда:

— Левай-правай! Ногі прама, наскі вон! Ногі прама, наскі вон! Аць-два!—Але адразу-ж яе заглушыла далёкая песня інваліднага батальёна, якую калісь запяваў на берагах Дуная сам Сувораў:

Для расейскага салдата
Кулі, бомбы—нічаго.
З імі ён за панібрата,
Ўсё бяздзелка для яго.

Віцебск. 1938 г.

*В. Кірпоцін*

# ЛЕРМАНТАЎ І ПРЫЗВАННЕ РЭВОЛЮЦЫЯНЕРА

Адна з самых ранніх страсцей Лермантава—палітычная страсць. Тэма свабоды і вольнасці—неад'емная частка амаль усіх яго ранніх твораў—і лірычных і эпічных. У 1829 годзе ён піша «Жальбы турка». «Жальбы турка»—карціна палітычнага рэжыма Нікалая I, жальбы на пасляснежаньскую палітычную і грамадскую рэакцыю. Паэт-хлопчык вельмі сур'ёзна думаў аб палітычным становішчы сваёй бацькаўшчыны і марыў прыняць удзел у яе вызваленні. Нешчаслівае, расчараванае «байранічнае» становішча ён у першых ужо вершах звязвае з палітычным рэжымам. У ім жылі ідэалы свабоды і розуму, якія дайшлі да яго ад разбітых дзекабрыстаў.

Лермантаў пазнаў гора і пакуты, ён прадчуваў новыя бядоты— і ўсё-ж ён не надламіўся, ён не адмаўляўся ад выканання прызначанай яму гістарычнай місіі. Яго прызначэнне, меркаваў ён адразу пасля азнаямлення з творамі і жыццём Байрана, стаць рускім Байранам. Ён хацеў быць падобным на Байрана, г. зн. ён хацеў быць паэтам, які заклікае да нездавальнення сапраўднасцю, сее насенне свабоды, бароніць сваю гордую незалежнасць ад агіднага і нізкапаклоннага свету.

Марачы аб ролі Байрана, Лермантаў, бясспрэчна, марыў аб спалучэнні паэтычнага прызначэння з грамадскім. Роля паэта тыпа Байрана—гэта роля паэта пратэстанта і свабодалюбца, паэта гнанага светам і людзьмі,—паэта, які аддае сваё жыццё за справу палітычнай свабоды. Расія была самадзяржаўнай манархіяй, аплотам еўрапейскай рэакцыі. Дзейнасць друга свабоды, абаронца вольнасці сустракала ў ёй нязмерна больш перашкод і небяспек, чым у Англіі. Таму Лермантаў, марачы стаць новым Байранам, уяўляў свой лёс больш пакутным, больш суровым, чым лёс англійскага паэта сусветнай тугі. Місія паэта—трыбуна, меркаваў Лермантаў, цягне з сабою трагічны лёс, звязаны з гаротнасцю, пакутамі і праследаваннямі.

Лета 1830 года пашырыла палітычны гарызонт Лермантава, абвастрыла яго імкненне да свабоды, нарадзіла ў ім чаканне блізкіх рэволюцыйных узрушэнняў у Расіі. Разам з тым, уяўленне паэта аб прызначанай яму абранніцкай місіі ўзбагачаецца новымі рысамі і становіцца больш настойлівым.

1830 год—год вялікіх падзей, якія напамянулі, упершыню пасля 1825 года, аб магчымасці грозных палітычных катастроф. Па Расіі прайшла халера, якая суправаджалася халернымі бунтамі. У Ноўгарадзе хваляванні ахапілі ваенныя пасяленні. Сялянскія бунты,

успышкі нездавальнення соцыяльных нізоў, нягледзячы на свой абмежаваны характар, устрывожылі дваранскае грамадства. Яны выклікалі ў памяці паўстанне Пугачова. Весткі аб ліпеньскай рэволюцыі ў Францыі і польскае паўстанне ўзмацнілі ў большасці дваран баязнь за трываласць самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, затое ў нешматлікай перадавой меншасці яны ўзбудзілі надзеі на трыумф палітычнай свабоды. Лермантаў вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. У студэнцкім асяроддзі Масквы палітычная мысль была ў той час больш інтэнсіўнай, чым дзе ў астатняй Расіі. Лермантаў прагна ўбіраў уражанні нараджаючыхся гістарычных змен. Ён чакаў народнай рэволюцыі, карціна якой рысавалася яму па аналогіі, створанай са спалучэння падзей Французскай рэволюцыі з падзеямі пугачоўскага руху.

Яго настроі гэтага перыяда вельмі ярка адлюстраваліся ў скупых, але грозных радках «Прадказання»:

Настанет год, России черный год,
Когда царей корона упадет;
Забудет чернь к ним прежнюю любовь,
И пища многих будет смерть и кровь;
Когда детей, когда невинных жен;
Низвергнутый не защитит закон;
Когда чума от смрадных, мёртвых тел
Начнет бродить среди печальных сёл,
Чтобы платком из хижин вызывать,
И станет глад сей бедный край терзать;
И зарево окрасит волны рек.
В тот день явится мощный человек,
И ты его узнаешь—и поймешь,
Зачем в руке его булатный нож;
И горе для тебя—твой плач, твой стон
Ему тогда покажется смешон;
И будет все ужасно, мрачно в нем,
Как плащ его с возвышенным челом.

Не цяжка ўбачыць, што «Прадказанне» яўляе з сябе сціслы паэтычны пераказ хода Французскай Вялікай буржуазнай рэволюцыі,—так як разумеў яе Лермантаў, ужыты для прагноза чакаемых падзей у Расіі. Мяркуемыя этапы рэволюцыі ў Расіі рысуюцца Лермантаву ў наступным выглядзе: спачатку нізвяржэнне манархіі, потым панаванне анархіі, потым паяўленне фігуры тыпа Напалеона, які ва ўяўленні Лермантава быў не столькі ваенным дыктатарам, колькі своеасаблівым носьбітам ідэй перавароту, знішчальнікам тронаў і феадальных парадкаў у Еўропе. Такія іменна этапы прайшла, па думцы Лермантава, буржуазная рэволюцыя ва Францыі канца XVIII стагоддзя. Што гэта так, пацвярджаецца апісаннем Французскай рэволюцыі ў «Сашцы» (1839 г.). Больш разгорнуты пераказ «Сашкі» з'яўляецца выдатным каментарыем да «Настанет год, России черный год». Супастаўленне адпаведных месц сатырычнай паэмы Лермантава з лаканічным вершам 1830 г. поўнасцю раскрывае сэнс апошняга.

У гэты перыяд уяўленне Лермантава аб прызначанай яму вялікай правідэнцыяльнай місіі рэзка абвастраецца. Яно выражана ў вершах цьмяных, амаль загадкавых, носячых трагічны характар.

Паэт гаворыць аб чакаючай яго немінучай пагібелі, у лепшым выпадку аб выгнанні. Ён піша аб дзеяннях, якія адбываюцца на ўсенароднай арэне і прыцягваюць да сябе ўвагу поўсвета. Лермантаў спрабаваў, відаць, дзяліцца з кімсьці з блізкіх сваімі прадбачаннямі, сваімі трагічнымі апасеннямі—ён сустрэў неразуменне, нават папрокі ў баязлівасці, што выклікала яго абураную рэпліку:

Не говори: я трус, глупец...
О, если так меня терзало
Сей жизни мрачное начало,
Какой-же должен быть конец...
(т. I, стар. 143; 1830 г.).

Прадбачанне фатальнага канца выклікае ў душы Лермантава ўспамін аб адхіленай любві. Аднак, усхваляванае ўяўленне паэта звязвае прадчуванне прадстаячай пагібелі не з інтымнай трагедыяй сэрца, а з якоюсьці вялікай роллю ў гісторыі краіны, а можа быць і чалавецтва. Будучае з'явіцца прыкрым пацвярджэннем незразуметых, не сустрэўшых веры, прызнанняў паэта. З верша «Н. Ф. Івановай» мы даведваемся, што адрасат паслання на расказ аб марах і аб чорных думах паэта адказала здзіўленым позіркам, словамі аб хворым розуме. Цяпер, упэўніўшыся ў сваіх марах, у сваім гістарычным прызначэнні, Лермантаў піша:

Когда к тебе молвы рассказ
Мое названье принесет
И моего рожденья час
Перед полмиром проклянет,
Когда мне пищей станет кровь,
И буду жить среди людей,
Ничью не радуя любовь
И злобы не боясь ничьей:
Тогда раскаянья кинжал
Пронзит тебя и вспомнишь ты,
Что при прощаньи я сказал.
Увы то были не мечты
И если только наконец
Моя лишь грудь поражена,
То верно прежде знал творец,
Что ты страдать не рождена.
(т. I, стар. 158; 1830 г.)

У новым вершы, адрасаваным да каханай, Лермантаў гаворыць аб смерці на плахе. Пацвердзяцца не толькі сказаныя ёй словы аб гістарычнай місіі, але і словы, поўныя прарочай тугі, чорныя думы аб заўчаснай і трагічнай пагібелі:

Когда твой друг с пророческой тоскою
Тебе вверял толпу своих забот,
Не знала ты невинною душою,
Что смерть его позорная зовет,
Что голова любимая тобою
С твоей груди на плаху перейдет.
(т. I, стар. 170; 1830 г.).

Паэт, відавочна, супастаўляе сваю магчымую пагібель з вобразам Андрэ Шэнье, як ён устае ў вершах Пушкіна.

Он был рожден для мирных вдохновений,
Для славы, для надежд; но меж людей

Он не годился—и враждебный гений
Его душе не наложил цепей;
И не слыхал творец его молений
И он погиб во цвете лучших дней.
(Там-жа).

Параўнанне лермантаўскіх вершаў, прысвечаных яго гістарычнай місіі і магчымаму фатальнаму канцу, з Пушкінскім «Андрэем Шэнье» шмат дапамагае раскрыццю іх няяснага сэнса. Уплыў і адгалоскі Пушкіна ва ўсім цыкле бясспрэчны. Уяўленне публічнага пакарання смерцю на плахе, спалучэнне ў адной меры карціны грамадскага подвіга і развітання з каханай з'яўляецца аналогіяй з вершам «Андрэй Шэнье». Паўната аналогіі яшчэ павялічваецца ад таго, што Лермантаў быў, як і Шэнье, паэтам, што ён сваю паэтычную місію не аддзяляў ад свайго прызначэння паэта. Рад вобразаў Пушкіна, крывавая плаха, заўчаснасць пагібелі, смерць недаспелага генія, які не паспеў зрабіць для славы ўзвышаных твораў адлюстроўваецца ў вобразах і нават у лексіцы Лермантаўскага цыкла. Характарыстыка асобы паэта ў Лермантаўскім вершы «К...»

Когда твой друг с пророческой тоскою...
(т. I, стар. 170).

поўна рэмінісцэнцыямі Пушкінскіх вершаў: у Лермантава:

Он был рожден для мирных вдохновений,
Для славы, для надежд...

У Пушкіна:

Рожденный для любви, для мирных покушений...

Натхненне, слава, надзеі—усё гэта тэрміны, якімі перасыпан Пушкінскі верш. Наяўнасць уплыву Пушкінскага «Андрэй Шэнье» ў цыкле правідэнцыяльных вершаў Лермантава сцвярджае іх рэвалюцыйны сэнс. А. Шэнье быў пакаран смерцю на гільятыне, як палітычны дзеяч, які падтрымліваў контррэволюцыю. Аднак, на ўспрыйманні Пушкіна—Шэнье загінуў, як прыхільнік свабоды, як змагар супроць «тыраніі». Пушкін атоесамліваў дзеячоў якабінскага перыяда фрнцузскай рэволюцыі з самадзяржаўнымі правіцелямі. Верш быў накіраван Пушкіным супроць Нікалая. Ён змяшчае ў сабе гімн свабодзе, выкрыццё «катаў самадзяржаўных», прадраканне падзення «тырана». Лермантаў прадбачыў для сябе лёс Андрэ Шэнье, гэта значыць, што ён меркаваў загінуць на плахе, як змагар за свабоду.

Часам Лермантаву здаецца, што яго чакае не пагібель, а выгнанне:

Послушай, вспомни обо мне,
Когда законом осужденный
В чужой я буду стороне—
Изгнанник мрачный и презренный,—
И будешь ты когда-нибудь
Один в бессонный час полночи,
Сидеть с свечей... и тайно грудь

Вздохнет—и вдруг заплачут очи;
И молвишь ты: когда-то он
Здесь, в это самое мгновенье,
Сидел тоскою удручён
И ждал судьбы своей решенье.
(т. I, стар. 172; 1831 г.)

Нам вядомы повад, які выклікаў гэты верш. Лермантаў пісаў яго пасля «малоўскай гісторыі», у якой ён прымаў удзел і за якую «ён чакаў строгага пакарання», як паведамляе аб гэтым яго таварыш Н. Паліванаў. «Малоўская гісторыя» (студэнцкая абструкцыя прафесару Малову, у якой адным з пачынальнікаў быў Герцэн) была падзеяй скромнай, хоць і атрымала гучны рэзананс. Удзел у ёй Лермантава таксама вельмі прыкметна адрозніваўся ад гістарычнай ролі, як ён рысаваў яе ў сваіх вершах. Адштурхоўваючыся ад гэтага повада, Лермантаў ускромніў трагічную развязку, замяніўшы пагібель на плахе выгнаннем. Аднак, нельга не заўважыць, што верш 23 сакавіка 1831 года пераклікаецца з вершамі аб вялікай місіі і аб фатальным канцы. Інтанацыі яго паслабленыя, але гэта-ж інтанацыі—прадчуванне пакарання смерцю, асуджэння законам, мысль аб сабе, як аб пагарджаным выгнанніку.

Асабліва поўна, з незвычайнай лірычнай сілай і своеасаблівым паэтычна-прыміраным смуткам выказаўся Лермантаў аб сваім прызначэнні і аб сваім трагічным лёсе ў вершы «1831 года 11 чэрвеня 11 дня»:

Моя душа, я помню, с детских лет
Чудесного искала.

Рамантычнае выабражэнне паэта з ранняга ўзросту адмоўна адносілася да навакольнай рэчаіснасці. Супярэчнасці яе Лермантаў спазнаў яшчэ дзіцем, у сямейных абставінах, хваравіта перажываючы сутычкі абмежаванага ў сродках бацькі з багагай і радавітай бабкай. Хлопчык стварау цудоўны свет, населены істотамі, якія ўзніклі з супроцьстаўлення звычайным людзям:

Но все образы мои,
Предметы мнимой злобы иль любви
Не походили на существ земных
О нет, все было ад иль небо в них.

Мары паэта мелі цьмяны, неакрэслены характар. Паэт часта скардзіўся, што іх цяжка выказаць у словах, адліць у дакладную, агульназначымую форму. Мяркуючы па некаторых вершах, ён імкнуўся расказваць аб змесце свайго ўнутранага жыцця, аб «змаганні дум», найбольш блізкім, найбольш прыязным да яго людзям. Яго не разумелі. На яго глядзелі як на поўзвар'яцелага. Ад гэтага жаданне выказацца, знайсці разуменне і спачуванне набывала ў паэта яшчэ большую сілу.

Пыл страстей—
Возвышенных я чувствую, но слов
Не нахожу и в этот миг готов
Пожертвовать собой, что-б как-нибудь
Хоть тень их перелить в другую грусть.

У гэтых думах геніяльнага юнака велізарнае месца займалі мары аб славе, аб неўміручасці ў памяці людзей:

Известность, слава,—что они? а есть
У них над мною власть; и мне они
Велят себе на жертву всё принесть,
И я влачу мучительные дни
Без цели, оклеветан, одинок;
Но верю им—неведомый пророк
Мне обещал бессмертье, и живой
Я смерти отдал все, что дар земной.

Неўміручасці можна дамагчыся справамі, гістарычнай дзейнасцю на карысць радзімы і чалавецтва. Лермантаў верыць, што, непрызнаны пры жыцці, ён знойдзе апраўданне ў патомства, якое благаславіць яго мары. У сучасным-жа ён бачыць сябе адрынутым:

Никто не дорожит мной на земле,
И сам себе я в тягость как другим...

Паэт нешчаслівы ў любві. Яго ніхто не разумее. У супроцьлегласць сапраўдным яго пабуджэнням, натоўп лічыць яго «нават злым». Ён знаходзіць тайную асалоду ў тым, што будучыя пакаленні злучаць яго імя з адхіліўшай яго каханай, што яго неўміручасць вырве са змроку забыцця дарагое яму імя і злучыць з яго ўласным навекі і непарушна. З узрушаючай шчырасцю, зусім адкрыта піша паэт словы любві, словы аб забытым сэрцы і аб незгасальнай страсці. У няўдачах любві юнака рамантык бачыць доказ несправядлівасці света, недасканалай арганізацыі жыцця. Любоў для яго—«оселок», на якім ён выпрабоўвае якасці рэчаіснасці, нават сусвету. Выпрабаванні не крышаць яго, але ачарствляюць. У ім нараджаецца непакорнасць, прага да помсты, бунта, ён гатовы рабіць зло, хоць хацеў даваць шчасце:

Под ношей бытия не устает
И не хладеет гордая душа,
Судьба её так скоро не убьёт,
А лишь взбунтует; мщением дыша
Против непобедимой, много зла
Она свершить готова, хоть могла
Составить счастье тысячи людей;
С такой душой ты бог или злодей...

Адказнасць за злы, дэманічны пачатак у сабе і ў сваіх героях Лермантаў заўсёды—і ў прозе, і ў драме, і ў вершах—ускладае на свет, які не прыняў дабра. Паэт аддаецца сузіранню прыроды і вечнасці. Яны—не аб'ект для абыякавага, роўнадушнага вока, а арэна вялікіх спраў.

Так жизнь скучна, когда боренья нет;
В минувшее проникнув, различить
В ней мало дел мы можем, в цвете лет
Она души не будет веселить.
Мне нужно действовать, я каждый день
Бессмертным сделать бы желал, как тень
Великого героя, и понять
Я не могу, что значит отдыхать.

Паэтычнай мовай, у лірычных вобразах выказвае Лермантаў мыслі, якія адначасов, у філасофскай і публіцыстычнай форме, абвяшчалі Герцэн, Белінскі, Бакунін. Чуццём паэта ён знаходзіў новае, што ўзнікала ў грамадскай і палітычнай мыслі краіны. Перадавыя рускія людзі пачынаюць апраўляцца пасля цяжкага патрасення, 14 снежня 1825 года. Яны шукаюць шляхоў да дзеяння, яны закладваюць пачатак новых праграм грамадскага развіцця.

Прага да дзейнага ўдзелу ў жыцці не была асабістай асаблівасцю Лермантава. У паэтычнай форме ён выказаў тое, да чаго імкнуліся лепшыя з яго сучаснікаў. «Ганарыся, ганарыся, чалавек, сваім высокім прызначэннем»—пісаў Белінскі ў «Літаратурных марах» (1884 г.)—але не забывай, што бажэственная ідэя, якая цябе нарадзіла,—справядлівая і правасудная, што яна дала табе розум і волю, якія ставяць цябе вышэй за ўсё тварэнне, што яна жыве ў табе, а жыццё ёсць дзейнічанне, а дзейнічанне ёсць барацьба». (Белінскі, Выбраныя творы, т. І, стар. 110; 1934 г.). Прагай да справы прасякнут быў і Герцэн. Чалавеку, навучаў ён,—«мала асалоды ад спакойнага сузірання і бачання; яму хочацца паўнаты, асалоды і пакутаў жыцця; яму хочацца дзейнічання, бо адно дзейнічанне можа поўнасцю здаволіць чалавека. Дзейнічанне—сама асоба.» (А. І. Герцэн, Поўны збор твораў і пісьмаў пад рэд. Лемке, т. III, стар. 216). Згаданая тут мысль Герцэна ўзята з яго работы «Дылетантызм у навуцы» (1843 год), але яна характарызуе настрої Герцэна-студэнта, які навучаўся ва ўніверсітэце адначасова з Лермантавым. Герцэн-студэнт свядома шукаў шляхоў да прамой палітычнай дзейнасці. «Мы ўвайшлі ва аудыторыю,—расказвае ён,—з цвёрдай мэтай заснаваць зерне грамадства па вобразу і падабенству дзекабрыстаў, і таму шукалі празелітаў і паслядоўцаў». (т. XII, стар. 574).

Голас іншых патрэбнасцей, новых грамадскіх шуканняў магутна гучыць у паэтычных вопытах Лермантава. Калі Лермантаў у сваіх вершах гаварыў аб неабходнасці дзеяння, аб неўміручых справах, аб паспешным імкненні нешта зрабіць для агульнага дабра, для славы, свабоды і гонару радзімы, ён меў на ўвазе *палітычную рэвалюцыйную дзейнасць*. У 1830—31, нават 1832 годзе ён чакаў у Расіі пачатку вялікіх народных патрасенняў. Ён меркаваў, што народ паўстане супроць цара і дваран-памешчыкаў. Лермантаў, відавочна, меў намер прыняць удзел у рэвалюцыйных патрасеннях на баку народа супроць самадзяржаўя і кіруючых вярхоў. Адсюль яго заўсёдныя ўспаміны ў выбранніцкіх вершах, што яму «пажывай стане кроў», што яго «пракляне поўсвета», г. зн. дваранская Расія і кіруючыя класы ўцягнутых у рэвалюцыйныя падзеі сумежных краін. Лермантаў, відавочна, марыў аб буйнай ролі, магчыма аб кіруючым удзеле ў рэвалюцыі, таму ён пісаў, што чуткі разнясуць яго імя (т. І, стар. 158), што цэлы свет угледзіць яго дзеянні. (т. І, стар. 355).

Лермантаў быў адзіночкай. Ён асэнсоўваў гістарычнае мінулае па-за сферай масавага рэвалюцыйнага руху. Яго аб'ектыўнае ўспрыняцце вопыта мінулага падказала яму, што рэвалюцыя нібыта

не перемагаюць. Пацярпеў паражэнне Пугачоў, былі разбіты дзекабрысты. Вядомыя яму рэвалюцыйныя рухі на Захадзе ён лічыў таксама пацярпеўшымі паражэнне. Лермантаў не мысліў і не мог мысліць соцыяльна-класавымі катэгорыямі. Для яго байранічнага розума пацярпела крах і Вялікая французская рэволюцыя. Пераварот 1830 года абрадаваў яго, але толькі самы пераварот, а не яго рэзультаты. Ён не верыў у перамогу надыходзячай рэволюцыі. Дзеячы рэволюцыйнага патрасення, думаў ён, павінны немінуча загінуць—і ён сам у тым ліку. Адсюль гэтыя настойлівыя матывы ў цыкле выбранніцкіх вершаў аб ганебнай смерці (т. І, стар. 170), аб жудаснай смерці, з якой здзіўяцца чужыя краі (т. І, стар. 180), аб крывавай магіле, аб плахе, аб гвалтоўным канцы на месцы пакарання, аб праклящцях суправаджаючых яго імя і яго рэабілітацыі патомствам.

Творы Лермантава, прысвечаныя чакаемаму ім фатальнаму канцу, маюць той-жа сэнс, што і несумненна знаёмыя яму радкі Рылеева са «Споведзі Налівайкі»:

Известно мне: погибель ждет
Того, кто первый восстает
На утеснителей народа—
Судьба меня уж обрекла.
Но где, скажи, когда была
Без жертв искуплена свобода?
Погибну я за край родной
Я это чувствую, я знаю...
И радостно, отец святой,
Свой жребий я благословляю.

Пакаранне дзекабрыстаў пацвердзіла прароцтва Рылеева. Лермантаў чакаў для сябе не лепшага канца. Такая была атмасфера палітычнага свабодалюб'я гэтых год. Фатальнага канца чакаў не толькі Лермантаў, але і Герцэн: «Мой ідэал быў Карл Моор,—расказваў ён аб сваім юнацтве ў «Былом і Думах»,—але я хутка здрадзіў яму і перайшоў у маркіза Позу. На сто спосабаў прыдумваў я, як буду гаварыць з Нікалаем, як ён пасля накіруе мяне ў капальні, пакарае смерцю. Дзіўная рэч, што амаль усе нашы лятуценні заканчваліся Сібір'ю або пакараннем смерцю і амаль ніколі перамогай. Няўжо гэта—рускі склад фантазіі ці адбітак Пецербурга з пяццю шыбеніцамі і катаржнай работай на юным пакаленні». (ч. І, гл. IV).

У супастаўленні з прадчуваннямі Рылеева і юнацкімі самаахвярнымі лятуценнямі ў Герцэна фатальныя разважанні Лермантава трацяць свой выключны характар. У гэтых адносінах правідэнцыяльныя вершы Лермантава зусім аналагічны адкрыта-палітычным цытыраваным вершам Рылеева і ранним палітычным лятуценням Герцэна і Огарэва.

У 1832 годзе Лермантаў з асаблівай сілай перажывае падвойнае расчараванне: ён прыходзіць да вывада, што напружанае і прыцягваючае чаканне палітычных патрасенняў застанецца дарэмнай марай, і што разам з тым разлятаюцца ў нішто гордыя думы выбранніцкай місіі паэта, хоць бы цаною фатальнага канца. Лермантаў не быў звязан з масамі, ён быў далёкі ад іх, ён не ведаў іх жыцця, ён не разумеў іх значэння ў гісторыі. Змена стамляючага чакання фаталь-

ных і прывабных народных мяцежоў безнадзейным станам яшчэ больш узмацніла раз'яднанасць паэта з масамі.

Новае ажыўленне ўнутранага жыцця паэта пачынаецца з 1835—36 г. г.; асабліва моцны штуршок надало яму палітычнае абурэнне, выкліканае пагібеллю Пушкіна. Заключныя шаснаццаць радкоў верша «Смерць паэта» упершыню за многа год перапынку пагражаюць кіруючай знаці расправай народнай рэволюцыі:

> И вы не смоете всей вашей черной кровью
> Поэта праведную кровь.
> (т. II, стар. 17, 1837 г.)

У «гуртку 16», аб якім, на жаль, да нас дайшло вельмі мала вестак, Лермантаў абмяркоўвае з нешматлікімі таварышамі пытанні палітычнай сучаснасці.

Нягледзячы на яўнае грамадскае і народнае абурэнне забойствам Пушкіна, якое вылілася ў нешта накшталт неафармленай дэманстрацыі ля кватэры памершага паэта, пагроза Лермантава не пацвярдзілася безадкладнымі рэальнымі падзеямі. Лермантаў не быў ні дыялектыкам, ні вопытным палітычным дзеячом. Нягледзячы на сваё страснае імкненне да палітыкі, ён усё-ж быў перш за ўсё паэтам. Ён мог-бы зразумець толькі безадкладнае палітычнае дзеянне. Лермантаў не ўяўляў сабе, што існуе магчымасць павольнага вырошчвання палітычных сіл. Відавочна, сваімі вершамі на смерць Пушкіна ён меў намер узмацніць грамадскае абурэнне. Рукапісныя спісы «Смерці паэта» распаўсюджваліся, відавочна, з тымі-ж намерамі, з якімі распаўсюджваюць пракламацыі. Рэзультат усёй гэтай справы для Лермантава, па яго разуменню, быў адзін—арышт і ссылка на Каўказ. Асуджаны паэт у пісьме к Раеўскаму (у сакавіку 1837 года) з крыўдаю жартуе: «Мне часам, здаецца, што ўвесь свет на мяне паўстаў, і калі-б гэта не было вельмі прыемна, то, да-праўды, мяне-б засмуціла... Бывай, мой сябра. Я буду табе пісаць пра краіну цудаў—усход. Мяне суцяшаюць словамі Напалеона—Les grand noms se font a l'Orient. Бачыш: усё глупства». (т. V, стар. 390). Жарт ужо вельмі характэрны, жарт чалавека, які другі раз перажывае расчараванне ў магчымасці адыграць вялікую палітычную ролю ў лёсе сваёй краіны.

Ён нарадзіўся не ў час—гэты вястун-пясняр. Ён прагнуў навальніц, патрасаючых не бясплённыя ветры, а народы і дзяржавы. Ён жыў у глухія годы, усё было мёртва вакол на паверхні. Ён не разумеў, што праграма будучых соцыяльных навальніц выкоўваецца ў мірных студэнцкіх гуртках Герцэна, Станкевіча, Белінскага і некаторых іншых. Але адно ён адчуваў цвёрда, незалежна ад усіх процівпаказанняў перамогшай рэчаіснасці—падглеба Расіі насычана порахам, выбухі страшэннай сілы ў будучым немінучы. Лермантаў адчуваў гэта не як мысліцель, не як палітык, колькі-б ён ні марыў аб ролі гістарычнага дзеяча, а як паэт, падобна таму, як Блок чуў надыходзячую рэволюцыю ў XX стагоддзі ў выглядзе нейкага неяснага, аддаленага і нарастаючага гуду. Лермантаву была вядома літаратурная містыфікацыя французскага пісьменніка Лагарпа «Прароцтва Казота». Лагарп апісвае вечар у кругу знаці за шэсць год да

Вялікай французскай рэволюцыі; на гэтым вечары Казот дакладна прадказвае дату рэволюцыі і лёс усіх прысутных—у тым ліку і свой уласны (т. II, каментарыі, стар. 207). Пад уражаннем «прароцтва» Казота Лермантаў накідвае некалькі строф, падказаных аналогіяй паміж справамі першай трэці XIX стагоддзя і Францыяй канца XVIII стагоддзя:

На буйном пиршестве задумчив он сидел
Один, покинутый безумными друзьями.
И в даль грядущую, закрытую пред нами,
Духовный взор его смотрел.

И помню я, исполнены печали
Средь звона чаш и криков и речей
И песен праздничных и хохота гостей
Его слова пророчеством звучали.

Он говорил: ликуйте, о друзья,
Что вам судьбы дряхлеющего мира?..
Над вашей головой колеблется секира,
Но что-ж!.. из вас один ее увижу я.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(т. II, стар. 56, 1839 г.)

Лермантаў бачыў таксама за мяжою блізкіх год вялікія патрасенні, кроў, магчыма, уласную пагібель. У накідзе гэтым галоўнае, аднак, не прадчуванне ўласнага фатальнага лёсу, а прадбачанне немінучасці рэволюцыі, нягледзячы на ўсе проціпаказанні павярхоўнага, пануючага мышлення.

Лермантаў, як пушкінскі прарок, пайшоў к людзям, каб «глаголом жечь сердца людей»,—каб накіраваць іх да справядлівасці і праўды. Ён і лічыў сябе пракам-трыбунам, ён бачыў у сабе спалучэнне даравання паэта і таленту народнага правадыра—людзі не прынялі яго, грамадства адкінула яго. Яго месіяністычная роля пацярпела, здавалася, поўнае крушэнне. Як паэт-прарок, як паэт-трыбун, Лермантаў бачыў заганы і недахопы людзей свайго пакалення:

С тех пор, как вечный судия
Мне дал всеведенье пророка,
В очах людей читаю я
Страницы злобы и порока...

Ён абвясціў ідэалы соцыяльнай любві, палітычнай справядлівасці, маральнай праўды.

Провозглашать я стал любви
И правды чистые ученья...

— І ў выніку поўнае крушэнне. «Прарока» сустрэлі каменнямі, ён прымушан быў бегчы ад людзей, толькі ў бязлюднай прыродзе знайшоў ён прытулак, грамадства выгнала яго, ён стаў пасмешышчам для дзяцей:

В меня все ближние мои
Бросали бешено каменья.

Посыпал пеплом я главу,
Из городов бежал я нищий
И вот в пустыне я живу,
Как птицы, даром божьей пищи.

Завет предвечного храня,
Мне тварь покорна там земная.
И звезды слушают меня,
Лучами весело играя.

Когда же через шумный град
Я пробираюсь торопливо,
Там старцы детям говорят
С улыбкою самолюбивой:

„Смотрите: вот пример для вас.
Он горд был, не ужился с нами.
Глупец, хотел уверить нас,
Что бог гласит его устами!

Смотрите-ж, дети, на него:
Как он угрюм и худ, и бледен!
Смотрите, как он наг и беден,
Как презирают все его!"

«Прарок»—твор патрасаючай трагічнай і абвінавачвай сілы. Ён—трагічны рэквіем тытанічнай спробы павярнуць людзей са шляху зла на шлях грамадскага дабра; ён—бязлітаснае абвінавачванне грамадства, якое выганяе ўсіх, хто парушае яго косны, рэакцыйны на соцыяльнай няпраўдзе і рабстве абгрунтаваны спакой.

У крушэнні сваёй выбранніцкай місіі, у перамозе пошлых і косных сіл Лермантаў абвінавачваў грамадства, асяроддзе. Тым самым ён знайшоў выхад сваім шуканням у сатыры, у бічаванні грамадскіх заган. Але паэт абвінавачваў і сябе за перараджэнне, за размякчэнне, за падпаданне пад уплыў выпешчанага, рабска-абыякавага пакалення. Ён успамінаў паэтаў—грамадскіх трыбунаў, быць можа—заклік к свабодзе ў вершах Пушкіна, быць можа—Рылеева:

Бывало мерный звук твоих могучих слов
Воспламенял бойца для битвы,
Он нужен был толпе, как чаша для пиров,
Как фимиам в часы молитвы.

Твой стих, как божий дух, носился над толпой
И отзыв мыслей благородных
Звучал, как колокол на башне вечевой
Во дни торжеств и бед народных.

І ён звяртаўся да сябе самога з пытаннем, у якім гучала не толькі роспач, але і надзея:

Проснешься-ль ты опять, осмеянный пророк!
Иль никогда на голос мщенья
Из золотых ножен не вырвешь свой клинок,
Покрытый ржавчиной презренья?..

І вось тады, калі Лермантаў страціў надзею адыграць ролю паэта-трыбуна, ролю вялікага грамадзяніна, які абуджае спячых, заклікае наперад да грамадзянскіх баёў, калі ён лічыў сябе адкінутым і выгнаным прарокам, асуджаным прапаведваць у пустэчы—ён

знайшоў сваю місію, ён прыступіў да ажыццяўлення сваёй вялікай гістарычнай ролі. Яго абураючыя, бічуючыя вершы сеялі не бязвер'е і апатыю, а будзілі сілы грамадскага абнаўлення. Белінскі і Герцэн, Чэрнышэўскі і Добралюбаў—дэмакратычны лагер рускай грамадскасці прызнаў гэтага дваранскага пратэстанта сваім паплечнікам. Лермантаў, мысль якога знаходзілася ў рамантычных антытэзах, які не ведаў градацыі між поўнай перамогай і поўным паражэннем, не мог сам ацаніць, што перанесеныя ім ганенні і праследванні сведчылі аб актуальнай дзейнасці яго слова. Прарока закідвалі каменнямі, прарока, як жабрака, гналі ад дзвярэй, пасылалі ў выгнанне на фронт, рыхтавалі яму пагібель. Ганіцелі яго разумелі, што пропаведзь паэта не марная, што яна расхіствае, здавалася-б непахісны будынак, што яна вярбуе староннікаў. Фатальныя прадчуванні, прароцкія прадказанні Лермантава споўніліся, хоць і ў відазмененай форме: ён загінуў у выгнанні, гвалтоўнай смерцю, ён знайшоў апошні прытулак у крывавай і ранняй магіле.

Лермантаў не зрабіў усяго, што мог, ён не разгарнуў у поўную меру грандыёзных сваіх сіл, але ён памёр не ў невядомасці і нікчэмнасці. Ён памёр, акружаны нянавісцю Нікалая і яго прыбліжаных, як вораг рэжыма. Ён памёр, як баец перадавога лагера, пачаўшага ўжо справу крытыкі самадзяржаўна-прыгонніцкай рэчаіснасці, хоць, быць можа, сам і не ўсведамляў гэтага ў поўным аб'ёме.

Дзейнасць Лермантава з'явілася неабходным момантам у выспяванні маладой—новай, рэволюцыйнай Расіі. Споўніліся не толькі прадчуванні Лермантава аб яго фатальным канцы,—ён выканаў таксама прызначаную ім сабе гістарычную місію.

*Праф. М. Дабрынін*

# НАРЫС ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ[1]

## Літаратура з паловы XIII, XIV, XV да паловы XVI ст. ст.

Распад імперыі Рурыкавічаў на рад самастойных княстваў меў сваім вынікам і тую акалічнасць, што сіла іх слабела. Калі ў пачатку XIII стагоддзя з'явіліся татары, рускія не маглі ўтрымаць іх наступу, былі разбіты і пастаўлены ў залежнасць. Першая бітва паміж татарамі і злучанымі сіламі рускіх і полаўцаў адбылася ў 1224 годзе на рацэ Калке, так званае калкскае пабоішча.

«У лета 6745 (1237). Прышлі бязбожныя ізмальцяне, якія раней біліся з рускімі князямі на Калке».

Так паведамляе летапісец аб пачатку пабоішча Батыя. Татары разграмілі Паўночна-усходнюю Русь, затым разграмілі Паўднёвую Русь, узялі Пераяслаў, Чарнігаў, і іншыя гарады, а «ў лета 6748 (1240) узялі і разбурылі Кіеў. Усе землі рускія, за выключэннем Беларусі папалі ў залежнасць ад татар, пачалося татарска-мангольскае ярмо, якое па выражэнню К. Маркса, «не толькі душыла, яно зневажала і высушвала самую душу народа, які зрабіўся яго ахвярай. Мангольскія татары ўстанавілі рэжым сістэматычнага тэрора, прычым руйнаванне і масавыя забойствы зрабіліся яго пастаянным інстытутам» (*К. Маркс.* Сакрэтная дыпламатыя. XVIII ст.).

Цяпер нас павінны цікавіць два пытанні:

1) Утварэнне нацыянальнай рускай дзяржавы;

2) Становішча Беларусі і яе лёс у перыяд татарскага панавання ў Паўночна-усходняй Русі.

Утварэнне нацыянальнай рускай дзяржавы—з'явішча ў вышэйшай ступені прагрэсіўнае. Працэс гэты захапіў XIV, XV, пачатак XVI стагоддзяў.

Па гэтаму пытанню мы маем меркаванне такіх аўтарытэтаў, як Ленін і Сталін.

Яшчэ ў ранняй сваёй працы. «Что такое «друзья народа» и как они воюют против социал-демократов?» В. І. Ленін указаў на тое, як ішоў працэс аб'яднання і як на месцы феадальна раздробленых адзінак адбылося нацыянальнае аб'яднанне, як адбывалася «зліццё ўсіх такіх абласцей, зямель і княстваў у адно цэлае. Зліццё гэта

[1] Працяг. Пачатак гл. у № 7.

выклікана было не родавымі сувязямі, паважаны п. Міхайлоўскі, і нават не іх прадаўжэннем і абагульненнем. Яно выклікалася абменам, які ўзмацняўся паміж вобласцямі, паступова растучым таварным зваротам, канцэнтрыраваннем невялікіх мясцовых рынкаў у адзін усерасійскі рынак». (*Ленін*, т. I, стар. 73).

Такая эканамічная старана справы працэса аб'яднання. А вось і палітычная. «Нават у Расіі, гаворыць Энгельс, пакарэнне ўдзельных князёў ішло рука аб руку з вызваленнем ад татарскага ярма і канчаткова было замацавана Іванам III». (*Маркс і Энгельс*. Збор твораў, т. XVI, ч. I, стар. 450). У гэтым працэсе аб'яднання рускіх зямель навакол Масквы вялікую ролю адыграла тая акалічнасць, што Маскоўскі вялікі князь вёў барацьбу з феадаламі, князямі, абапіраючыся на народныя масы. Гэта рабіла Маскву цэнтрам нацыянальнай барацьбы з татарамі, якія самі зрабіліся сродкам у руках маскоўскага князя. Вельмі добра аб гэтым пісаў К. Маркс: «Іван Каліта ператварае хана ў сродак, пры дапамозе якога ён аддзелваецца ад найбольш небяспечных супернікаў і адхіляе ўсялякую на сваім шляху перашкоду. Ён не заваёўвае ўдзелы, але непрыкметна ператварае ў сваю выключную карысць правы заваёўнікаў татар». І далей, «ханы як зачараваныя прадаўжалі заставацца сродкамі ўзмацнення і збірання Масквы». (*К. Маркс*. Сакрэтная дыпламатыя XVIII стагоддзя). Ясна, што працэс аб'яднання ішоў знутры грамадства і рашаючую ролю тут адыгралі шырокія народныя масы, народ, які быў ворагам феадальнай раздробленасці і носьбітам ідэі яднання яшчэ з часоў Кіеўскай дзяржавы.

Нарэшце, яшчэ адна аўтарытэтная думка: «На Усходзе Еўропы, наадварот, працэс утварэння цэнтралізаваных нацыянальнасцей і ліквідацыя феадальнай раздробленасці не супаў па часу з працэсам утварэння цэнтралізаваных дзяржаў. Я маю на ўвазе Венгрыю, Аўстрыю, Расію. У гэтых краінах капіталістычнага развіцця яшчэ не было, яно, можа быць толькі зараджалася, між тым як інтарэсы абароны ад нашэсця турак, манголаў і іншых народаў Усхода патрабавалі *неадкладнага ўтварэння цэнтралізаваных дзяржаў, здольных утрымаць націск нашэсця*. (Падкрэслена мною—*М. Д.*). І так як на Усходзе Еўропы працэс з'яўлення цэнтралізаваных дзяржаў ішоў хутчэй працэсу складвання людзей у нацыі, дык там утвараліся змешаныя дзяржавы, якія мелі некалькі народнасцей, што яшчэ не склаліся ў нацыі, але ўжо аб'яднаных у агульную дзяржаву». (*І. Сталін*. «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне». М. 1937 г., 73 стар.).

І так аб'яднанне рускіх зямель вакол Масквы ў адну нацыянальную велікарускую дзяржаву факт глыбока прагрэсіўны. Працэс гэты ідзе з часоў Каліты (1328—1341) і ў асаблівасці з часоў княжання Дзмітрыя Данскога (1359—1389) і заканчваецца пры Іване III (1462—1505). Рашаючымі падзеямі гэтага перыяда, меўшымі значэнне не толькі для Маскоўскай Русі, а і для Украіны і Беларусі, была бітва на Кулікоўскім полі ў 1380 г., звяржэнне татарскага ярма ў 1480 г., далучэнне Твееры (1465), Ноўгарада (1478), Пскова (1510), Смаленска (1514), апошніх Северскіх удзелаў (1523).

Да часу Івана IV Грознага гэты працэс быў скончаны і пачаўся другі—стварэнне шматнацыянальнай дзяржавы.

Звернемся да другога пытання. Што зрабілася з Беларуссю ў той час, калі Русь падпала пад мангольскае панаванне?

«У той час, як Велікарусія папала пад мангольскае ярмо, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званай дзяржавы Літоўскай. Гэта дзяржава пасля дабраахвотна злучылася з Польшчай». (*К. Маркс* і *Ф. Энгельс*, т. XVI, ч. II, стар. 10). І так, Беларусь далучылася да Літоўскай дзяржавы.

Перыяд з XIII па XVI ст. ёсць перыяд складвання беларускай нацыянальнасці. Таварыш Сталін указвае на адзнакі, якія адрозніваюць нацыю як гістарычную катэгорыю, і якія не даюць мяшаць яе з племенем катэгорыяй этнаграфічнай. Адзнакі, якія адрозніваюць нацыю, як гістарычную катэгорыю, наступныя:

1. «Нацыя—не расавая і не племенная, а гістарычна-склаўшаяся агульнасць людзей».
2. «Нацыя—не выпадковы і не эфемерны кангламерат, а ўстойлівая агульнасць людзей».
3. «Агульнасць мовы, як адна з характэрных рысаў нацыі».
4. «Агульнасць тэрыторыі, як адна з характэрных рысаў нацыі».
5. «Агульнасць эканамічнага жыцця, эканамічная звязанасць як адна з характэрных асаблівасцей нацыі».
6. «Агульнасць псіхічнага складу, якая выяўляецца ў агульнасці культуры, як адна з характэрных рысаў нацыі».

У выніку мы маем такое азначэнне: «Нацыя—гэта гістарычна склаўшаяся ўстойлівая агульнасць мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, які праяўляецца ў агульнасці культуры». (*І. Сталін*. «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне» М. 1937 г., стар. 4—6).

У дадатак да ўсяго сказанага, трэба падкрэсліць, што нацыя абавязкова мае агульную мову, але гэта яшчэ не значыць, што розныя нацыі не могуць гаварыць на адной мове, і па-другое, што «нацыя складваецца толькі ў выніку працяглых і рэгулярных зносін, у выніку супольнага жыцця людзей з пакалення ў пакаленне. Узнікае пытанне, ці ўсе гэтыя адзнакі неабходны, каб перад намі была нацыя, як гістарычная катэгорыя. Так, усе. «У сапраўднасці не існуе ніякай адзінай характэрнай адзнакі нацыі. Існуе толькі сума адзнак, з якіх пры параўнанні нацый выдзяляецца больш рэльефна то адна адзнака (нацыянальны характар), то другая (мова), то трэцяя (тэрыторыя, эканамічныя ўмовы). Нацыя прадстаўляе спалучэнне ўсіх адзнак, узятых разам». (*І. Сталін*. Там-жа, стар. 9).

Тав. І. Сталін указвае, што «ні адна з указаных адзнак, узятая у паасобку, недастаткова дзеля азначэння нацыі. Больш таго: дастаткова адсутнічання хаця-б адной з гэтых адзнак, каб нацыя перастала быць нацыяй... Толькі наяўнасць усіх адзнак, узятых разам, дае нам нацыю». У якасці прыклада тав. Сталін указвае на грузін, якія з даўніх часоў жылі на агульнай тэрыторыі, гаварылі на адной мове, але не складалі нацыі да другой паловы XIX ст., т. я. былі эканамічна раз'яднаны. Гэта адносіцца і да другіх нацый.

(*Гл. І. Сталін.* Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне. М. 1937 г., стар. 5, 6, 7).

Ці з'яўляюцца з гэтага пункту гледжання беларусы нацыяй?

Бясспрэчна, бо без усякіх доказаў відавочна гістарычна склаўшаяся ўстойлівая агульнасць беларусаў, агульнасць беларускае мовы, ахапляючай велізарную тэрыторыю, і настолькі развітай, што на працягу доўгага часу зрабілася мовай дзяржаўнай.

Агульнасць тэрыторыі, бо беларусы жывуць тут яшчэ з часоў Кіеўскае дзяржавы і нават раней, эканамічная звязнасць беларусаў таксама не патрабуе доказаў і, урэшце, псіхічны склад беларусаў, які праяўляецца ў агульнасці культуры. Такое становішча зараз, але ў разглядаемы намі перыяд (XIII—XVI ст. ст.) у наяўнасці былі ўсе адзнакі за выключэннем эканамічнай звязнасці, агульнасці эканамічнага жыцця, як адной з характэрных асаблівасцей нацыі. Другімі словамі да беларусаў прыемлема тое ўказанне, якое тав. Сталін зрабіў у адносінах да грузін.

Працэс складвання нацыі ў Усходняй і Заходняй Еўропе розны. «У Расіі ролю аб'яднальніка нацыянальнасцей узялі на сябе велікаросы, меўшыя на чале гістарычна складзеную моцную і арганізаваную дваранскую ваенную бюракратыю». (*І. Сталін.* Там-жа, стар. 10). Так было ў Расіі, а як у Беларусі? У Расіі стварэнне дзяржавы абагнала стварэнне нацыі, а як было ў Беларусі?

Указанне таварыша Сталіна аб Усходняй Еўропе распаўсюджваецца і на беларусаў і на літоўцаў і інш. нацыі. Літоўская дзяржава, уключыўшы ў сябе беларускія землі, склалася пад напорам тых-жа манголаў з усхода; немцаў з захада. Беларусь, якая далучылася да Літоўскае дзяржавы, не толькі не расчынілася ў ёй, але *стала складвацца як нацыянальнае адзінства, беларусы сталі складвацца ў нацыю, якая адрознівалася ад украінцаў і велікаросаў.*

Працэс гэты працяглы, які суправаджаецца барацьбой за сваю нацыянальную незалежнасць і самастойнасць. Спачатку беларусы і па колькасці, і па тэрыторыі, і па культуры стаялі вышэй за літоўцаў і не адчувалі прыгнечання. Нават больш, уладаючы больш высокай культурай, беларусы моцна ўплывалі на літоўцаў, а беларуская мова была мовай дзяржаўнай.

Але калі ў 1386 годзе Ягайла згадзіўся на ўнію Літвы з Польшчай, усё перамянілася. І Літва і Беларусь падпалі ў залежнасць ад Польшчы. «З тых часоў, у выніку больш высокай цывілізацыі Польшчы, дваранства Беларусі і Маларосіі моцна апалячылася, а ў XVI ст., калі ў Польшчы панавалі іезуіты, праваслаўных рускіх падданых Польшчы прымушалі пераходзіць у рымскую царкву». (*К. Маркс і Ф. Энгельс,* т. XVI, ч. II, стар. 11). Такім чынам нацыянальная барацьба павінна была абавязкова разгарнуцца. Асабліва войстрыя формы прыняла яна ў XVI і XVII ст., але наяўнасць яе відавочна і ў больш ранні час, т. я. польскі ўплыў пасля ўніі 1386 г. і ў асаблівасці пасля смерці Вітоўта (1430 г.) усё больш і больш узмацняўся. У беларускіх і літоўскіх абласцях, якія існавалі з грамадскім ладам, што з'яўляўся спадчынай яшчэ ад Кіеўскай Русі, пачынае складвацца польскі феадальны парадак,

беларускія і літоўскія служылыя людзі, жадаючы атрымаць правы і прывілеі адпаведных саслоўяў Польшчы, пачалі хутка апаляччвацца і акаталічвацца, ператвараючыся тым самым у злых ворагаў свайго-ж уласнага народа. Барацьба супроць Польшчы і польскага прыгнечання прымае народна-нацыянальны характар.

Але чаму-ж беларуская нацыя не склалася ў незалежную нацыянальную дзяржаву? Мы можам прывесці шмат фактаў, якія характарызуюць Беларусь, як магутную сілу, напрыклад, бітва пры Грунвальдзе і Таненбергу ў 1410 г., дзе іменна Смаленскі князь нанёс жорсткае паражэнне Тэўтонскаму ордэну і тым выратаваў Літву і Польшчу ад нямецкага панавання.

Тут мы можам зноў спаслацца на тав. Сталіна. Ён піша: «Але абуджаныя да самастойнага жыцця адцяснёныя нацыі ўжо не складваюцца ў незалежныя нацыянальныя дзяржавы: яны сустракаюць на сваім шляху мацнейшае супраціўленне з боку кіруючых пластоў камандуючых нацый, якія даўно ўжо сталі на чале дзяржавы. Спазніліся!» (*І. Сталін.* Там-жа, стар. 11).

Пры такіх умовах лёгка зразумець тую барацьбу і яе характар, якая разгарэлася ў Беларусі і супроць Польшчы і супроць цягацеючай да яе Літвы і супроць польскіх літоўскіх і акаталічыўшыхся і апалячыўшыхся беларускіх паноў.

Так узнікла цяга да Масквы роднай па веры і праваслаўю, роднай па мове, па вытоках культуры. Шмат князёў і баяр, разам з сваімі валасцямі перадаваліся вялікаму князю Маскоўскаму, бачачы ў ім свайго абаронцу. Так да Івана IV перайшлі разам з сваімі землямі, князі Вяземскія, Навасільскія, Адаеўскія, Варатынскія, Белеўскія і іншыя.

Што-ж датычыць Маскоўскай дзяржавы, то яна ніколі не адмаўлялася ад рускіх земляў на Захадзе. Так мы бачым, што Дмітрый Данской хацеў узяць ад Літвы Полацк, Віцебск, Кіеў, бо лічыў іх сваёй вотчынай. Асабліва яркая гэта лінія ў Івана III, які адыграў выключную ролю ў стварэнні нацыянальнай рускай дзяржавы. «Айчызна каралеўская, казаў ён польскім паслам, ёсць зямля польская, а руская наша».

Яго сын Васілій III заявіў вял. кн. літоўскаму, што ўся руская зямля—яго спадчына, і што ён жадае здабыць Кіеў, Смаленск, Полацк і іншыя гарады. «Пакуль конь мой будзе хадзіць і меч рубіць—гаварыў ён,—не дам спакою Літве».

Яшчэ больш рэзка ставіў пытанне Ів. Грозны. Калі яму прапанаваў вечны мір польскі кароль Сігізмунд-Аўгуст, ён адказаў: «За каралём наша вотчына спрадвечная: Кіеў, Валынская зямля, Полацк, Віцебск і многія іншыя гарады рускія, ці-ж прыгожа з каралём мір заключаць?».

Просты народ, які пакутваў больш за ўсіх ад гэтых перамен, і ў асаблівасці ад польскага ладу, ад ганенняў за праваслаўную веру, быў на баку Масквы. Ідэя адзінства рускіх зямель, нават калі даволі відавочна азначыліся нацыянальныя адрозніванні, жыла ў народзе, пераходзячы з пакалення ў пакаленне.

З пункту гледжання народа вельмі важны былі ўсе падзеі, якія адбываліся ў Маскоўскай дзяржаве, як Кулікоўская бітва, як вызваленне ад татар, як знішчэнне раздробленасці і заснаванне нацыянальнай рускай дзяржавы. Важна таму, што гэта былі факты, ад якіх залежаў не толькі лёс рускага народа, але і беларускага і украінскага народаў, вызваленне іх з-пад улады польска-літоўскага панавання.

Цягаценне да Масквы выражалася ў ва ўсім, чаканне дапамогі ад Масквы і абароны ад прыгнечання сталі характэрным настроем у Беларусі. Родная мова, літаратура, праваслаўная вера з'явіліся самымі войстрымі аб'ектамі сутычак і барацьбы. Беларускі народ не згубіў сябе, ён, не гледзячы на здраду верхніх колаў сваёй народнасці, выратаваў сваю мову, сваю літаратуру, сваю культуру, агульнасць тэрытарыяльную і эканамічную, выратаваў сябе як нацыю. Ён і атрымаў магчымасць нацыянальнага развіцця ў далейшым.

З усяго сказанага лёгка зразумець, якая роля літаратуры ў гісторыі беларускага народа. Ён перажываў у гэты перыяд *працэс фарміравання сябе як нацыі*, ён складваўся ў барацьбе з ворагамі знешнімі і ўнутранымі. Ён жыў і тварыў не гледзячы на ўсе цяжкасці свайго жыцця, жыў і развіваў сваю мову і літаратуру, абараняючы сваю праваслаўную веру. У гэтых умовах літаратура і больш шырока пісьменнасць з'яўляюцца важнейшымі рэчышчамі, па якіх ішло грамадскае народнае развіццё, барацьба за сваю самастойнасць і незалежнасць, захаванне сябе як гістарычнага цэлага, як самабытнага беларускага народа.

## Агульны характар беларускай літаратуры XIII—XVI стагоддзяў

Гістарычны лёс Беларусі адбіўся і на яе літаратуры. Узнікнуўшы на аснове літаратурнай і культурнай традыцыі Кіеўскай Русі, беларуская літаратура і ў перакладных і ў арыгінальных помніках была вельмі блізкай да літаратуры рускай, г. зн. Паўночна-ўсходняй Русі. Спачатку многія з помнікаў носяць той-жа характар, маюць той-жа змест, развіваюцца ў тых-жа жанрах, літаратурных формах, тымі-ж прыёмамі. Мы назіраем адзінства зместа і розную форму, галоўным чынам, мовы. Але асаблівыя ўмовы існавання Беларусі, складвання яе ў нацыю, паглыблялі адрозніванне з літаратурай Маскоўскай Русі, бо складвалася мова, асаблівы псіхічны склад, іншыя культурныя патрабаванні, асаблівыя ўмовы развіцця рэлігійных, нацыянальных, літаратурных і культурных запатрабаванняў народа, патрабавалі стварэння іншых літаратурных твораў, якія-б адрозніваліся ад літаратуры Маскоўскай Русі, часта іншымі жанрамі, формамі, іншымі прыёмамі.

Калі велікарускі народ вырас, узмацнеў і стварыў нацыянальную дзяржаву ў гэты гістарычны перыяд у барацьбе з многімі ворагамі, і раней за ўсё з татара-мангольскім ярмом, то беларускі

народ у гэты час складваўся ў нацыю і вёў барацьбу за сваю незалежнасць і самастойнасць, маючы цягу да роднага рускага народа, вядучы барацьбу супроць польска-літоўскіх паноў і шляхты, якія не толькі панавалі, прыгняталі і здзекваліся з яго, але мелі намер зусім знішчыць яго, як нацыянальнасць, хацелі апалячыць і акаталічыць яго. Гэта ўдалося ў адносінах да вышэйшых колаў грамадства, але не ўдалося ў адносінах да народа.

Барацьба разгаралася на доўгія годы і ўпартасць, з якой змагаліся беларусы за сваю мову, сваю культуру, свае абрады і звычаі, за праваслаўе, інакш, за сваю самастойнасць, паказвае высокую культуру, вялікую культурную традыцыю, самабытнасць народа. Усё гэта праявілася на характары беларускай літаратуры і мовы. Гісторыя жыцця народа адбілася ў яго пісьменнасці, літаратуры, мове. Па ім мы можам прасачыць фарміраванне, рост, змены ў змесце і форме, у жанрах і прыёмах як перакладнай, так і арыгінальнай літаратуры.

Старажытнейшым помнікам беларускай літаратуры, які добра паказвае сувязь яе з літаратурай Маскоўскай Русі і які выяўляе адзінства іх асновы—культуру Кіеўскай Русі, з'яўляюцца летапісы. Не маючы магчымасці займацца падрабязным аналізам летапісаў, вылучым з іх перш за ўсё летапісную воінскую аповесць.

## Літаратурныя помнікі тыпу воінскай аповесці

Пры разглядзе воінскага жанра ў першым перыядзе (XI—XIII ст. ст.) мы пачыналі ад нашых летапісных аповесцей. Тое-ж самае неабходна зрабіць і пры разглядзе літаратуры гэтага перыяда (пал. XIII—пал. XVI ст. ст.). У Беларусі таксама як і ў Расіі і на Украіне, вяліся летапісы, ствараліся розныя гістарычныя зборнікі, дзе можна знайсці адлюстраванне барацьбы князёў і народа, г. зн. творы воінскай аповесці. Як у Расіі, так і ў Беларусі летапіс займае віднае месца ў старажытнай літаратуры. Ён ясна ўказвае на адзіную культурную аснову гэтых народаў, бо беларускі летапісец раней за ўсё зварочваўся да агульнарускіх сводаў, карыстаўся імі, як найбольш вернай крыніцай, перапісваў і перапрацоўваў іх, затым прадаўжаў і змяняў іх. Летапісы ўзніклі ў Беларусі і на беларускай мове і звычайна называюцца «літоўскімі» або заходне-рускімі, тады як больш правільна лічыць рускімі або беларускімі. Даследчык іх Ів. Ціхаміраў справядліва заўважае: «Называюцца-ж яны літоўскімі толькі таму, што вяліся ў літоўскім княстве і мелі зместам яго лёс. Так як гэтыя летапісы пісаны на рускай мове і ў Заходняй Русі, то іх правільней было-б называць заходне-рускімі (мы-б сказалі беларускімі—*М. Д.*), чымся літоўскімі. (*Ів. Ціхаміраў* «Аб складзе заходне-рускіх, т. зв. літоўскіх летапісаў. Ж. М. Н. Пр. 1901 г. Сакавік, стар. 2).

Старажытным летапісам (спіскам кароткай рэдакцыі) з'яўляецца «Летапісны зборнік, які называецца летапісам Аўраамкі». Напісан ён у Смаленску ў 7003 (1495 г.), г. зн. у канцы XV ст. У канцы маецца прыпіска наступнага зместу: «В лето 7003 написана бысть сия книга, глаголемый летописец, во граде Смоленце, при державе

великого князя Александра, изволением божием и повелением господина владыки епископа Смоленского Иосифа, рукою многогрешного раба божия Авраамка. Но господы отцы и братья и где буду неисправно поставил или в которой в ыной вещи, и вы, господие мои простите мя, бога ради, понеже убо млад есмь и помысел ми приходит о всем, якоже корабль, вляясь в пучине морьстей, и потепляем бывает також и аз, мысля суетная погыбаю...» (Летапіс Аўраамкі. П. С. Р. Л. т. XVI, СПБ. 1893 г., стар. 320).

Летапісны зборнік, які называецца летапісам Аўраамкі, падзяляецца на тры раздзелы: першы раздзел уключае летапісны свод (як мяркуюць, ноўгарадскага паходжання), які складаецца з хронографа (біблейская гісторыя, рымскія, а затым візантыйскія часы да Канстанціна), з летапіснага свода, які пачынаецца загалоўкам «Начало Рустии земли» (таксама падобны да Ноўгарадскага летапісу).

Другі раздзел заключае летапіс з 6453 (945) па 6496 г. (988) падобны да рэдакцыі «Софийского Временника».

Трэці раздзел пачынаецца пералікам рускіх князёў і аканчваецца вял. кн. Васіліем Васільевічам.

Заканчваецца зборнік літоўскім летапісцам. Не маючы магчымасці спыняцца на летапісу падрабязна, успомню толькі, што вельмі маляўніча дадзена тут барацьба Дзмітрыя Данскога з Мамаем. Вельмі адмоўна, як і трэба было чакаць, ставіцца аўтар да здрады разанскага князя Алега. «Олег же князь, отступник наш, присдинився к зловерьному и поганому Мамаю и к нечестивому Ягайлу нача выход ему давати и силу свою к нему посылати, на князя Дмитрея». (П. С. Р. Л. СПБ. 1893 г. т. XVI, стар. 110).

Вітаючы далучэнне Полацкага князя Андрэя Ольгердовіча і бранскага князя Дзмітрыя Ольгердовіча да Дзмітрыя Данскога (гл. стар. 109), аўтар рэзка адмоўна ставіцца да Ягайлы, называючы яго паганым. «Слышав бо Ягайло Ольгердович и вся сила Литовская, яко князю великому Дмитрию бой был с татары, и князь великый одоле, а Мамай посрамлен побежа, без всякого пождания. Литва с Ягайлом побегоша назад с много скоростію, нікым же гоними; не видиша бо тогда князя великого, ни рати его, ни оружія его, токмо имени его Литва бояхуся и трепетаху, а не яко при нынешних временах Литва над нами игры творять и поругаются» (П. С. Р. Л. т. XIII, стар. 117). Гэтае мейсца надзвычайнае, т. я. яно вельмі добра паказвае нам адносіны летапісца да Масквы і Літвы і да такога гістарычнага факта, як бітва 1386 г.

Акрамя летапіснай аповесці маем і мастацкую беларускую апрацоўку гэтага сюжэта, аб чым ніжэй.

Такім чынам «Летапісны зборнік», іменуемы летапісам Аўраамкі, з'яўляецца старажытнейшым спіскам. Акрамя яго існуе рад спіскаў і зборнікаў. Звычайна разглядаюць наступныя спіскі летапісаў:

1. Віленскі спісак (без канца) ў зборніку Аўраамкі 1495 г.
2. Увараўскі спісак XV ст.
3. Нікіфараўскі спісак XV ст.
4. Супральскі спісак 1519 г.
5. Акадэмічны спісак XVI ст.

6. Спісак гр. Красінскіх у Варшаве XVI ст.
7. Спісак гр. Рачынскіх у Пазнані каля 1580 г.
8. Патрыяршы спісак пачатку XVII ст.
9. Румянцаўскі спісак канца XVII ст.
10. Еўрэінаўскі спісак 1690 г. і інш.

(гл. Поўны збор. Рус. Лет. т. XVII. СПБ. 1907 г.).

Мы не маем магчымасці займацца разглядам пытанняў, звязаных з летапісаннем і абмяжуемся таму толькі агульнымі заўвагамі (гл. тэксты: Поўны збор. рускіх летапісаў: т. XVII СПБ, 1907. Даследванні: Ів. Ціхаміраў «Аб складзе заходнярускіх, так званых літоўскіх летапісаў». Ж. М. Н. П. 1901 г. сакавік, стар. 1—36 і май, стар. 70—117; Е. Карскі: «Аб мове т. з. літоўскіх летапісаў». Варш. Унів. Изв. 1894 г.; Е. Карскі «Беларусы», т. III, вып. 2, Петр. 1921 г., стар. 94—107).

Першыя восем з названых спіскаў уяўляюць кароткі свод летапісаў, астатнія—поўны. Складанне кароткага свода трэба аднесці да другой чверткі XV ст., складанне поўнага—да другой паловы XVI ст. Хто быў аўтарам кароткага, а затым і поўнага сводаў сказаць немагчыма, хоць пазіцыя аўтара можа быць вызначана па яго адносінах да князёў і нават паказваемых падзей.

У летапісных сводах акрамя пагодных запісаў, дарэчы сказаць, нямногалікіх, уключаны асобныя артыкулы, з вялікімі падрабязнасцямі і тонкім веданнем апісваемых падзей. Вось гэтыя артыкулы: 1. Пра барацьбу Кестутыя і Ягайлы, 2. Аб княжанні Вітаўта, 3. Пра бітву на Ворксме, 4. Аб падольскай зямлі, 5. Пахвала Вітаўту і інш. Побач з сапраўднымі гістарычнымі запісамі ў своды ўключаны розныя апавяданні, якія маюць характар баек, або казак. Дзеля прыклада можна прывесці казачнае апавяданне аб заснаванні Вільні. (Рачын. 307—314 ст.), апавяданне-байку аб пачатку Літвы (Крас. 227—230). Дзеля характарыстыкі манеры летапісных апавяданняў можна прывесці малюнак бегства Вітаўта з палону. (Віл. 197) або малюнак смерці Скіргайла (Увар. 95).

Якая-ж цэнтральная мысль летапісца?

Даследчыкі Ціхаміраў і Карскі прышлі да аднае думкі па гэтаму пытанню, якая сфармулявана так: «Калі цяпер унікнуць у змест апавяданняў разгледжаных летапісных сводаў і прыняць пад увагу характар іх і тое пачуцце, якое пранікае праз усе паведамленні, то лёгка бачыць, якую мэту праследваў складальнік свода: ён усюды імкнецца праславіць сваіх клапатлівых князёў, пашырыўшых граніцы дзяржавы, узвялічыць свой народ (літоўскі і рускі) у працівагу сваім праціўнікам, няхай сабе яны палякі ці рускія Маскоўскае дзяржавы. Увесь уступ у летапіс аб Паламоне і аб першых князях, патомках рымлян,—бясспрэчна, складзены з тою мэтай, каб паказаць, што літоўская шляхта больш знатнага паходжання, чым польская». (*Е. Карскі*. Беларусы, т. III вып. 2, стар 103).

А. І. Ціхаміраў дае больш рэзкую фармуліроўку, указваючы, што аўтар стаіць на варце інтарэсаў літоўскіх князёў і з'яўляецца іх абаронцай. Барацьба Літвы з Польшчай адстойванне першай сваей незалежнасці і культуры натуральна адлюстроўвалася ў лета-

пісах, гэта натуральна і зразумела. Можна дапусціць наяўнасць і адваротнай тэндэнцыі, г. з. адмоўныя адносіны да Маскоўскай Русі, тады гэта будзе не асноўнай рысай, не асноўнай ідэяй і, вядома, не народнай. Але факт застаецца фактам і ў некаторых спісках адмоўныя адносіны да Масквы з прыватных момантаў пераступаюцца ў агульныя. Можна дапусціць тут наяўнасць абласнога пункту гледжання, але гэта не развязвае пытання. Значна правільней будзе ўстанавіць наяўнасць розных пунктаў гледжання і на гэтай аснове можна падзяліць летапісы на беларускія і літоўскія. Так Ціхамірaў не робіць гэтага адрознівання, сцвярджаючы: «Летапісы літоўскія і рускія Бельскі не адрознівае; на яго думку— і зусім правільную—гэта ўсероўна». (Ж. М. Н. П. 1901, сакавік, стар. 81). Іменна не адно і тое-ж. Калі «літоўскія летапісы ёсць панегірык сваім князям; праславіць іх, узвысіць свой народ, прыніжыць праціўніка», дык рускі летапіс мае іншую тэндэнцыю. Літва вяла барацьбу супроць Польшчы, гэта ясна адлюстравана ў летапісу, а Беларусь змагалася і супроць Польшчы і супроць Літвы, якая да яе цягнулася.

Лепшым доказам гэтага погляду служыць наяўнасць летапісу Аўраамкі, дзе відавочныя сімпатыі на баку Маскоўскай Русі, дзе з жалем успамінаюцца часы Дмітрыя Данскога, калі «Літва с Ягайлом побегоша назад с много скоростию, никым же гоними; не видиша бо тогда князя великого, ни рати его, ни оружія его, токмо имени его Литва бояхуся и трепетаху, а не яко при нынешних временах Литва над нами игры творять и поругаются». А гэта-ж пісана ў 1495 г., г. з. калі ў Літве каралём быў Александр Казіміравіч, абраны потым у 1501 г. і на польскі прастол [1].

Адмоўныя адносіны да Літвы не патрабуюць растлумачэння. Але вось у склад кароткага свода ўваходзіць артыкул аб кн. Вітаўце, яўна панегірычны і рад артыкулаў, праслаўляючых іншых літоўскіх князёў. «Што апавяданні, аб'яднаныя ў кароткім сводзе, былі рознага паходжання і належалі часта асобам, якія трымаліся розных поглядаў і сымпатый, на гэта ўказваюць, напр. артыкулы аб Вітаўце, якія аканчваліся пахвалай яму, што датычыла яго паходаў на Смаленск: па адных, ён, нападае на горад у выніку непаслухмянасці яго князя, а па другіх—у выніку свайго ўладалюбства і каварства.» (*Карскі*. Беларусы. т. III, вып. 2, стар. 99). Калі гэта так, то ні ў якой меры немагчыма гаварыць аб асноўнай ідэі кароткага свода і ўжо зусім неправільна будзе лічыць летапісы літоўскімі, дзяржаўнымі, як гэта сцвярджае Ів. Ціхамірaў. (Ж. М. Н. П. 1901 г. Май, стар. 77).

Наш вывад такі: як летапіс Аўраамкі, так і некаторыя іншыя былі рускага ці беларускага паходжання, побач з імі былі летапісы літоўскія. Першыя з іх падтрымлівалі ідэю адзінства рускіх земляў і выражалі свае сімпатыі Маскоўскай Русі, яны прама прымыкаюць да рускіх летапісцаў. Асабліва ярка выражана гэта на ранніх ступенях паасобнага існавання Паўночна-усходняй і Заходняй Русі.

---

[1]) Гедымін (1317—1341), Ольгерд Кейстут (1341—1377—1382), Ягайла, Вітаўт (1377—1392—1430), Казімір (1440—1492).

Другія летапісы (ці асобныя артыкулы) абараняюць ідэю Літоўскае дзяржавы, проціпастаўляючы яе і Польшчы і Маскве.

Яны не забываюць аб рускім (беларускім) народзе, бо і напісаны на гэтай мове, але цэнтральная ідэя іх усё-ж іншая, чым у чыста-беларускіх летапісах. Праўда, чыста-беларускія летапісы маюць свае асаблівасці ў форме, змесце, у настроі складальнікаў у параўнанні з летапісамі паўночна-усходняй Русі, але блізкія да іх па ідэі. І наадварот, у форме і ў знешнім выглядзе яны могуць быць блізкія да літоўскіх летапісаў, але ў ідэі яны далёкія ад іх. Перад намі вялікая задача па перагляду і вывучэнню беларускіх летапісаў з вышэй паказанага пункту гледжання.

Складанне больш поўнага свода, як указана вышэй, падае на другую палову XVI ст., значыць, разгляд яго выходзіць за хранасагічныя рамкі сучаснага перыяда і павінен быць разгледжаны ў перыяд з XVI па XVIII ст. Там-жа належыць разглядзець кампілятыўныя працы, якія ўзніклі ў XVII ст.

Беларускі летапіс з'яўляецца такім-жа многажанравым творам, як і разгледжаны намі рускі летапіс перыяда Кіеўскай дзяржавы, на аснове якой ён і ўзнік. У гэтым сэнсе летапісы беларускія з'яўляюцца працягам старой традыцыі і іх можна характарызаваць так: «летапіс-зборнік узораў не аднаго жанра, хаця пераважны жанр летапісу—гістарычная белетрыстыка.» *(А. С. Арлоў)*.

Мы можам назваць нямала апавяданняў з летапісу, якія з'яўляюцца творамі тыпа летапіснай воінскай аповесці, напр. аб барацьбе Смаленска з Літвой, аб спрэчках Вітаўта з Масквой, аб бойцы Казіміра з Масквой, аб паўстанні ў Смаленску і інш.

З твораў воінскай аповесці, якая бясспрэчна адносіцца да гэтага часу, хаця і памечана XVII ст., трэба аднесці заходнярускую ці беларускую апрацоўку «Аповесці аб Мамаевым пабоішчы».

«Кнга о побоищи Мамая цря татарского, от кнзя владимерского и московского Димитрия». Яна падзелена на паасобныя раздзелы, якія даюць вельмі яснае ўяўленне аб развіцці сюжэта аповесці.

«*Глава* 1. Повесть о црех татарскіх, як довго над Русью пановали и о пришествии Мамаевом в русскую землю на великого кнзя Димитрия.

*Глава* 2. О змове злой кнзя резанского Олга зь кнземь литовскимь Ольгердомь на кнзя московского Дмитрия и поселствах ихь до цря татарского Мамая.

*Глава* 3. Кнзь Дмитрий Ивановичь московский молится и раду чинить на Мамая з митрополитом и зь своими кнзи, о змове тожь кнзей Олга и Олгерда и Мамаевомь замысле доведавшися, збираеть своих кнзей, гетмановь и войска.

*Глава* 4. Кнзь Дмитрий принимать благословение от свтго Сергия в монастыре живоначальныя тройцы и пророчество о звитязстве над татарами.

*Глава* 5. О. выправе и выходе з Москвы князя Дмитрия на войну противь цря татарского Мамая.

*Глава* 6. О посланью сторожков от кнзя Димитрия, о фрасунку Олга резанского и Олгерда литовского для похода на войну кнзя

Димитрия и о пристью Ольгердовичов кнзей на помочь кнзю Димитрию.

*Глава 7.* О взятю языка Мамаевого от сторжей кнзя Дмитрия о раде его зъ князями и ошукованю зъ обоимь сторонь войскь и о укрепленнiї войскь от кнзя Дмитрия и о молитве его.

*Глава 8.* О приметах слынных и о виденiї явленном, з которых звитязство кнзю Димитрию пророковано над Мамаем и млтве великого кнзя.

*Глава 9.* О поставлении от кнзя Дмитрия Михайла вместо себе, о листе от свтго Сергия, о охоте князевой на войну и о выеханю на герць з татарином Пересвета чернца.

*Глава 10.* О войне князя Димитрия и войскь русскихь з войсками мамаевыми, о раненю князя Дмитрия и о побитью войск рускихь от татарь и звитязстве потомь славномь през помочь брата князя Димитрия войск русскихь над татарами.

*Глава 11.* О знайденю раненаго князя Димитрия и о радости великой з звитязства над татарами.

*Глава 12.* О поездке князя Димитрия межи трупами, о забитыхь и о похованю ихь, о славномь выезде в Москву и о погибели Мамаевой и Олговой и о соромоте Олегерда князя литовского».

Даследчык «Аповесцей аб Мамаевым пабоішчы» С. К. Шамбінаго піша: «Заходне-руская аповесць уяўляе гарманічны, сціслы і ясны пераказ Сказання, якое ўзыходзіць да тыпа т. з. рэдакцыі... Тут загалоўкі развіты зусім самастойна: рэдактар не толькі зусім свядома аднёсся да свайго арыгінала, але для ўводзін скарыстаў нават матэрыял, якога няма ў Сказанні». (*С. К. Шамбінаго* «Аповесці аб Мамаевым пабоішчы». СПБ. 1906, ст. 365 и 367).

Так цікавым самастойным расказам з'яўляецца першы раздзел, у якім апавядаецца гісторыя татараў, міжсобныя войны ў Ордзе, да Мамая. Указваецца, што з часоў Батыя і яго заваявання «от того часу през леть полтораста князи русские татаром голдовали, и цари татарскии, один по другом наступуючи, своих баскаковь, албо атаманов, то есть старость над Русью постановляли». Але вось «Димитрий Ивановичь Семечин, великий князь владимерский и московский, своимь мужеством и храброством татаров до конца побивши, доскона̀ле зкинули з шии свое ярмо татарское и в першую пришли вольность русского панованья». (*С. Шамбінаго.* «Аповесці аб Мамаевым пабоішчы», СПБ. 1906, стар. 168—169. Тэксты сказання).

Беларуская аповесць аб Мамаевым пабоішчы адрозніваецца сцісласцю і гарманічнасцю, што дасягнута скарачэннем асобных мейсц больш поўнага тэксту, які быў у руках у рэдактара-перапісчыка. Скарачэнні зроблены вельмі ўдала, т. я. захоўваюць асноўны сэнс больш поўнае аповесці. Вось прыклад скарачэння малітвы Дмітрыя Данскога: «Потом сталь (Дмитрий) перед образом пресвятыой Богородицы, написаным от святого Луки, и молился, просячи, абы пресвята Богородица, яко заступница християномь непостыдная, умолила сына своего и бога, жебы не даль осквернити храмовь своих святыхь и не погубил християн, але дал звитязство християномь над погаными». (Там-жа. Тэксты сказання, стар. 175)

«Наогул, заключае С. Шамбінаго, аповесць уяўляе надзвычай яснае, з шпаркім развіццём падзей гістарычнае апавяданне». (Там-жа, стар. 368).

Вядома, якое велізарнае гістарычнае значэнне мела бітва рускіх з татарамі на Кулікоўскім полі ў 1380 г. Гэта сапраўды паварот у нашай гісторыі, што вельмі добра адзначае Беларуская аповесць словамі: Дзмітрый Іванавіч сваёй мужнасцю і храбрасцю «татаров до конца побивши, досканале зкинули з шии своей ярмо татарское». Гэтага гістарычнага пункту гледжання няма ні ў адной (рускай вялікарускай) рэдакцыі, а ён надзвычай выдатны, бо паказвае глыбокае разуменне гістарычнай падзеі.

У поўнай адпаведнасці з гісторыяй, з велізарным значэннем Кулікоўскай бітвы, стаяць у літаратуры аповесці аб Мамаевым пабоішчы. У гісторыі рускай літаратуры іх значэнне даўно ўстаноўлена, і ні адзін гісторык літаратуры не можа прайсці міма іх. Але мне думаецца, што Кулікоўская бітва мела значэнне не толькі для рускіх, але і для Беларусі і для Украіны. Яна—пачатак аб'яднання і не толькі Маскоўскай Русі. Калі гэта так, то і беларуская рэдакцыя аповесці знаменуе важнейшы факт у свядомасці Беларусі, цягацеўшай да Масквы.

С. К. Шамбінаго заўважае, што «па часу яна павінна адносіцца, па ўсіх прызнаках, да пачатку XVII ст., да гэтага часу адносяцца і яе спіскі.» (Там-жа, стар. 368). Думаецца, аднак, што аповесць можна аднесці да больш ранняга часу.

Прыведзеная вышэй заметка поўна рэальнага гістарычнага зместа, а не з'яўляецца простай гістарычнай даведкай, канстатуючай даўно мінуўшы факт. Яна мела-б сэнс да 1480 г., г. зн. да таго часу, калі Русь канчаткова вызвалілася ад татараў пры Іване III і ўжо ва ўсякім выпадку каля гэтага часу, калі асабліва ясна выступіла гістарычнае значэнне гэтай бітвы і перамогі рускіх.

Аўтар з відавочнай сімпатыяй паказвае перамогу рускіх, адзначаючы, што «в той же часъ сыны Олгердовы: Андрий, князь Полоцкий и Димитрий, князь Бранский, будучи окрещены в православную веру през свою мачеху, княгиню Анну, за што отець ихъ Ольгердь, погании, ненавидил, але Бог любиль, послышали; ижь великий фрасунок великому князю московскому и всему православному християнству от безбожного Мамая належить, и они фрасовалися... Оттоль з войскомь стройным зараз на Дон пришли. З которого ихь приходу великий князь Дмитрий московский и зь братом своимь, барзо радуючися, похвалил господа бога и, принявши ихь вдячне и чесно великими удароваль дарами...» (Там жа, Тэксты сказання, стар. 178—179).

Аповесць гаворыць аб Ольгердзе, што з'яўляецца, мабыць, пазнейшай заменай яго сына Ягайлы, т. я. Ольгерд памёр у 1377 г., але Ольгердовічы, полацкі князь Андрэй і бранскі князь Дмітрый сапраўды прымалі ўдзел у барацьбе з татарамі на баку Дзмітрыя Данскога. Гэта вельмі цікавы і надзвычай паказальны факт, бо ў разгроме татараў былі зацікаўлены ўсе землі рускія, як увaходзіўшыя ў склад Маскоўскага княства, так і іншых княстваў. Думаецца, што разглядаемая аповесць больш ранейшага пахо-

джання, чымся XVII ст., у ёй б'юцца жывыя актыўныя адносіны да лёсу Русі, да лёсу ўсіх рускіх земляў у іх барацьбе з татарскім ярмом, якое па словах Маркса «не толькі прыгнятала, але зняважала і сушыла самую душу народа, стаўшага яго афярай...»

Сказ аб Мамаевым пабоішчы на беларускай мове з'яўляецца, таксама як і на рускай, прыгожым помнікам твораў тыпа воінскай аповесці, узорам воінскай аповесці.

## Царкоўна-рэлігійная літаратура

Ад твораў воінскай аповесці звернемся да помнікаў царкоўна-рэлігійнай літаратуры XIII—XVI ст. ст. Многія з помнікаў гэтай літаратуры маюць хутчэй агульна-культурнае, а не літаратурнае значэнне. Да такіх, напрыклад, трэба аднесці: «Псалтырь следованная 1296 года, писанная Захарией «на Валоце», Евангелие 1317 г., Евангелие 1329 г., Псалтырь XIV в., Метижское Евангелие XIV в., Минея месячная, месяцы март и апрель 1487 г. западно-русская Четья 1489 г., Поучения Ефрема Сирина 1492 г., Пролог, месяцы март-август, 1496 г., Толковая псалтырь XV—XVI в. в., Пятикнижие Моисеево 1514. Евангелие 1520 г., Евангелие 1539 г., Минея служебная, месяцы март и апрель 1539 г., Псалтырь 1543 г. и мн. др. (См. Е. Ф. Карский. Белоруссы. Вильно, 1904 г., стр. 370—381)». Некаторыя з іх уключаюць матэрыял, які задавальняў пачуцці не толькі рэлігійныя, але і паэтычныя (напр., Четья 1489 г., а таму павінны быць уключаны ў гістарычна-літаратурны агляд.

Падзел помнікаў царкоўна-рэлігійнай літаратуры той-жа, што і на папярэднім этапе, г. зн. «жития, апокрифы, поучения, послания, хождения, нарэшце, усякія зборнікі.

*Агіяграфічная літаратура* ў Беларусі, відавочна карысталася такой-жа папулярнасцю, як і ў Кіеўскай Русі, пазней у Маскоўскай і на Украіне. Старажытнейшым помнікам агіяграфічнай літаратуры з'яўляецца «Житие св. Алексея, человека божия». Цікава ўказаць на адзін помнік жыційнай літаратуры, які ўзнікнуў яшчэ ў XII ст. у Полацкай вобласці. Я маю на ўвазе жыціе Ефрасіні Полацкай. Яна была ўнучкай Усеслава Браніславіча, дачкою яго малодшага сына Георгія. Адмовіўшы шматлікім жаніхам, Ефрасіня (у свеце— Прэдзіслава) пастрыглася ў манастыр і стала весці вельмі строгі вобраз жыцця. Яна перапісвала кнігі, прадавала іх, а грошы раздавала жабракам. Яна пабудавала царкву, заснавала манастыр і была ў ім ігуменьяй больш сарака год. Памерла Ефрасіня каля 1169 г. у Іерусаліме, куды паехала да гробу госпада. У «Житии» Ефрасіні ёсць павучанне: «Сотворитися же чистая пшеница Христова, измелитися в жерновах смирения постническими труды, чистотою же, любовию и молитвами будете яко хлеб сладок богу». («Житие преподобные матере нашея Ефросинии девицы, игумении обители святого Спаса в Полоцке». «Четьи-минеи 23 мая». Гл. таксама *К. С. Сербіновіч* «Исторические сведения о жизни преподобной Ефросинии кн. Полоцкой, с описанием и изображением креста, принесенного ею в дар Полоцкой спасской обители.» СПБ, 1841 г.)

Жыціе Ефрасіні Полацкай, якое адносіцца яшчэ да перыяда Кіеўскай дзяржавы, дае нам права гаварыць аб тым, што гэты жанр быў добра вядомы ў Беларусі з самых старажытных часоў. Няма падстаў для сумненняў у тым, што ў XIII—XVI ст. ст. у Беларусі існавала багатая агіаграфічная літаратура, як перакладнога, так і арыгінальнага характару. Адзінства веры з Расіяй, і Украінай абумоўлівала тое, што былі адны святыя падвіжнікі праваслаўнай веры, якія шанаваліся аднолькава, ва ўсіх рускіх землях, хоць-бы і разлучаных палітычна.

Названае мною «Житие Св. Алексея, человека Божия» на беларускай мове ёсць таксама і на рускай і на іншых мовах (гл. *П. Владзіміраў.* «Житие св. Алексея человека божия в западнорусском переводе, конца XVII в. Ж. М. Н. Пр. 1887, Октябр. стр. 250—252). Змест жыцця наступны: Аляксей быў сын багатых бацькоў. Бацькі ажанілі яго супроць волі, але Аляксей не стаў жыць з маладой жонкай, пасля адбыцця царкоўных абрадаў пайшоў з дому. Праз шмат год прышоў ён у дом сваіх бацькоў жабраком, але не быў пазнаны імі. Ён пасяліўся ў доме бацькі, праводзячы час у пасце і малітве. Калі ён памёр, то ўсе навакольныя даведаліся, што ён быў святы, а бацькі з жалем даведаліся, што гэты жабрак быў іх сын. Перад смерцю Аляксей папрасіў паперы з чарнілам і напісаў гісторыю свайго жыцця. «Аз узнавши духам святым иже конець живота его приближил листа исчернилом просил ананем весь ряд живота своего пописал».

З неба быў чутны голас людзям, каб яны шукалі святога чалавека і калі Аляксей быў знойдзен, то з яго аўтабіяграфіі даведаліся пра ўсю ісціну. Цікавыя адносіны бацькі, маткі і жонкі да гэтага нечаканага для іх факта. Плач бацькі: «ипред отцем его евфимяноус то суслышавши велми боязнию ее замоутил изляклчся исстался безрозоума икак бы бездоуше наземлю пал даколижь маленко полежал аксобеся привороти роухо свое содрал издрал ипочал седые волосы изголовы свое рвати изабородоусь тягноути исам себе драти почал анатело сына своего падши кликал беда мне... беда мне бедному. Иже вижоу тебе сторожа старости мое‘е на марах лежачого неговорячаго сомною, беда мне какое потешенье потом боудоу могл имети».

Плач маткі: «Да матки теж тое суслышавши какбы лвица деручи себе также здрапавши на себе роубие альбо хоусты волосы распустивши оу небо очи подносила аколи перед великим людом святого тела доити не могле и она закликала рекоучи даитеми приступити абых сувидела сына моего абых сувидела потешение душе мое‘е который ссал гроуди мое аколи пришле дотела наложи на него кликала рекоучи беда мне сноу мои свечо очью мои чомоу е’си так оучинихл ата оукрутне снами с‘си починал ведел е’си отца твоего имене бедноуюо плачоуче. (*П. Владзіміраў.* Там-жа, стар. 259—260. Гл. таксама у *В. Н. Перэтца.* «Повесть о трех королях-волхвах». СПБ, 1903, стар. 110).

Гэтак-жа горка плача жонка Аляксея. Гэтыя плачы надаюць нашаму жыцію асаблівае лірычнае адценне, што магло выклікаць у чытачоў глыбокую эстэтычную і рэлігійную эмоцыю. Гэтым яно

было цікава, бо здавальняла пачуццё маральнае и пачуццё эстэтычнае, мастацкае. Жыціе «Алексея человека божия» у беларускім перакладзе датыруецца XVI стагоддзем.

З іншых цікавых помнікаў жыццийнай літаратуры неабходна назваць: «Мучніе святых новоявленых мчнкь родом Литвы Иоанна, Антоніа і Еустафіа». Пакутнікі гэтыя былі беларусамі, а дзе ўзнікла жыціе—вырашыць цяжка, можа ў Беларусі ў XIV—XV ст. ст. (Віленскі пралог 1512 г.), а можа ў Грэцыі. М. Н. Сперанскі, які даследваў славянскія спіскі сказу аб Віленскіх пакутніках, прышоў да наступных вывадаў:

1. Жыціе іх, як відаць, з'явілася ўпершыню на грэцкай мове ў сувязі быць можа з перанясеннем часткі іх астанкаў і кананізацыяй іх Філафеем у 1374 годзе.

2. Тады-ж яно было ўнесена ў апісаны грэцкі Сінаксар, тых, які ў гэты час панаваў у грэцкай царкве.

3. Адсюль яно перайшло ў некаторыя спіскі паўднёва-славянскага вершаванага Сінаксара, мяркуючы па няпоўных спісках, не пазней XV ст.

4. З паўднёва-славянскіх тэкстаў яно перайшло на Русь, спачатку ў нязменным сваім выглядзе, напэўна, праз Балгарыю, як паказвае Віленскі спісак № 147.

5. Ад таго-ж паўднёва-славянскага ідзе і тэкст Макар'еўскі, але не непасрэдна, а хутчэй праз спіскі накшталт Віленскага і затым накшталт УНД і г. д. (Гл. М. Н. Сперанскі «Сербское житие литовских мучеников». М. 1909, стар. 22—23).

Калі так, то ўзнікае пытанне: навошта грэкам спатрэбілася кананізіраваць беларускіх пакутнікаў? М. Н. Сперанскі адказвае, што тут адыгрывалі ролю не столькі рэлігійныя, колькі царкоўна-палітычныя адносіны XIV ст.

Грэкі не хацелі выпусціць Літву, якая вяла барацьбу за самастойную мітраполію. «Акт праслаўлення літоўскіх пакутнікаў у Візантыі і меў на мэце як-небудзь падтрымаць сувязь з Літвой, гатовай аддзяліцца. Спроба не ўдалася: прыняцце ў лік святых Вялікай царквы літоўскіх пакутнікаў не задаволіла Альгерда, які настойліва дамагаўся свайго мітрапаліта і праз год дамогся... Г. зн. умовы кананізацыі і складання жыція віленскіх пакутнікаў былі выключныя... (М. Н. Сперанскі. Там-жа, стар. 24).

Жыційная літаратура была вельмі значнай у гэтым перыядзе. Гэта і зразумела, бо жыція былі любімай чытанкай не толькі ў Кіеўскай і Маскоўскай Русі, але і ў Беларусі. «Некалькі ў іншым становішчы аказваюцца перакладныя творы апавядальнага характару: жыція святых, розныя апокрыфы, аповесці і т. п. Гэтыя творы вельмі займальныя і ўздзейнічаюць не толькі на сэрца, розум, але і на фантазію; часта развіваючы міжнародныя і наогул брадзячыя сюжэты, яны аказваюцца сваякамі існуючаму ў даны момант народнаму светапогляду, і натуральна набліжаюцца да арыгінальных твораў у гэтым родзе.

Жыція святых былі любімейшай чытанкай старажытнарускіх людзей. Гэта прыхільнасць да іх ад старыны ўтрымалася і ў заходне-рускіх чытачоў XVI—XVII ст. ст. Ад гэтага часу да нас

дайшло некалькі асобных жыцій і нямала розных зборнікаў, як выпадковых, так і ў выглядзе пралогаў, патэтыкаў, чэцій-міней і т. п. збораў.

У першы час гэтыя зборнікі звычайна на царкоўна-славянскай мове, у выглядзе спіскаў з іншых рускіх арыгіналаў, толькі з беларускімі асаблівасцямі ў арфаграфіі і вельмі рэдка ў слоўніку. Такія, напр., Пралог 1512, зборнік жыцій XVI ст., Мінеі-чэцьі XVI ст. і т. п. Некаторыя з такіх зборнікаў маюць артыкулы, моцна перароблены на заходне-рускі лад у адносінах мовы. Сказанае асабліва прымяніма да чэцьі 1489 г., у якой апісаны, напр., жыція Барыса і Глеба, апакрыфічнае жыціе Георгія і некаторых іншых. Нямала жыційнага матэрыялу, перакладзенага ці лепш сказаць перарбленага з розных пацерыковых сказаў, ёсць у Віленскім зборніку XVII ст. № 107, які патрабуе дэтальнага даследвання». (*Е. Ф. Карскі*. «Беларусы», т. III, вып. II, Петр. 1921, стар. 44).

Тут перад даследчыкам вялікая задача і калі будуць абследваны гэтыя помнікі, мы ўбачым, што агіграфія ў Беларусі была такая-ж шырокая, як і ў Маскве і на Украіне і перад намі з'явяцца помнікі і перакладныя і арыгінальныя.

## Апакрыфічная літаратура

У тым-жа Заходнерускім зборніку V стагоддзя, дзе мы бачылі «Житие Алексея, человека божия»—знаходзім і творы бясспрэчна апакрыфічнага характару. Гэта «Страсти Христовы», апавяданне аб пакутах Ісуса Хрыста, смерці і ўваскрашэнні яго, з далучэннем звестак аб Пілаце і Іосіфе Арымафейскім, затым «Повесть о трех королях или о поклонении волхвов».

Змест першай апакрыфічнай аповесці наступны: яўрэйскія першасвяшчэнікі і кніжнікі раяцца аб тым, як бы ўмяртвіць Ісуса Хрыста. Да іх прыходзіць Іуда, які гатоў здрадзіць настаўніку, калі яму дадуць добрую плату. Яму даюць 30 срэбранікаў. Тут невялічкае адступленне аб паходжанні срэбранікаў. Гэта грошы, за якія браты прадалі Іосіфа і якія, дайшоўшы да Саламона, былі пакладзены ім у храм і хаваліся да здрадніцтва Іуды.

Дамовіўшыся з першасвяшчэнікамі, Іуда ідзе ў Віфанію і тут багародзіца нічога не падазраючы даручае яму свайго сына. Аўтар апісвае нізкасць і здраду Іуды, смутак і тугу маткі Ісуса ў сваіх лірычных адступленнях. Ісус ведае ўсё, што будзе, ён рыхтуецца сам і ўсіх навакольных рыхтуе да прадстаячых падзей. Багародзіца і Марыя Магдаліна просіць Ісуса не хадзіць у Ерусалім, і т. як ён непахісны, то першая просіць, каб ёй памерці раней і не бачыць пакут сына. Але Хрыстос і ў гэтым адмаўляе ёй, кажучы, што ён павінен памерці, выратаваць людзей, а па яе ён прыдзе сам. Тое-ж самае чуе багародзіца і ад архангела Гаўрыіла. Матка зноў просіць сына, але ён застаецца цвёрдым і пакінуўшы ледзь жывую, паўшую да яго ног маці, ідзе ў Ерусалім.

Далей ідзе тайная вячэра, суд у Пілата, самагубства Іуды, бічаванне Хрыста, шэсце на Галгофу, смерць на крыжу. Гэта, уласна кажучы, і ёсць страсці Хрыстовы.

Атрымаўшы дазвол у Пілата, Іосіф Арымафейскі разам з Нікадзімам знімаюць цела Ісуса з крыжа і хаваюць яго. Багародзіцу, якая плача, яны адводзяць у Іерусалім.

Далей расказваецца аб Пілаце, потым аб сашэсці Хрыста ў пекла і аб уваскрашэнні яго, сведчанне ўваскрашэння сыноў Сімеона багапрыімцы аб дзеяннях Хрыста ў пекле. Затым—апавяданне аб дазнанні, якое робяць першасвяшчэнікі і кніжнікі з прычыны ўваскрашэння Хрыста. Канчаецца аповесць апавяданнем аб лёсе Іосіфа Арымафейскага.

Аповесць, як відаць з зместу, ахапляе асноўныя моманты з жыцця Ісуса Хрыста, як яны былі выкладзены ў кананічных кнігах і апакрыфічных сказах. Легендарна-рэлігійны характар гэтага твору не падлягае сумненню. Яго лёгка падзяліць на наступныя часткі:,

1. Рада першасвяшчэнікаў і продаж настаўніка Іудай.
2. Падрыхтаванне Ісуса да смерці і падрыхтоўка да таго-ж маткі і вучняў.
3. Пакуты багародзіцы і просьбы яе да Ісуса, каб ён не хадзіў у Іерусалім.
4. Страсці Хрыстовы (суд, бічаванне, смерць, пахаванне).
5. Ісус у пекле, уваскрашэнне, дазнанне першасвяшчэнікаў аб уваскрашэнні.
6. Лёс Іосіфа Арымафейскага.

Аповесць магла быць цікавай у многіх адносінах, яна адпавядала не толькі рэлігійнаму, але і паэтычнаму пачуццю. Легенда, выдумка рабілі яе блізкай і цікавай шырокім колам.

Аповесць гэта была пашырана ў Беларусі і Украіне, але асновай для яе паслужыла нейкая крыніца альбо лацінская, альбо польская. Перакладзена яна ў XV, або ў пачатку XVI ст.

Такі-ж легендарна-рэлігійны характар носіць і «Аповесць аб трох каралях-валхвах». Зместам яе з'яўляецца вядомае евангельскае апавяданне аб пакланенні трох валхвоў, але яно ўскладнена легендарнымі звесткамі з самых розных галін. Апокрыфаў тут нават больш, чымся ў першай аповесці. Змест яе можна перадаць так: усходнія звёздазоры, ведаючы аб прадраканні пра зорку ад Іакава, назіраюць за зоркамі, якія з'яўляюцца,—каб ведаць, калі з'явіцца зорка, што прадвяшчае нараджэнне цара іудзейскага. Нарэшце яны ўбачылі зорку. У Іудзеі ў гэты час ішоў перапіс і Іосіф з Марыяй пайшлі ў Віфліем. Яны спыніліся ў хлеве для жывёлы і тут нарадзіўся Хрыстос. Анёлы абвясцілі аб гэтым пастухам, а тыя першымі пайшлі пакланіцца Хрысту. Зорка з крыжам, якая з'явілася на небе, свяцілася, як сонца і была знакам нараджэння Хрыста.

Тры ўсходніх цары Мельхіор з Нубіі, Валтазар з Кадоліі і Яспер з Тарсіса адправіліся ў падарожжа, каб пакланіцца Хрысту. Яны ішлі ўслед за зоркаю днём і ноччу, не п'ючы і не еўшы і праз 13 дзён дасягнулі Іерусаліма. Хаця яны ішлі з розных месц, але сышліся ўсе каля Галгофы. У Віфлееме яны пакланіліся Хрысту і прынеслі дары: золата, ладан, мірру, пасля чаго звярнуліся дамоў, нашто патрэбна было часу 2 годы.

«Того дня которого тыи три королеве пане бог оу бетлеем искали и хвалили а ему дары дали был бог оу человеченстве

дитятком ветринадцет днше оу человечей парсоуне а подлгоу своего векоу был маленко сытый а оубогий оу пеленки аж до плечей оу ослех на сене лежал оувитый а маріи матка его іако теж в ыных книгахг и прикладехг есть писано, было оу парсоуне телиста а мленко сшеда да пред абличностью трех королевч плащем синім а велми оубогим была ся опряноула, которого затвореного перед собою роукою левою держала да ее голова наметцем лияным была оуся абвинена а над яслеми седела правою роукою головку дитяткоу ісви поднимала, да колиж королеве землю перед яслеми ії роуки дитятка покорне целовали тогды дары свои дитяткоу ісви набожне и почесно оферовали а дары свое возле головы дитятка а подле коленг мтки его оу ясли набожне оуложили а што пото с тых даров сталосе нижей оуслышим».

(*В. Н. Перэтц.* «Аповесць аб трох каралях-валхвах у заходнерускім спіску XV ст». СПБ, 1903 г., стар. 29).

Калі чуткі аб нараджэнні Хрыста пашырыліся на ўсёй Іудэі і Ірад загадаў збіваць дзяцей, Марыі з Іосіфам давялося ўцякаць у Егіпет. Пасля адступленняў апакрыфічнага характару гаворыцца аб звароце Іосіфа і Марыі з Егіпта.

Далей справа адбываецца ў Індыі на радзіме трох каралёў. Ап. Фома прапаведуе ім хрысціянства, яны становяцца хрысціянамі і іх пасвяшчаюць у архіепіскапы. Потым яны паміраюць, над іх трунамі адбываюцца цуды.

Пасля гэтага гутарка ідзе аб св. Елене, якая аглядае святыя месцы ў Палестыне, будуе цэрквы ў Віфліеме, Назарэце, на г. Фаворы, дастае целы трох каралёў, пераносіць іх у Канстантынопаль, адкуль яны трапляюць у Мілан, урэшце, у Кельн. Заканчваецца аповесць апісаннем рэлігійных звычаяў розных народаў і пахвалой Кельну.

І гэтая аповесць, напоўненая апакрыфічнымі легендамі, мае вялікую цікавасць для чытаючай публікі па тых-жа самых матывах, што і апавяданне аб пакутах Ісуса Хрыста, смерці і ўваскрашэнні яго.

Вучоныя ўказваюць як крыніцу гэтай аповесці на лацінскую легенду, з якой, мабыць, і быў зроблены беларускі пераклад у XV ці ў пачатку XVI ст.

Гэтых абодвух апакрыфічных твораў цалкам дастаткова дзеля таго, каб меркаваць аб характары апакрыфічнай літаратуры XIII—XVI стагоддзяў. Яна і тут была трох відаў, г. зн. ветхазаветнай, новазаветнай і эсхаталагічнай. Няма падстаў сумнявацца, што аб'ём яе быў вельмі значным, даследванні ў гэтым напрамку выявяць перад намі многа помнікаў.

Ак. Карскі з гэтага поваду піша: «Побач з кананічнымі кнігамі св. пісання і жыціямі ў даўнейшыя часы ў Заходняй Русі (г. зн. Беларусі—*М. Д.*), як і ў усходняй меліся і апакрыфічныя кнігі, якія давалі цікавую чытанку нашым продкам і адказы на розныя незразумелыя пытанні. Па крайняй меры захавалася некалькі спісаў з заходнерускімі (г. зн. беларускімі—*М. Д.*) асаблівасцямі ў мове розных такіх твораў: такія, напр. «Апокрифическое слово на успение пресвятой богородицы»; «Списки мучений св. Георгия» у Чэцьі 1489 г., «Послание написано от авгаря царя к господу

нашему Иисусу Христу», «Страдание и подвиги св. апостола евангелиста Матфея»; «Страдание св. Филиппа»; «Чудо св. Егория о змеи»; «Початок вопросов о смыслу разума» і г. д. (Гл. *Е. Ф. Карскі.* Белорусы, т. III, вып. II, III стар. 1921, стар. 48).

Паўтараю, што далейшая наша праца ў гэтым напрамку вельмі пашырыць матэрыял і дасць права для больш пераканаўчай аргументацыі.

## Павучанні, пасланні, хаджэнні

Мы бачылі, што ў перыяд Кіеўскай Русі былі развіты жанры павучанняў, пасланняў і хаджэнняў на ўсёй тэрыторыі; у тым ліку ў Беларусі. Нельга сумнявацца, што гэтыя жанры прадаўжалі існаваць і ў перыяд XIV—XVI стагоддзяў і ў арыгінальных і ў перакладных творах. Аднак, нераспрацаванне матэрыялу не дае нам магчымасці характарызаваць гэтыя жанры дастаткова выразна, хаця здавалася-б, што гістарычныя ўмовы існавання Беларусі павінны былі асабліва моцна развіць літаратуру павучанняў і пасланняў. Паколькі што мы назавем «Собрание слов поучительных XV века» і «Повчение на рождество Христово и сказание о богородице XV века» і «Казанье Кирилла Иерусалимского».

У вывучэнні гэтага жанра ў перыяд XIV—XVI стагоддзяў амаль што нічога не зроблена.

## Зборнікі царкоўна-рэлігійнай літаратуры

Як ужо было ўказана вышэй апакрыфічныя і жыційныя творы і павучанні і пасланні існавалі не толькі асобна, але аб'ядналіся ў цэлыя зборнікі.

З гэтых зборнікаў, часткова ўжо названых вышэй, можна ўспамянуць: Мінея месячная, месцы сакавік і красавік 1487 г.; Заходне-руская чэцья 1489 г.; Павучанні Ефрэма Сірына 1492 г. Пралог, месяцы сакавік—жнівень, 1496 г.; Пацерыкі азбучны і Ерусалімскі, з рознымі дадаткамі, XV ст.; збор слоў павучальных XV ст.; Заходне-рускі зборнік XV ст.; Зборнік канца XV стагоддзя; Зборнік «Десятоглав» 1502—1507; Пралог, месяцы верасень—люты, 1512 г. і інш. зборнікі.

Такім чынам, калі мы будзем разглядаць гэтыя зборнікі па жанрах, дык убачым, што кожны з іх (жанраў) мае свае зборнікі: апакрыфічныя, жыційныя, павучанняў і пасланняў. Наяўнасць такіх зборнікаў сведчыць аб вялікай цікавасці беларускіх чытачоў да помнікаў літаратуры ў перыяд з XIII па XVI стагоддзе.

## Вынікі літаратурнага развіцця з пал. XIII—пал. XVI стагоддзяў

Наш кароткі агляд беларускай літаратуры з пал. XIII да паловы XVI стагоддзя хаця і не з'яўляецца ні поўным, ні вычарпальным, усё-ж дае яснае ўяўленне аб асноўных момантах гісторыка-літаратурнага развіцця. Раней за ўсё мы адзначаем, што асновай для беларускай літаратуры з'яўляецца культура Кіеўскай Русі.

У гэтых адносінах Беларусь такая-ж законная наследніца старарускай культуры, як і Украіна і Расія. Разгледжаны перыяд з'яўляецца перыядам фарміравання беларускай нацыянальнасці, а значыцца мовы і літаратуры, псіхікі, як неабходных элементаў нацыі. За гэты перыяд выразна абазначыліся беларуская мова і літаратура, на якой з'явіліся самыя рознастайныя мастацкія і гістарычныя творы.

Тут мы бачылі летапіс, творы воінскай аповесці («Задоншчына» ці «Сказанне»), жыціі, апокрыфы і інш. жанры царкоўна-рэлігійнай літаратуры.

За гэты гістарычны перыяд выразна выступілі супярэчнасці, у якіх знаходзілася Беларусь. Панаванне польска-літоўскіх паноў і шляхты не магло зламіць беларускай народнасці, якая ўвесь час імкнулася да роднага рускага народа, да Маскоўскай дзяржавы.

У той-жа час на паўночным усходзе складваецца магутная нацыянальная велікаруская дзяржава, ясна адчуваючая сваю кроўную сувязь з заходнімі рускімі землямі, г. зн. з Беларуссю. Такім чынам, мы назіраем сустрэчны рух асобных частак, калісьці адзінага рускага народа, які склаўся ў сілу гістарычных умоў у тры самастойныя народы. Разгледжаны намі перыяд з'яўляецца толькі пачаткам, перыядам фарміравання беларускай літаратуры і мовы, перыядам барацьбы за сваю самастойнасць і права на развіццё.

Гэта барацьба не толькі не спыняецца ў наступным перыядзе (XVI, XVII, XVIII ст. ст.), але прымае, дзякуючы страшэннаму прыгнёту з боку пануючых колаў Польшчы і Літвы, вельмі рэзкі характар. Урэшце, пасля шматгадовай барацьбы Беларусь варочаецца ў склад Расіі і такім чынам завяршаецца гістарычны працэс далучэння рускіх зямель у адно цэлае. У гэтых працэсах, якія адбываліся ў XVI, XVII і XVIII ст. ст., выключная роля належыць беларускай літаратуры. Яна адна вяла барацьбу за народ, за яго нацыянальную незалежнасць, за яго мову і культуру. Яна была важнейшым рэчышчам, па якому ішло развіццё народнай самасвядомасці, яна стала важнейшым сродкам у народнай барацьбе за сваю незалежнасць, за права на развіццё, за захаванне сябе, як народ, як самастойнага народа. Нямногім літаратарам выпадае на долю такая роля, але тыя літаратары, якім яна выпадае і якія выконваюць яе з гонарам, заслугоўваюць усялякай увагі і шанавання.

*(Канец будзе).*

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Мінск, Савецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-36

## ЗМЕСТ



---

Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 25/X-39 г. Падпісана да друку 4/XII-39 г. Аб'ём $8^3/_4$ друк. арк. Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62\times94^1/_{16}$. Тыраж экз. Зак. № 1049
Уп. Галоўліта БССР № 674.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, Дом Друку.

